УДК 908(476.6)
ББК 26.89(4Беи)
А97

Укладальнікі
Міхась Карпечанка, Сяргей Чыгрын

Прадмова
Сяргея Чыгрына

Фундатары выдання: (спіс БУДЗЕ)

**Ачышчэнне** душы : успаміны пра Валянціна Ермаловіча /
А97 уклад. М. Карпечанка, С. Чыгрын ; прадм. С. Чыгрына. —
Мінск : Кнігазбор, 2014. — 104 с.
ISBN 978-985-7119-13-4.

У кнігу «Ачышчэнне душы» ўвайшлі ўспаміны пра тэатральнага рэжысёра, акцёра, педагога, заслужанага работніка культуры Беларусі Валянціна Іванавіча Ермаловіча (1925–2004).

**УДК 908(476.6)**
**ББК 26.89(4Беи)**

**ISBN 978-985-7119-13-4**



## ЁН АЧЫШЧАЎ НАШЫ ДУШЫ

Кнігу, якую вы, шаноўныя чытачы, трымаеце ў руках, напісалі тыя, хто добра ведаў, шчыра сябраваў і вучыўся ў выдатнага педагога, рэжысёра, заслужанага работніка культуры Беларусі Валянціна Іванавіча Ермаловіча. Гэта кніга — светлая памяць пра чалавека, якога мы ведалі, якога часта прыгадваем сёння самымі добрымі словамі. І да гэтай памяці далучыліся былыя сябры і вучні з Магілёва, дзе ён жыў і працаваў, а таксама з Мінска, Слоніма, Бялынічаў, Краснаполля… Пра Валянціна Іванавіча маглі б успомніць сотні людзей, якія яго ведалі, якіх ён вучыў, з кім працаваў. І, магчыма, наша кніга будзе толькі першай ластаўкай успамінаў пра яго. А да наступных юбілеяў рэжысёра Ермаловіча напішуцца новыя згадкі…

Акрамя тэкстаў, створаных адмыслова для гэтага зборніка, мы вырашылі ўключыць у кнігу і артыкул журналіста, публіцыста і паэта Сямёна Сямёнава, які жыў у Краснаполлі і працаваў тады ў райгазеце «Чырвоны сцяг». Гэта яго публікацыя пра Краснапольскі народны тэатр і пра Валянціна Ермаловіча мела назву «Ачышчэнне душы».

Сёння нават і не верыцца, што ў той час маглі з'яўляцца ў раёнках такія матэрыялы! Цяпер, на жаль, смелых і адкрытых артыкулаў рэдактары не апублікуюць. А тады такія журналісты, як Сямён Сямёнаў, маглі смела прапаноўваць свае вострыя матэрыялы для абнародавання. І рэдактары не баяліся іх друкаваць.

Дарэчы, даўно пара сабраць і выдаць асобнай кнігай артыкулы і мастацкія творы самога Сямёна Сямёнава. Ён заслугоўвае такой пашаны.

Загалоўкам артыкула Сямёна Сямёнава мы назвалі і гэту кнігу ўспамінаў пра Валянціна Ермаловіча. Бо гэта сапраўды так. Валянцін Іванавіч ачышчаў нашы душы ад тлуму, самоты і адзіноцтва, а хутка напаўняў іх святлом, любоўю да Радзімы і беларускага тэатра, шчырай дабрынёй і настроем. З ім мы не сумавалі, бо ён для нас усіх, хто яго ведаў, быў і педагогам, і тэатразнаўцам, і бацькам, і літаратарам. Мы бралі з яго прыклад, мы хацелі быць падобнымі да Ермаловіча, мы заў-

сёды з ім гутарылі толькі па-беларуску. А потым гэта любоў да роднай мовы перадалася нам у спадчыну, перадалася так, каб мы з гонарам заўсёды казалі, што мы — беларусы, мова наша — беларуская, краіна наша — Беларусь. І нам не трэба іншай… Нам добра дома.

Самі назвы артыкулаў гэтай кнігі станоўча характарызуюць Валянціна Іванавіча, аўтары шчыра называюць яго нястомным руплівцам, беларускім абярэгам, сябрам, дарадчыкам, чалавекам ад Бога, сапраўдным беларусам, таленавітым рэжысёрам, які быў заўсёды патрэбны людзям, бо тыя вучыліся ў яго жыць, бралі з яго прыклад, ён захапляў нас тэатрам, і таму мы заўсёды яго памятаем.

Кніга «Ачышчэнне душы» — маленькі помнік нашаму слаўнаму старэйшаму сябру, якому 17 сакавіка 2015 года споўнілася б 90. Таму, акрамя ўспамінаў, на старонках нашага выдання чытачы знойдуць і адну даўнюю гутарку з рэжысёрам, якую правёў Міхась Карпечанка напярэдадні 70-годдзя Валянціна Іванавіча. Гэта пэўнае дапаўненне да ўсіх нашых успамінаў. У той гутарцы ёсць вельмі важкія словы Валянціна Ермаловіча. Тады ён сказаў, што «сапраўдны работнік нацыянальнай культуры абавязаны быць патрыётам Радзімы». Мы працягваем Вашу справу, Валянцін Іванавіч! Мы сёння такія, якімі Вы заўсёды нас хацелі бачыць. Дзякуй вам за ўсё!

*Сяргей ЧЫГРЫН*



**· Зміцер Ермаловіч-Дашчынскі ·**
*(Мінск)*

## ДЗЯДУЛЯ

*Светлай памяці заслужанага дзеяча культуры Беларусі, ветэрана Вялікай Айчыннай вайны Валянціна Іванавіча Ермаловіча*

У тэатральным жэсце двор
Спыніўся, каб адчулі
На ўзвышшы лёсу, як дакор:
Ужо няма дзядулі…

На схіле года першы снег,
Як смутак, яблык горкі…
На небе прыпыняюць бег
Яго душа і зорка.

Дзе адзіноты неспакой,
Там згублена адзінства.
Калі пайшоў дзядуля мой,
Пайшло маё дзяцінства.

І па жалезнаму пуці
Імчыць мой хуткі творчы.
Пражыць — не поле перайсці,
Я ведаю: ён побач.

Жыццё — Гасподні трыялет
(Было спачатку Слова),
Таму не згасне рампы свет,
Пакуль у вуснах Мова.

І грае зноў святую роль
Дзядуля мой, як мусіць,
І ён на ўсё жыццё са мной,
Навечна — з Беларуссю.

· **Віктар Арцем'еў** ·

*(Магілёў)*

## НЯСТОМНЫ РУПЛІВЕЦ РОДНАЙ КУЛЬТУРЫ

Заслужаны работнік культуры Беларусі, рэжысёр і стваральнік ці ўзнаўляльнік пяці самадзейных тэатраў Валянцін Ермаловіч меў найбагацейшы акцёрскі багаж, а яшчэ 29 гадоў настаўніцкага стажу ў Магілёўскім культасветвучылішчы. Да апошняга дня свайго жыцця кіраваў народным тэатрам Магілёўскага Цэнтра культуры і вольнага часу, а яшчэ чытаў у маладзёжных аўдыторыях лепшыя творы вядомых беларускіх пісьменнікаў.

Пра Валянціна Ермаловіча як акцёра і рэжысёра багата сказана і напісана ў газетах і часопісах. А ён жа яшчэ быў выдатным майстрам жывога мастацкага слова і меў талент літаратара (на жаль, апошні дар яго не паспеў поўнасцю раскрыцца). Хаця б збольшага раскажу пра яго як пра чытальніка, майстра мастацкага слова.

Стаць чытальнікам беларускага прыгожага пісьменства, роднага паэтычнага слова Валянціна Іванавіча падахвоціў паэт Аляксей Пысін. Іх знаёмства, якое потым перарасло ў шчырае сяброўства, адбылося ў 1963 годзе, калі тэатральны самадзейны калектыў Магілёўскай шоўкавай фабрыкі даваў спектакль «Хто смяецца апошнім» па п'есе Кандрата Крапівы. У гутарцы пра спектакль (Пысін рабіў водгук для газеты) яны паразумеліся, як франтавікі, і дамоў у той вечар першай сустрэчы крочылі ўжо разам як даўнія сябры, дзелячыся ўспамінамі аб перажытым на вайне.

Валянцін Ермаловіч стаў запрашаць паэта-франтавіка Пысіна на свае літаратурна-музычныя вечары, якія ладзіў з навучэнцамі тэатральнага аддзялення вучылішча. А. В. Пысін таксама прымаў удзел у тых вечарах і ў справаздачах, а ў часопісе «Беларусь», як сакратар Магілёўскага аддзялення Саюза пісьменнікаў, пісаў: «Магілёўскія пісьменнікі наладзілі добрае супрацоўніцтва з абласным аддзяленнем Таварыства аматараў кнігі і Магілёўскім культасветвучылішчам. І літаратурныя вечары, і святы кнігі яны праводзілі сумесна».



Аляксей Васільевіч неўпрыкмет, як бы мімаходзь, па-сяброўску стаў падказваць Валянціну Іванавічу найменні твораў пісьменнікаў, якія добра было б уключыць у рэпертуар, а таксама раіў маршруты паездак навучэнцаў з канцэртамі. Валянцін Іванавіч пра сваё творчае супрацоўніцтва з паэтам Пысіным ахвотна распавядаў сябрам, шчодра дзяліўся ўспамінамі і на літаратурных вечарынах, прысвечаных Пысіну. А пазней адлюстраваў тыя ўспаміны ў цудоўным нарысе «Незабыўныя згадкі памяці»: «Так па яго своечасовай падказцы з'ездзілі мы (разам з Пысіным. — *В. А.*) на паклон В. Дуніну-Марцінкевічу на Бабруйшчыну, былі ў Чавусах на радзіме паэтаў Андрэя Ушакова і Уладзіміра Рагуцкага, палеглых на вайне. Былі і над Ольсайракой у Клічаве разам з калмыцкім паэтам Міхаілам Ханінавым, дзе ён калісьці партызаніў… Новую кнігу яго вершаў "Жураўлі над стэпам" пераклаў на беларускую мову А. Пысін. Завіталі і на Браншчыну, у Красную Гару.

Звоніць неяк Аляксей: "Выйдзі на плошчу, размова ёсць".

Сустрэліся, ён і пытае: "А чаму ты сам не выступаеш з мастацкім чытаннем? Вось новая кніга гумарэсак «Маўчанне навыперадкі» Апанаса Палітыкі з Крычава. Вучы гумарэску «Утульнасць і каханне», на вечары сатыры і гумару, які мы мяркуем зрабіць у Крычаве, прачытаеш. Не горш атрымаецца, як у вучняў тваіх". Яго словы спраўдзіліся, аўтар гумарэсак і слухачы былі задаволены.

З таго часу я пачаў папаўняць свой камедыйны рэпертуар, і па хадайніцтве Пысіна Саюз пісьменнікаў Беларусі атэставаў мяне як майстра мастацкага слова і па пуцёўцы Бюро прапаганды беларускай літаратуры разам з Аляксеем выступалі амаль ва ўсіх установах і на прадпрыемствах Магілёва. Заглянулі і ў Жлобін.

Першым выступаў Пысін, чытаў свае новыя вершы, адказваў на пытанні, не толькі літаратурныя. Пасля я чытаў лекцыю-канцэрт "Беларускі гумар і сатыра за новы быт". Аднойчы ён мяне паправіў: "Ты менш гавары пра гумар, а чытай яго. Гумар наш змястоўны, людзі і самі зразумеюць, што да чаго". Гэта яго мудрая парада і цяпер дапамагае мне хутка знаходзіць водгук у слухачоў.

Я здзіўляўся яго неўтаймаванай энергіі. У яго амаль ні аднаго дня не праходзіла без творчых сустрэч, выступленняў. І ўсё рабілася ціха, без шуму і галасу. Гэта быў нястомны руплівец адраджэння беларускай культуры».

Кожнае слова апошняга абзаца з урыўка ўспамінаў Валянціна Ермаловіча можна з поўным правам аднесці і да яго самога. Ён такі ж, як і Пысін, неўтаймоўны руплівец адраджэння беларускай культуры. З Аляксеем Пысіным і Валянцінам Ермаловічам я таксама ездзіў у Крычаў і ў Горкі. Калі было магчыма, то не прапускаў аніводнага іх літаратурнага выступлення ў Магілёве. Як супрацоўнік Бюро прапаганды мастацкай літаратуры Саюза пісьменнікаў БССР, я выпісваў ім пуцёўкі, папярэдне дамовіўшыся з кіраўніцтвам прадпрыемства ці навучальнай установы.

З Валянцінам Іванавічам мяне пазнаёміў Аляксей Васільевіч у 1976 годзе, у якім я пачаў арганізоўваць літаратурныя вечарыны.

— Гэта лепшы чытальнік у Беларусі. У Мінску такіх няма. І чалавек ён добры, інтэлігентны, — сказаў мне Пысін напярэдадні мастацкага чытання Ермаловіча.

У гэтым я пераканаўся пры першай жа сустрэчы з Валянцінам Іванавічам у маладзёжнай аўдыторыі. І калі ў Бюро прапаганды праходзіла атэстацыя Ермаловіча, то і я закінуў за яго слова. Аляксей Васільевіч пры выпадку гаварыў пра Ермаловіча:

— Гэта заслужаны артыст рэспублікі!

Пысін спрабаваў нават рабіць захады, каб такое званне прысвоілі. У Мінску, здаецца, дамовіўся, але заўпарцілася краснапольскае начальства. І толькі пазней, ужо ў 1988 годзе, В. І. Ермаловіч атрымаў званне заслужанага работніка культуры.

Падчас сустрэч з магілёўцамі да Валянціна Ермаловіча далучалася самадзейная чытальніца гумарэсак, яго вучаніца, Лідзія Андрэеўна Звяркова. Тады вельмі ўжо захапляльны быў вечар. Пасля аднаго такога вечара Аляксей Васільевіч гаварыў мне:

— Талент Валянціна Ермаловіча і Лідзіі Звярковай — нацыянальны набытак нашай дзяржавы, і яго трэба берагчы!

Пысін і Ермаловіч былі не толькі блізкія сябры, яны былі духоўна родныя людзі. Аляксей Васільевіч глядзеў кожную прэм’еру Краснапольскага народнага тэатра. І верш пра тэатр склаў — «Прэм’ера ў гарадскім пасёлку Краснаполле». Паэт і ў Мінск выязджаў для запісу на тэлебачанні землякоў-краснапольцаў, перад спектаклем рабіў уступнае слова на ўсю Беларусь. А калі прыйшоў чарод ягонага юбілею — 60-годдзе з дня нараджэння, то адмовіўся ад мінскіх акцёраў-прафесіяналаў і папрасіў, каб на сталічнай сцэне дазволілі паказаць спектакль яго роднага Краснапольскага народнага тэатра, рэжысёрам якога быў Валянцін Ермаловіч.

Калі ў 1981 годзе А. В. Пысін пайшоў з жыцця, я арганізоўваў літаратурныя вечарыны ў Магілёве амаль пяць гадоў і час ад часу запрашаў на іх В. І. Ермаловіча і Л. А. Звяркову.

Валянцін Ермаловіч меў у сваім рэпертуары чытальніка творы Якуба Коласа, Янкі Купалы, Кандрата Крапівы, Ніла Гілевіча, Аляксея Пысіна і іншых беларускіх пісьменнікаў.

Мне даводзілася бываць і ў сям’і Валянціна Іванавіча. Там заўсёды панавала атмасфера цеплыні, блізкасці і павагі адно да аднаго, пашана да ўсяго роду Ермаловічаў. Быў запрошаны я ў 1985 годзе і на 60-гадовы юбілей Валянціна Іванавіча. У вялікую залу сталовай на вуліцы Піянерская сабраўся ладны дружны гурт Ермаловічаў з Дзяржынска, Пінска і Мінска, госці-магілёўцы.

Валянцін Іванавіч пазнаёміў мяне са сваім братам Міколам, знакамітым беларускім гісторыкам, і нават пасадзіў за стол побач з ім. Мы мелі магчымасць пагаварыць. Пазней Мікола Іванавіч падарыў мне сваю кнігу з аўтографам.

А як пайшоў я на пенсію, то сустрэчы нашы з Валянцінам Іванавічам сталі радзейшымі. Ды цеплыня адносін не змянілася. Бачыліся мы ў чытальні краязнаўчага аддзела абласной бібліятэкі, а то і проста на вуліцах горада. Са святамі віншавалі адзін аднаго тэлефонным званком. Валянцін Іванавіч запрашаў на спектаклі свайго тэатра. Амаль заўсёды мы сустракаліся на літаратурных вечарынах, якія рэгулярна ладзіла Магілёўская абласная бібліятэка. І пры кожнай сустрэчы ў нас была гамонка пра новыя прэм’еры ў тэатры «Валянцін», пра абнаўленне рэпертуару жывога мастацкага слова. Развучыў ён і паўсюдна на вечарынах дэкламаваў літаратурна-мастацкую кампазіцыю «Франтавыя дарогі» (з вершаў Аркадзя Куляшова, Аляксея Пы-

сіна і Васіля Карпечанкі), а яшчэ ўрыўкі з паэм «Новая зямля» Якуба Коласа, «Курган» і «На куццю» Янкі Купалы, іх вершы. Па старой памяці я наладзіў Валянціну Іванавічу некалькі сустрэч у Магілёўскім архітэктурна-будаўнічым каледжы і ў бібліятэчным тэхнікуме. Як і ў даўнія гады, маладыя магілёўцы былі прыемна ўражаны ягоным мастацкім майстэрствам і шчыра выказвалі яму сваю ўдзячнасць. І калі дачуліся, што майстар жывога слова пайшоў з жыцця, то многія прыходзілі праводзіць яго ў апошні шлях. За трунай з нябожчыкам Валянцінам Ермаловічам ішлі выкладчыкі і навучэнцы вучылішча культуры, акцёры народных тэатраў з Магілёва, Бялыніч, Краснаполля…

10 снежня 2004 года ў актавай зале Магілёўскай абласной бібліятэкі я слухаў, як Валянцін Ермаловіч чытаў паэму Янкі Купалы «На куццю» і некалькі вершаў. І думкі не ўзнікала, што чую яго голас у апошні раз. Па заканчэнні вечара мы, як заўсёды, абмяняліся навінамі. Потым я параіў яму аформіць альбом свайго радавода і прадоўжыць успаміны пра вайну і пра тэатр, сказаў, што ў яго вострае літаратурнае пяро, ёсць талент літаратара. Бачыў, што яму было прыемна слухаць гэта. Валянцін Іванавіч адказаў, што радаводам ён даўно займаецца і багата ўжо назапашана. Яшчэ паспеецца, а калі што, то сын Слава зробіць, як трэба. У папках захоўваецца надрукаванае з успамінаў, ёсць багата фотаздымкаў, запрашальных білетаў і іншае.

Мне было вядома, як Валянцін Іванавіч, каб вывесці ў людзі Краснапольскі самадзейны тэатр, дзесяць гадоў запар ездзіў туды. Апошнім часам ён рабіў нялёгкія вандроўкі ў Бялынічы, каб данесці маладой змене прыгажосць мастацкага слова (паспеў і паэму Купалаву «На куццю» прачытаць). Калі ў савецкі час праца артыста аплочвалася, хай сабе і невялікімі грашыма, то ў апошнія гады Валянцін Ермаловіч нёс мастацкае слова ў народ бясплатна. Запрашалі, і ён ішоў. Не адмаўляў нікому.

Апошнім часам яго падводзіў зрок. А як завучваць новыя радкі? Браў лупу і чытаў. Я ведаў пра слабы зрок і, калі сыходзілі з прыступак уваход ў абласную бібліятэку, паспрабаваў падтрымаць яго, ды ён запярэчыў:



— Не трэба! Я сам, я сам…

Ён усё стараўся зрабіць сам: і на працы, і дома. Варыў абед, мыў бялізну разам з жонкай Геняй Міхайлаўнай, па-майстэрску валодаў прасам, швейнай машынай, фотаапаратам… Увогуле, у доме быў незаменны гаспадар. Ён быў узорным сем'янінам, мужным, светлым, інтэлігентным чалавекам.

Магілёўшчына, уся Беларусь страцілі свайго слаўнага сына. Беларускі народ страціў лепшага стваральніка і прапагандыста нацыянальнай культуры. Адно суцяшае: у яго засталося многа таленавітых вучняў, і яны прадоўжаць яго справу, а Валянцін Іванавіч навечна застанецца ў памяці людской.

**· Тамара Братачкіна ·**

*(Краснаполле)*

## ЯГО ЖЫЦЦЁВЫЯ ЎРОКІ

У характары Валянціна Іванавіча Ермаловіча дзіўным чынам спалучаліся таленавітасць і сціпласць. Так у маім жыцці склалася, што жыла і працавала побач з такім чалавекам. Але, скажу шчыра, можа, з-за вялікай занятасці тады не ўсведамляла, што мне трэба было вучыцца ў яго хоць бы і ермаловіцкай адданасці справе, якой служыш. Шкада, што ўсведамленне гэтых жыццёвых урокаў прыйшло позна, калі Валянціна Іванавіча не стала.

Запомнілася некалькі сустрэч з Валянцінам Іванавічам.

Я, выпускніца Магілёўскага культасветвучылішча, у 1980 годзе чакала размеркавання. А Валянцін Ермаловіч тады працаваў галоўным рэжысёрам Краснапольскага тэатра, падшукваў сабе памочніка — другога рэжысёра. Паколькі я скончыла тэатральнае аддзяленне вучылішча і мой педагог Маргарыта Труханава бачыла ўва мне задаткі будучага рэжысёра самадзейнага тэатра, выбар выпаў на мяне. Лёс падводзіў мяне да таго, каб тэатр стаў другім маім домам. Мы нядоўга пагаварылі з Валянцінам Іванавічам аб рэжысуры, аб дыпломным спектаклі нашай групы,

рэжысёрам якога я была, і, здаецца, дамовіліся аб маім будучым месцы працы. Ды жыццё павярнулася так, што замест роднага Краснаполля адправілася па накіраванні на Гомельшчыну.

Чарговая наша сустрэча адбылася праз некалькі гадоў. На той момант я з работніка культуры перакваліфікавалася ў журналіста і працавала ў штаце рэдакцыі Краснапольскай райгазеты.

Быў юбілей нашай раёнкі. Пасля афіцыйнай часткі адбылася культурная праграма. Валянцін Іванавіч запрасіў мяне на вальс. Між турамі вальса размова зайшла аб тэатры. Валянцін Іванавіч сказаў, што задумаў паставіць «Трох сёстраў» Чэхава, і прапанаваў мне ролю адной з сёстраў. Яму бачылася ўва мне штосьці чэхаўскае.

Падобны паварот мяне збянтэжыў. Захапіўшыся журналістыкай, я забылася пра сваю першую прафесію. Але лёсу зноў трэба было ўмяшацца і развесці нашы жыццёвыя шляхі.

Трэці раз сустрэлася з Валянцінам Ермаловічам у Пачапоўскай школе, дзе праходзіла яго сустрэча з вучнямі. Бачылі б вы, як успрымалі ўдзельнікі сустрэчы вершы, якія чытаў Валянцін Іванавіч!

У апошні раз пабачыла Валянціна Іванавіча ў Магілёве. Ён папрасіў прывезці Краснапольскую кнігу-хроніку «Памяць», што я і зрабіла. Паколькі спяшалася на нараду ў аблвыканкам, а ён таксама меў нейкі тэрміновы клопат, доўга паразмаўляць не давялося.

Знаць бы тады, што бачу яго ў апошні раз…



· **Міхась Булавацкі** ·
*(Магілёў)*

## БЕЛАРУСКІ АБЯРЭГ

Савецкі Магілёў. Канец лістапада 1988 года. Групка маральна ўсклапочаных людзей, здзіраючы з сябе скуру саўковага выхавання і саўковага страху, спрабуе правесці сход па стварэнні філіі гісторыка-асветнага Таварыства памяці ахвяр сталінізму «Мартыралог Беларусі». КДБ працуе надзейна — месца і час правядзення сходу ўтаіць не атрымалася. І як толькі група з'яўляецца ў адным з дамоўленых памяшканняў, зараз жа прыходзіць адміністрацыя ўстановы і забараняе правядзенне сходу ў гэтым месцы, выправоджваючы людзей на двор. У другім месцы — тое ж. Упартая група не разыходзіцца і ўсё шукае прыстанішча, з якога можна было б сказаць слова асуджэння сталіншчыне. Але не адстае і «група суправаджэння».

Ужо ў цемры група падыходзіць да культасветвучэльні. І выкладчыца вучэльні Тамара Раманькова рашаецца на апошні варыянт. Загадзя прыпасеным ключом яна адкрывае дзверы вучэльні, запускае групу і імгненна зачыняе дзверы з сярэдзіны на завалу. КДБ усё ж даў прамашку, не прадугледзеў такога жаночага нахабства — гэты варыянт раскрыты не быў. Дырэктар вучэльні дома бестурботна рыхтаваўся да сну, калі яго патрывожылі званком, загадаўшы тэрмінова ехаць да будынка вучэльні. Пакуль безвынікова тузаліся ў фасадныя дзверы, якія надзейна трымала завала, пакуль шукалі ключ ад «чорнага ходу» і мучыліся з заржавелым, даўно не выкарыстованым замком, прайшло больш за гадзіну. Гэтага часу тром дзясяткам людзей хапіла, каб паслухаць гасцей з Мінска З. Пазьняка, Э. Ялугіна, А. Белавусава і сваіх выступоўцаў, а затым абвясціць аб стварэнні філіі «Мартыралогу Беларусі» і абраць кіраўнічыя органы.

Рыхтуючы гэты сход, яго арганізатары добра ўсведамлялі, што чалавека, які будзе абраны на пасаду старшыні філіі, чакаюць шмат непрыемных, нават трывожных, хвілін ды істотныя праблемы на працы. Таму патрэбен быў чалавек, з аднаго боку,

абаронены сякімі-такімі дзяржаўнымі ўзнагародамі ці званнямі (нематываванае звальненне такога з працы, як-ніяк, выглядала б скандальна), а з іншага боку — чалавек псіхічна ўстойлівы і перакананы (да самаахвярнасці!) у правацe распачатай справы. Т. Раманькова сказала: «Я такога ведаю. Гэта выкладчык нашай вучэльні, зараз рэжысёр Краснапольскага народнага тэатра Валянцін Іванавіч Ермаловіч. Яму толькі што прысвоена званне заслужанага дзеяча культуры. А ў трыццатыя гады яго бацька быў арыштаваны і расстраляны».

…Сівы лысаваты чалавек з добрымі і мудрымі вачыма спакойна выслухаў распавед пра новае грамадскае аб’яднанне і нашы аргументы, чаму менавіта яму прапануецца ўзначаліць магілёўскую філію, і, крыху падумаўшы, сказаў: «Што ж, калі трэба — я згодны». Сказана гэта было настолькі па-будзённаму проста, што я грэшным чынам падумаў: а ці ж разумее чалавек, на што ён дае згоду?

І вось цяпер, седзячы ў адной з аўдыторый верхняга паверха вучэльні без святла, якое не ўключалі, каб тыя, што мітусіліся ля зачыненых дзвярэй, не адразу нас знайшлі, я ўслухоўваўся, што скажа гэты чалавек. А ён, як падалося мне, прычмурэламу беларусу, казаў не пра тое. Каратка азначыўшы, што задача новага грамадскага стварэння — вярнуць з небыцця імёны людзей, зніклых у жудасным чэраве сталінізму, ён пачаў гаварыць… аб мове.

«Сярод самых жудасных злачынстваў сталінізму — тое, што ён расстраляў нашу родную мову. Вяртанне роднай мовы да жыцця — адна з асноўных задач нашай дзейнасці. Трэба вярнуць мову нашым дзецям. Трэба, каб дзеці ў пачатковай школе навучаліся на роднай мове…»

Пра што ён кажа?! — свярбела ў маёй галаве. — Вяртанне мовы — патрэбная справа, але ж сёння трэба думаць, як з камунізму выкараскацца, як дамагчыся павагі да людзей іншай думкі, каб ім не трэба было з’язджаць з радзімы ці праціраць нары ў вязніцы! Дый шмат іншых праблем дзяржаўнага ўзроўню ёсць, непараўнальна больш важных, чым праблема вяртання да жыцця роднай мовы…



Разуменне праваты гэтага чалавека прыйшло пазней. Як пазней прыйшло і разуменне прычын яго згоды на пасаду старшыні. Ён не збіраўся займацца арганізацыяй дзейнасці «Мартыралогу», бо проста не меў на гэта часу. Але ён зразумеў, што наіўным энтузіястам новай і досыць рызыкоўнай справы патрэбна прыкрыццё. І ён вырашыў прыкрыць іх сваёй постаццю. Ён ніколі не лічыў гэтае рашэнне нейкім гераізмам і вельмі бянтэжыўся і непакоіўся, калі пра гэта пачыналі неяк узнёсла распавядаць.

Ермаловіч нядоўга быў старшынёй магілёўскай філіі «Мартыралога Беларусі». Пасля таго, як дзейнасць філіі адносна нармалізавалася, яе пачалі прызнаваць і выпускаць на старонкі магілёўскіх газет, пры ўдзеле філіі праводзіліся нарады і дыскусіі ў Доме палітасветы і нават шматтысячныя мітынгі на Савецкай плошчы, ён папрасіў вызваліць яго ад гэтага абавязку. Далей філіяй кіравалі тры яго намеснікі, як сустаршыні. Але ад дзейнасці філіі ён не адышоў, яго часта можна было бачыць на нашых мерапрыемствах.

Палітыка ўсё ж не была яго жыццём. Яго жыццём быў тэатр. Ён, выпускнік Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута, быў адным з тых, з каго напачатку 50-х гадоў мінулага стагоддзя аднаўляўся Магілёўскі драматычны тэатр. Сыграўшы дзясяткі роляў самага рознага амплуа, ён затым пачаў вучыць гэтай справе навучэнцаў культасветвучэльні (зараз — каледж мастацтваў). І праз гэта ўзняўся да працы рэжысёрскай. За свой век ён стварыў ці вярнуў да жыцця пяць самадзейных тэатраў, чатыром з якіх прысвоена званне «народны». Пералік пастаўленых ім спектакляў займае ў Тэатральнай энцыклапедыі амаль старонку. Пераважнай большасцю гэта спектаклі беларускіх аўтараў і на беларускай мове.

А за больш як дзесяцігадовае і досыць плённае кіраўніцтва Краснапольскім народным тэатрам з ініцыятывы паэта А. Пысіна быў ушанараваны званнем заслужанага дзеяча культуры Беларусі. Гэтаму тэатру ён аддаваўся цалкам, праводзячы значную частку свайго жыцця ў дарозе, бо даводзілася штотыдзень, а калі і два-тры разы на тыдзень, ездзіць з Магілёва, за сто кіламетраў, у Краснаполле, праводзіць там дні і ночы, а потым вяртацца

назад, каб паспець на заняткі ў вучэльню. У Краснаполлі дагэтуль успамінаюць гэтага чалавека з вялікай павагай і цеплынёй.

А потым быў тэатр у Бялынічах, тэатры ў Магілёве. Роля рэжысёра тэатра «Валянцін» пры Магілёўскім гарадскім Доме культуры і вольнага часу стала апошняй роляй яго жыцця. У гэтай ролі ён і пакінуў наш свет, не дажыўшы тры месяцы да 80-годдзя.

Нарадзіўся Валянцін Ермаловіч 17 студзеня 1925 года ў сялянскай сям'і з хутара Малыя Навасёлкі пад Койданавам на землях памешчыка Казіміра Кастравіцкага, славутага сваім сынам Карусём Каганцом, на тых землях і пахаваным. Ён быў чацвёртым у сям'і Івана Ермаловіча. А другім з тых чатырох быў Мікола, які пазней вызначыўся як дасціпны даследчык старадаўняй беларускай гісторыі. Валянцін вельмі паважаў свайго старэйшага брата, ганарыўся ім, збіраў усе яго кнігі, братавы публікацыі ў друку ці публікацыі аб ім, аб яго навуковай дзейнасці.

Дзяцінства яго наўрад ці можна назваць шчаслівым. Гаспадарка Івана была немалой і досыць спраўнай, і сям'я магла б жыць бязбедна, каб не сквапнасць бальшавікоў, што захапілі ўладу і пачалі люта вынішчаць усе зародкі ненавіснага ім капіталізму. Спачатку «кулакоў»-аднаасобнікаў абкладвалі рознымі ўсё большымі і большымі падаткамі, потым, з пачаткам так званай «калектывізацыі», тых, хто не хацеў «калектывізавацца», пачалі раскулачваць і высылаць.

Іван Ермаловіч таксама не спяшаўся памяняць хутарскую волю на калгаснае жыццё і на прапанову перасяліцца ў вёску катэгарычна адмовіўся. Але не ведаў, з кім мае справу: адной раніцай прыехалі калгаснікі і садралі дах з хаты. Сям'я вымушана была перасяліцца ў вёску Навасады. А Івана арыштавалі і асудзілі на «дзесяць год без права перапіскі» (сёння ўжо не сакрэт, што гэтымі словамі тады прыкрывалі расстрэл). Далей трох сыноў і дачку гадавала адна маці.

Уражанні яго дзіцячых гадоў так ці інакш маюць палітычныя адценні. Успамінаў, што вяскоўцаў некалькі разоў прымушалі шарэнгамі прачэсваць лясы, так лавілі польскіх шпіёнаў.

А яркім уражаннем ваеннага часу было «завочнае» змаганне фашыстаў з партызанамі за вёску. Партызаны мініравалі подыходы да вёскі. Тады гітлераўцы прымушалі жыхароў паселішча браць валакушы і цягнуць па мінным полі. Коштам некалькіх чалавечых жыццяў поле размініравалася. Так некалькі разоў цягаў валакушу і Валянцін, але пашанцавала. Нарэшце страх перад смерцю ад міны перамог страх перад захопнікамі і сяльчане ўзбунтаваліся: «Няхай цягнуць валакушы тыя жанкі, чые мужы ў партызанах!» На тым мінная вайна і скончылася.

Па вызваленні вёскі Валянцін пайшоў ваяваць. «Таксама крычаў "За Радзіму! За Сталіна!"?» — пытаюся. «Не, такога не чуў. Беглі ў атаку, сціснуўшы зубы. Не крычалі, а стралялі. Які сэнс крычаць, калі цябе ўсё адно не пачуюць у тым грукаце?»

У бітве ля хутара Чары пад Беластокам быў цяжка паранены. Палічылі забітым — і дадому прыйшла пахаванка: «…пал смертью храбрых… похоронен возле хутора Чары…» Але «пахаваны» ўваскрос і вярнуўся дадому. Вярнуўся, каб пражыць яшчэ амаль шэсцьдзясят яркіх гадоў, насычаных справамі дзеля роднай Беларусі, клопатам аб яе долі.

З гумарам успамінаў, як паступаў у тэатральна-мастацкі інстытут, куды вельмі хацелася, але была істотная перашкода: не выгаворваў літары «р». Доўга падбіраў тэкст для мастацкага чытання, дзе б не было непрыемнай літары. І ўвесь час трэніраваўся ў яе выгаворванні. На іспытах гэтай заганы не заўважылі, потым выкладчыкі здзіўляліся, як гэтага можна было не заўважыць. Але за пяць інстытуцкіх гадоў літару адолеў.

Потым сам, прымаючы іспыты ў культасветвучэльні, спачуваў косназыкім вясковым юнакам. Аднаго з іх запомніў асабліва: на фоне галасістых і добра падрыхтаваных выпускнікоў гарадскіх школ гэты юнак выглядаў нязграбна і збянтэжана. Загадзя падрыхтаваны рускамоўны верш прачытаў зусім невыразна, глытаючы ці скажаючы на беларускі лад словы.

Камісія ўжо пераглядвалася, збіраючыся развітацца з хлопцам, бо «ўсё зразумела». Але Ермаловіч папрасіў пачакаць хвілінку і загаварыў з хлопцам па-беларуску, прапанаваўшы яму расказаць аб вясковым жыцці на сваёй мове. Той ажывіўся, як бы расправіў плечы і пачаў з такім гумарам распавядаць розныя гісторыі з вясковага жыцця, што члены камісіі замілавана

заўсміхаліся. Хлопец быў прыняты ў вучэльню. Пазней Мікола Макарцоў стане галоўным рэжысёрам масавых мерапрыемстваў у рэспубліцы, адным з арганізатараў «Дня беларускага пісьменства і друку».

Памёр Ермаловіч нечакана, як часта бывае ў такіх выпадках, бо, нягледзячы на сталы ўзрост і карагод хваробаў, ён да апошніх дзён вёў актыўнае грамадска-карыснае жыццё, не цураючыся палітычнай дзейнасці. Быў сябрам БСДГ, і сябрам не «запісным», лічыў сваім абавязкам прысутнічаць на партыйных сходах і часта выказваў там канструктыўныя ідэі і прапановы. Пры тэатры «Валянцін» існавала суполка Таварыства беларускай мовы, якую ўзначальваў сам рэжысёр. Не аднойчы ён падкрэсліваў публічна, што арганізацыяй тэатра заняўся па даручэнні ТБМ і дзеля пашырэння ўжытку роднай мовы. Настойліва даводзіў і прадстаўнікам мясцовай улады, і кіраўнікам грамадскіх аб’яднанняў неабходнасць ушаноўваць памяць знакамітых землякоў. Марыў пры сваім жыцці ўбачыць на вуліцах Магілёва помнікі Максіму Гарэцкаму і Цішку Гартнаму (месца, дзе пакаяцца костачкі З. Жылуновіча, было знойдзена ў тым ліку і пры яго ўдзеле). На жаль, не дачакаўся здзяйснення гэтай мары, пакінуўшы яе магілёўцам як запавет.

Упраўленне культуры чамусьці вырашыла не праводзіць афіцыйнай цырымоніі развітання з заслужаным дзеячам. Мо баяліся, што хтосьці прынясе нацыянальны сцяг, каб пакрыць нябожчыка. Пахаванне Васіля Быкава са сцягам, ад якога збег міністр культуры, напужала і ніжэйшых чыноўнікаў. Так дзіўна атрымоўваецца: раней перад гэтым сцягам дрыжэлі ворагі, сёння ж дрыжаць свае басурмане. Пахаванне Валянціна Ермаловіча прайшло сціпла і без нашага сцяга…

Да 80-годдзя і 85-годдзя В. Ермаловіча ў Магілёве зладзілі шэраг мерапрыемстваў. Вельмі добра, што праведзены яны з ініцыятывы маладых людзей. Значыць, справу яго жыцця будзе каму прадоўжыць.

А тэатр «Валянцін» працягвае сваю дзейнасць. Праўда, беларускай мовы там стала прыкметна менш…



**· Алег Дзьячкоў ·**
*(Магілёў)*

## МОЙ ВАЛЯНЦІН ІВАНАВІЧ...

У кожнага з нас на жыццёвым шляху заўсёды ёсць адзін–два чалавекі, пра якіх ты з гонарам прамаўляеш: «Ён быў маім настаўнікам!» Такім чалавекам для мяне з’яўляецца Валянцін Ермаловіч.

Калі мы яшчэ не былі знаёмыя з ім, я часта чуў пра яго ў нашым горадзе. І, як заўсёды перад сустрэчай з выбітным чалавекам, крыху хваляваўся. Як кажа мой лепшы сябра: «Дужа не люблю знаёмстваў і сустрэчаў з выбітнымі постацямі, бо баюся расчаравацца». Так і я — быў інфармаваны пра знанага гісторыка Міколу Ермаловіча, роднага брата Валянціна Іванавіча, але калі знаёмства адбылося, то зразумеў, што Валянцін Іванавіч нічым не саступае знакамітаму брату і з’яўляецца яшчэ адным яскравым і адданым прыкладам служэнню Беларусі.

Першая мая сустрэча з Валянцінам Іванавічам адбылася напрыканцы 1990-х гадоў у Магілёўскім гарадскім Доме культуры, дзе праходзіла тады пастаноўка народнага тэатра «Валянцін». Пасля спектакля з хваляваннем падышоў да Валянціна Ермаловіча і запытаўся пра яго брата-гісторыка, бо ў той час я вучыўся на гістарычным факультэце МДУ імя А. Куляшова, а пра Міколу Ермаловіча хадзілі цэлыя легенды. Адбылася нязмушаная размова, і спадар Валянцін, пагляздеўшы на маё зацікаўленне нацыянальнай культурай і добрае валоданне беларускай мовай, адразу ж запрасіў прыняць удзел у пастаноўцы «Дзве душы» Максіма Гарэцкага. Я быў проста шчаслівым, бо не толькі пазнаёміўся з выбітным Ермаловічам, але яшчэ і буду працаваць разам з ім…

За тыя некалькі гадоў, што мне пашчасціла працаваць з Валянцінам Ермаловічам, мы моцна пасябравалі. Можа, гэта для некага і дзіўна гучыць, што сябруюць людзі, калі аднаму пад 80 гадоў, а другому не споўнілася і 25. Але з Валянцінам Іванавічам узроставай мяжы проста не адчувалася. У душы ён быў

дужа малады чалавек, які любіў моладзь, адчуваў яе і захапляўся ёю. І мы ў сваю чаргу захапляліся Ермаловічам.

Энергія, запал, эрудыцыя і нязломнасць гэтага чалавека заўсёды нас уражвалі! Валянцін Ермаловіч быў чалавекам сталага ўзросту, інвалідам вайны з некалькімі раненнямі. А пару асколкаў засталося ў ягоным целе, але ён ніколі не наракаў і не скардзіўся, а дбаў толькі пра працу і беларускі народ.

Можа, гэта занадта гучна прамоўлена, але хто ведаў Ермаловіча, той са мной пагодзіцца.

Памятаю, як Валянцін Іванавіч патрапіў у кардыялогію ў перадынфарктным стане, дзе мы яго наведвалі. І ён нам распавядаў, што двойчы на дзень, зранку і нанач, робіць фізічную зарадку: ходзіць па калідоры, лежачы на ложку круціць «ровар» і робіць практыкаванні на прэс.

Безліч разоў за сваё жыццё мой самы шчыры сябра выступаў з літаратурнымі праграмамі, куды б яго ні запрасілі: у школах, універсітэтах, на заводах, у маленькіх вёсачках або дальніх гарадах. Напрыклад, ездзіў на цягніку ў Маладзечна і Шклоў. У зімовую студзёную завею мог паехаць у Бялынічы.

Шырока эрудзіраваны чалавек, выхаваны і апантаны, спадар Валянцін быў заўсёды жаданым госцем у любой аўдыторыі. Мне неаднойчы прыходзілася наладжваць творчыя сустрэчы ва ўстановах Магілёва з легендарным Беларусам, напрыклад у СШ № 35, СШ № 28, Буйніцкай школе, МДУ імя А. Куляшова. Часам Валянцін Іванавіч мяне называў сваім прадзюсерам. І калі раптам выпадаў тыдзень, калі ён нідзе не выступіў, то жартаваў, што я дрэнна спраўляюся са сваімі абавязкамі, бо «ён прастойвае». А Валянціну Ермаловічу было што сказаць… Ён быў вельмі цікавы суразмоўца.

Паходзілі браты Ермаловічы з Койданаўшчыны, дзе ў іх была ўласная зямля. Бацьку бальшавікі рэпрэсавалі, зямлю адабралі. Калі я размаўляў з Валянцінам Іванавічам, то ў мяне было такое адчуванне, што я сам апынуўся ўдзельнікам тых даўніх падзей. Ён распавядаў пра сядзібу Каруся Каганца, якая была недалёка ад іх маёнтка, пра Алеся Салаўя, з якім нейкі час вучыўся ў



школе, пра К. Саннікава, на акцёрскіх курсах якога пасля вайны навучаўся…

Валянцін Ермаловіч быў надзвычай сціплым і працавітым чалавекам. Ён ніколі не карыстаўся сваімі льготамі ветэрана Вялікай Айчыннай вайны. Калі ў краме была чарга, ён ніколі не патрабаваў, каб яго прапусцілі ўперад, а ціхенька стаяў і нешта нашэптваў сабе. Я неяк запытаўся: «А што вы ўвесь час прамаўляеце?» На што ён адказаў:

— Каб не марнаваць дарэмна час, проста, стаячы ў чарзе або на прыпынку, я паўтараю свае словы са спектакляў і ўзгадваю беларускія вершы.

Часам, калі я спазняўся на рэпетыцыі, Валянцін Іванавіч мне казаў: «Сядай і паслухай, які я новы верш вывучыў, пакуль ты недзе брындаў…»

Пры гэтым варта адзначыць, што чытанне яму давалася вельмі складана, бо зрок у Валянціна Іванавіча быў настолькі дрэнны, што чытаў ён толькі праз лупу!

Валянцін Іванавіч Ермаловіч не дажыў да 80-годдзя ўсяго тры месяцы. І мы з сябрамі здолелі годна правесці ўрачыстую вечарыну да юбілею выбітнага Беларуса. Гарадскія ўлады нам далі добрае памяшканне ў гарадскім Палацы культуры. На вечарыну запрасілі добрых сяброў і творцаў, якія шанавалі нашага вядомага акцёра, рэжысёра і грамадскага дзеяча. Слова трымалі і многія знакамітыя магілёўцы. Завіталі з Мінска пісьменнікі Сяргей Законнікаў, Вольга Іпатава, вучоны Радзім Гарэцкі. Вядоўцай урачыстай вечарыны была абаяльная Зінаіда Бандарэнка.

Валянцін Ермаловіч стаіць у адным шэрагу з такімі дзеячамі, як Максім Гарэцкі, браты Луцкевічы, Васіль Быкаў, Рыгор Барадулін, Аляксей Пысін, Мікола Ермаловіч…

Я з гонарам магу сказаць, што сябраваў з гэтым выбітным і непаўторным Чалавекам.

### · Дзмітрый Ермаловіч ·
*(Мінск)*

## ЁН МАДЭЛЯВАЎ СВОЙ СВЕТ

Калі мне споўнілася дзесяць гадоў, бацька прыняў рашэнне размаўляць толькі па-беларуску. У сям'і склалася дзвюхмоўная сітуацыя, але праблем, спрэчак ніколі з-за гэтага не ўзнікала.

Праз пяць гадоў я пачаў выбіраць ВНУ і спыніўся на Маскоўскім вышэйшым тэхнічным вучылішчы імя Баўмана. Бацька ў мой выбар аніяк не ўмешваўся. І вось у 1974 годзе разам з ім мы паехалі ў Маскву «паступаць» у тое знакамітае і прэстыжнае вучылішча. Здаў іспыты. Сталі чакаць вынікаў. Каб заняць час, бацька прапанаваў наведаць УВДНГ (Усесаюзную выставу дасягненняў народнай гаспадаркі СССР), дзе і прадэманстраваў перада мною псіхалагічны фокус.

Гэта здарылася ў адной з зон адпачынку УВДНГ (іх там было мноства) каля невялікага штучнага басейна, проста звычайнай ёмістасці, да краёў напоўненай вадой. Бацька сказаў мне: «Глядзі…» Ён падышоў да басейна і пачаў уважліва ўглядацца ў спакойнае люстэрка вадаёма. Літаральна праз некалькі хвілін да басейна сталі падыходзіць людзі і разглядаць яго. Сабралася чалавек дваццаць, пачуліся вокрыкі і пытанні: «Вой, гэта што — рыбкі?», «А што тут цікавае?» і г. д.

Бацька выйшаў з кола людзей, якія сабраліся, і мы няспешна пакрочылі. Ён аніяк не каментаваў той выпадак, і яго мы з ім ніколі потым не абмяркоўвалі.

Я паступіў у маскоўскую ВНУ, потым адслужыў на афіцэрскай пасадзе тэрміновую службу ў войску і пачаў сур'ёзна цікавіцца псіхалагічнымі і філасофскімі пытаннямі. Ажаніўся, пераехаў у Мінск. Закончыў філасофскае аддзяленне Белдзяржуніверсітэта. І калі ў працэсе працы над дысертацыяй кіраўніцтва аддзела тэорыі і пазнання Інстытута філасофіі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі рэкамендавала мой артыкул «Пазнанне як мадэляванне рэчаіснасці» для публікацыі ў часопісе «Весці…», запатрабаваўся пераклад яго на беларускую мову. Такім было патрабаванне выдаўца. Бацьку я не ўгаворваў перакласці артыкул. Проста сказаў: «Трэба перакласці на беларускую мову». І ён без пярэчанняў узяўся за працу.

Мне чамусьці думаецца, што бацька працаваў над перакладам з цікавасцю і ахвотна, бо тычыўся ён тэмы, якая вельмі хвалявала і яго самога. У артыкуле абгрунтоўвалася дынамічнае адзінства і цэласнасць пазнавальнага працэсу, што ахоплівае паняцці «Свет. Культура. Чалавек», рэканструявалася дынаміка самога пазнавальнага працэсу на розных этапах яго развіцця, вызначаўся характар развіцця сучаснага асяроддзя пазнання, унутрынавуковай рэфлексіі і пазнавальных сродкаў…

Валянцін Іванавіч усё сваё жыццё імкнуўся да атрымання новых ведаў, да глыбіннага пазнання рэчаіснасці, асэнсавання яе супярэчнасцяў, у тым ліку і тых, што сталі ўжо гісторыяй. Несумненна, усё гэта адбівалася і на яго грамадзянскай пазіцыі, і на выбары п'ес да пастановак, і на яго кантактаваннях і сяброўстве.

А той артыкул мой у цудоўным бацькавым перакладзе быў змешчаны на старонках першага нумара за 2001 год часопіса «Весці НАН Беларусі. Серыя гуманітарных навук».

### · Ірына Жахавец ·
*(Магілёў)*

## НЯЗГАСНАЙ ПАМЯЦІ АГОНЬ

Аб людзях з вялікай літары гаварыць і лёгка, і складана. Лёгка, таму што ёсць, што сказаць. А складана, таму што можна гаварыць бясконца. Такім чалавекам для мяне з'яўляецца Валянцін Іванавіч Ермаловіч, удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, кавалер двух баявых ордэнаў і дзевяці медалёў, заслужаны работнік культуры Беларусі, лаўрэат шматлікіх творчых прэмій, акцёр, рэжысёр, выкладчык.

З 1956 па 1985 год Валянцін Іванавіч выкладаў рэжысуру, майстэрства акцёра, сцэнічную мову ў Магілёўскім культурна-

асветным вучылішчы і кіраваў тэатральнай студыяй. За 29 гадоў працы паставіў 85 спектакляў.

З Валянцінам Іванавічам я пазнаёмілася ў 1973 годзе, калі прыйшла працаваць у вучылішча. Неяк мы разгаварыліся ў настаўніцкай. Я расказала, што працавала піянерважатай у Лудчыцкай школе Быхаўскага раёна і вадзіла піянерскія атрады на знакамітую Лудчыцкую вышыню. У баях за авалоданне ёю чатыры байцы Чырвонай Арміі атрымалі званні Героя Савецкага Саюза. Аказалася, што і Валянцін Іванавіч дзевятнаццацігадовым юнаком ваяваў на трох франтах, з баямі прайшоў Заходнюю Беларусь, Польшчу, Усходнюю Прусію, Германію. Чатыры разы быў паранены. Распавядаў ён пра сваё франтавое жыццё спакойна, не хвалячыся ўласным гераізмам.

Дарэчы, жылі мы з ім па-суседску, праз дом. Здаралася, што разам ездзілі ці хадзілі на працу. Калі я расказала яму, што збіраю матэрыял пра першага рабселькара Магілёўшчыны Фёдара Ракушава, за прысваенне прозвішча якога змагалася наша камсамольская арганізацыя, ён паставіў спектакль «Факел». Я яго не прасіла, не ўгаворвала. Ён сам вырашыў гэта зрабіць. Сам сыграў у спектаклі ролю бацькі Фёдара. Са спектаклем потым выязджалі ў Круглае (на радзіму Ф. Ракушава), у іншыя дамы культуры і сельскія клубы Магілёўшчыны.

Ён быў сапраўдным чалавекам і патрыётам. Валянцін Іванавіч меў уласны погляд на жыццё. Напрыклад, на педсавеце, калі мы амаль дзве гадзіны запар (тады педсаветы працягваліся доўга) абмяркоўвалі бясконцыя выкладчыцкія праблемы, ён браў слова і выдатна пастаўленым голасам па-беларуску агучваў лозунг — «Забараніць паленне!» Валянцін Іванавіч сам вёў здаровы лад жыцця і заклікаў рабіць гэта іншых. І неяк незаўважна размова заходзіла ў дзелавое рэчышча, выступоўцы апускаліся з неба на зямлю і пачыналі гаварыць канструктыўна, аб рэальным і надзённым.

Мы ўсім вучылішчам у верасні выехалі на традыцыйныя сельгасработы. Больш за дзесяць аўтобусаў — сапраўдны працоўны дэсант. Прыехаўшы ў Краснаполле, пачалі звяраць спісы, з мясцовым кіраўніцтвам абмяркоўвалі размеркаванне груп па гаспадарках раёна… У гэтым агульным тлуме я раптам звярнула ўвагу на тое, што Валянцін Ермаловіч прагульваецца ўздоўж дарогі. Як цяпер бачу: штаны па-армейску запраўленыя ў боты, задумлівы позірк…

— Аб чым задумаліся, Валянцін Іванавіч? — звяртаюся да яго з пытаннем.

— Абыходжу родныя мясціны.

Краснапольская зямля для яго сапраўды стала роднай. Шмат гадоў ён кіраваў Краснапольскім народным тэатрам. Нямала зрабіў для развіцця культуры гэтага краю. Яго партрэт і па сёння вісіць у фае Краснапольскага Дома культуры, а мясцовыя людзі ўспамінаюць пра яго і спектаклі з цеплынёй і любоўю.

Апошні раз я сустрэла Валянціна Іванавіча ў сярэдзіне лютага 2004 года ў аўтобусе. Ён ехаў на працу. Быў у добрым настроі. Дзяліўся планамі, шкадаваў, што не можа больш ездзіць у Краснаполле.

…За 58 працоўных гадоў Валянцін Іванавіч Ермаловіч унёс значны ўклад у развіццё культуры Магілёўскай вобласці. Паставіў 130 спектакляў у шасці народных тэатрах, якімі кіраваў. Плюс 85 спектакляў у культасветвучылішчы. Спектаклі паказваліся не толькі ў раённых дамах культуры, але і ў многіх сельскіх клубах. Гэта была сапраўдная асветніцкая дзейнасць.

**· Міхась Карпечанка ·**
*(Бялынічы)*

## З ЯГО БРАЎ ПРЫКЛАД

Адна з самых дарагіх рэчаў у маёй кватэры, да якой адношуся амаль з сакральнай пашанотаю, — саламяны анёл-ахоўнік. Гэта падарунак Валянціна Ермаловіча на маё трыццаціпяцігоддзе.

Ёсць людзі, з якімі ніколі не бывае сумна, а кожная сустрэча з такім чалавекам падвышае і твой, так бы мовіць, тэзаурус. Валянцін Іванавіч вылучаў каласальную інфармацыйную зараджанасць, не кажучы ўжо аб экспрэсіўна-эмацыянальнай.

Шчыра прызнаюся, аніяк не магу прыгадаць нашу самую першую сустрэчу-знаёмства з ім. Як ні напружваю памяць! Затое выразна помню сваю першую сустрэчу са спектаклем. Здарылася гэта напачатку лета 1968 года. Тады ў нашым калгасе «Першамайскі», што на Краснапольшчыне, існавала традыцыя правядзення маёвак па сканчэнні веснавой сяўбы. Тая маёўка запомнілася тым, што замест звыклага канцэрта мясцовай мастацкай самадзейнасці вяскоўцам паказалі спектакль. Казалі, што прывезлі яго «лаўсанаўцы».

Час дарэшты сцёр з памяці не толькі назву пастаноўкі, але і сам сюжэт спектакля. Праз смугу чатырох з хвосцікам дзесяцігоддзяў бачу толькі артыстаў у доўгім белым адзенні на сцэне, састаўленай з некалькіх трактарных прычэпаў, якія прытачылі да ганка невялічкага Малавосаўскага клуба.

Супаставіўшы час і запомненае «лаўсанаўцы», упэўнены, што спектакль той прывозіў менавіта Валянцін Ермаловіч, які акурат тады кіраваў народным тэатрам Палаца культуры Магілёўскага завода штучнага валакна. Пазней паспрабаваў удакладніць гэты момант у самога Валянціна Іванавіча.

«Гастралявалі шмат, — сказаў ён. — Са спектаклямі аб'ездзілі не толькі тваю Краснапольшчыну. Магчыма, што і ў Малым Восаве нейкую пастаноўку паказвалі».

А вось блізка сышліся з ім напачатку 1990-х гадоў, у перыяд, як жартавалі, «другога прышэсця Валянціна Іванавіча ў Бялынічы», калі ён стаў рэжысёрам нашага народнага тэатра юнага гледача. Не будзе перабольшваннем, калі скажу, што сваёй прысутнасцю, сваёй кіпучай дзейнасцю, шчырай работай ён стварыў у рускамоўным мястэчку значны асяродак беларускай культуры, яднаў мясцовых адраджэнцаў, нястомна прапагандаваў лепшыя набыткі нацыянальнай літаратуры. Ужо тое, што з прыходам Валянціна Ермаловіча другое дыханне атрымаў Бялыніцкі тэатр, заслугоўвае вунь якой пахвалы.

Здзіўляла і ўражвала нястомнасць сямідзесяцігадовага Валянціна Іванавіча, які амаль кожны дзень прыязджаў з Магілёва ў Бялынічы на рэпетыцыі, сустрэчы са школьнікамі, для ўдзелу ў канцэртных праграмах, вечарынах… Ён сам, як гаворыцца, набіваўся для сустрэч, асабліва са школьнікамі, разумеючы, што яны — будучыня Беларусі. Таму ішоў менавіта ў школы, дзе гэта будучыня выхоўвалася, падрастала. Нярэдка даваў заданне і мне.

— Міхась, я толькі што на сорак хвілін падрыхтаваў літаратурную кампазіцыю па вершах Пысіна, Куляшова, Багдановіча, — казаў ён. — Дамоўся ў нейкай школе, каб прынялі мяне.

І вечарыны-сустрэчы з Валянцінам Ермаловічам наладжваліся ў школах, бібліятэках, у раённым мастацкім музеі… Не злічыць ужо, колькі іх адбылося, колькі гадзін уласнага жыцця ён патраціў на гэта. Хоць мог бы і проста адпачываць. Заслужыў.

Помню і яго арыгінальны ўрок-лекцыю-канцэрт «Гумар і сатыра ў беларускай літаратуры» для вучняў 9-х і 10-х класаў бялыніцкай СШ № 2. Дзве гадзіны, без перапынку, доўжыўся гэты незвычайны ўрок, які час ад часу перапыняўся то бурнымі апладысментамі, то гучным смехам школьнікаў. Маючы багаты, ўнікальны досвед рэжысёра і акцёра, бліскучую педагагічную практыку, Валянцін Іванавіч здолеў так скампанаваць свой урок, так адмыслова падабраць байкі, гумарэскі, невялічкія сатырычныя мініяцюры, народны гумар і так усё гэта прыпаднесці, што нават адвечныя неслухі-двоечнікі, якім заўсёды ўсё нецікава, заталі дыханне, з першых жа хвілін уцягнуўшыся ў непрывычна цёплую атмасферу творчага сумоўя.

Асобная, і асаблівая, старонка нашага сяброўства і супрацоўніцтва — драматургія. Напрыканцы 1980-х гадоў я пазнаёміўся з краснапальчанкай Яўгеніяй Паўлаўнай Каплуновай, жанчынай трагічнага лёсу. «Тройка» НКУС у 1937 годзе яе і яшчэ дзевяць аднакурснікаў па газетна-выдавецкім аддзяленні літаратурна-лінгвістычнага факультэта Мінскага пэдінстытута асудзіла на дзесяць гадоў лагеру і на пяць гадоў паражэння ў правах. Пакаранне адбывала ў Новасібірскай вобласці разам з пісьменнікам Сяргеем Грахоўскім, сёстрамі Тухачэўскага, унучкай Бухарына, сястрой Свярдлова, жонкамі каменданта Крамля Мядзведзева і камандуючага Кіеўскай ваеннай акругай Якіра… У 1951 годзе яе арыштавалі паўторна, за тое, што сядзела, і выслалі на вечнае пасяленне ў Сібір. Праз два гады памёр Сталін, і Яўгенія Паўлаўна апынулася на волі, а праз некалькі гадоў яе рэабілітавалі.

Канечне, жыццё Яўгеніі Каплуновай «прасілася апрануцца» ў мастацкую форму. Мой выбар выпаў на драму. Назва яе прыйшла адразу ж і неяк раптоўна — «Канвеер»: гэта адно з жахлівых фізічных уздзеянняў пры допытах на «ворагаў народа», якое выкарыстоўвалі нкусаўскія следчыя-садысты.

Валянцін Іванавіч, па нейкай патрэбе зайшоўшы ў чарговы раз да мяне ў рэдакцыю раённай газеты, выпадкова даведаўся пра мае практыкаванні напісання п’есы.

— Пакажы, што напісана ўжо? — папрасіў Ермаловіч.

Я сказаў, што тэкст п’есы яшчэ не аддрукаваны на машынцы, а мой почырк не зусім чытальны, што трэба яшчэ дапісаць тры заключныя сцэнкі…

— За сваю «каліграфію» дужа не перажывай, — запэўніў Валянцін Іванавіч. — Калі будзе цікава — разбяруся. Давайце рукапіс…

Ермаловіч патэлефанаваў у той жа дзень, позна ўвечары.

— Кідай усё і дапісвай п’есу. Буду ставіць.

А назаўтра, з самае раніцы, Валянцін Іванавіч зноў быў у рэдакцыі. Прывёз мой рукапіс, спярэшчаны ягонымі заўвагамі.

Першапачаткова «Канвеер» задумваўся ў трох дзеях, якія ў сваю чаргу падзяляліся на дваццаць з нечым сцэнак.

— Рабі п’есу на дзве дзеі, — параіў рэжысёр. — Другая дзея павінна быць напалову меншай за першую. Сцэнкі выдзяляць не трэба. Звязвай дзеянні лагічна і псіхалагічна. Праз два тыдні прыеду па першую частку. На машынцы не друкуй, почырк разумею.

Сказаўшы: «Ну, не буду перашкаджаць», Валянцін Іванавіч развітаўся.

Вось дык задача! Ведаў дакладна, што роўна праз два тыдні Ермаловіч абавязкова завітае. А падводзіць і расчароўваць яго мне зусім не хацелася, бо даражыў знаёмствам. Узяўся за працу, асэнсоўваў заўвагі Валянціна Іванавіча, штосьці перайначваў у сюжэце. Стараўся літары на паперы выводзіць разборліва, чытальна.

— Так, Міхась, — ледзь пераступіўшы парог кабінета, сказаў Валянцін Ермаловіч. — Акцёры да нашага спектакля падабраныя. Я буду выконваць ролю следчага Маразевіча. Юрку Сухадольца сыграе мой магілёўскі вучань Зміцер Трафімчык — перспектыўны, скажу табе, артыст. Ролю Алены Пшанічнай выканае бібліятэкар Лена Хімордзіна, яна па ўзросце дый псіхалагічна адпавядае тваёй гераіні. За Тамарай Падымака роля Маці Маразевіча, Аляксей Чудакоў паспрабуе пабыць Катам.

Валянцін Іванавіч, задаволена пацёршы рукі, запытальна паглядзеў на мяне. У ягоным уважлівым позірку я выразна прачытаў адно-адзінае пытанне: ці напісаў абяцаную першую дзею?

Паспяшаўся падаць яму тэчку з тэкстам. Ён тут жа, сеўшы за вольны стол, паглыбіўся ў чытанне.

— Амаль што добра, — ацаніў напісанае рэжысёр. — Вось гэты эпізод, — асадкай тлуста перакрэсліў больш за дзве старонкі, — скасуем. Ён лішні, бо ў нечым паўтарае папярэдняе і стрымлівае развіццё сюжэта. А ў драме дзеянне павінна нарастаць, узмацняцца, абвастрацца. Тры вось гэтыя эпізоды трэба дапісаць, звярні ўвагу на псіхалагічную матывацыю паводзінаў у іх Юркі, Маразевіча, Алены… У некалькіх месцах, я падкрэсліў іх, сказы доўгія, груваcткія. Чытаць іх адно, і зусім іншая справа — чуць са сцэны. Перарабі іх абавязкова, канструкцыйна спрасці.

Счакаўшы крыху, Валянцін Іванавіч сказаў:

— Першаасновай спектакля з’яўляецца сам твор, п’еса. Задача рэжысёра заключаецца ў тым, каб глыбока спасцігнуць яе сэнс, драматургію і раскрыць з дапамогай акцёраў. Тады і спектакль атрымаецца. Вось. Тэкст першай дзеі падправіш і друкуй яго на машынцы. Акцёры чакаюць. Зрабі як мінімум шэсць паасобнікаў.

Пад прыглядам Валянціна Іванавіча прайшла дапрацоўка і другой дзеі «Канвеера».

Прэм’ера спектакля адбылася ў Бялынічах у снежні 1996 года. Потым былі паказы яго ў Магілёве, на сцэне Дома літаратара ў Мінску…

А наша творчая садружнасць займела працяг. Пасля «Канвеера» Валянцін Іванавіч зрабіў спектаклі па маіх п’есах «Дачка волі», «Першы пацалунак», «Ёй захацелася жыць», па інсцэні-

роўцы аповесці Віктара Карамазава «Крыж на зямлі і поўня ў небе» — «На парозе блакітнай вясны».

Здавалася, што сваёй няўрымслівай, неўтаймоўнай і пазнавальнай асобай, сваёй рознанакірункавай культурна-асветнай дзейнасцю Валянцін Іванавіч запаўняў усю беларускамоўную духоўную прастору Бялыніччыны. Невыпадкова, аддаючы яму належнае, у апошнім нумары за 1995 год раённай газеты «Зара над Друццю» з'явіліся наступныя віншавальныя радкі заслужанаму работніку культуры Беларусі Валянціну Ермаловічу:

Каб не згас агеньчык
тэатральны,
Каб яшчэ не год, не два свяціў,
Вы прыклалі свой вялікі талент
І душы юначае парыў.
І за гэта дзякуе Вам сёння
Наш Прыдруцкі старажытны
край.
Шмат гадоў пад сонцам
і пад поўняй,
А галоўнае — здароўя Бог Вам
дай!

З Бялынічамі і бялынічанамі Валянцін Ермаловіч развітаўся па-свойму. Цудоўна, арыгінальна і непаўторна. За пяць гадоў працы ён паставіў тут 7 спектакляў, добры дзясятак аднаактовых п'ес, мноства гумарыстычных мініяцюр. І не толькі паставіў, але і сам выконваў у іх ролі, а ў многіх спектаклях і галоўныя.

— Ведаеш, Міхась, стан здароўя не той, — сказаў мне аднойчы Валянцін Іванавіч, — каб ездзіць у Бялынічы. Восьмы дзясятак гадочкаў ідзе. Дый у «Валянціна» работы хапае.

А развітаўся ён з Бялынічамі незабыўнай «Тэатральнай восенню».

26 лістапада 1998 года прайшло першае мерапрыемства яго развітальнай праграмы: у мастацкім музеі імя Вітольда Бялыніцкага-Бірулі цягам амаль дзвюх гадзін Валянцін Іванавіч натхнёна дэкламаваў адзін са сваіх любімых твораў — паэму «Новая зямля» Якуба Коласа, якую ведаў на памяць.



Заўважу, што ў дзеяннях, учынках, паводзінах Валянцін Ермаловіч ніколі не дапускаў выпадковасцяў. Усё прадумваў да дэталяў. Сваю развітальную праграму ён пачаў менавіта з мастацкага музея таму, што Вітольд Каятанавіч і Якуб Колас — класікі, выбітныя беларусы, яны былі знаёмыя паміж сабой і абодва любілі і тонка разумелі прыроду. Сам Валянцін Іванавіч быў частым госцем музея, дзе прайшло, можа, больш за палову яго бялыніцкіх сустрэч з вучнямі, вечарын. Валянцін Ермаловіч непаўторна і бліскуча сыграў ролю Вітольда Бялыніцкага-Бірулі ў спектаклі «На парозе блакітнай вясны».

А ў вечары таго ж дня Ермаловічаў вучань з Краснаполля Аляксандр Паплыка прывёз у Бялынічы спектакль «Суд» па п'есе У. Галубка. Паэму Сяргея Законнікава «Зязюля» таленавіта і ўражліва прачытала паплечніца Валянціна Іванавіча магіляўчанка Лілія Кузьменка.

Потым кожны вечар чатырох наступных дзён на сцэне былога пасялковага Савета ішлі спектаклі: «Дагарэла свечачка» па п'есе А. Петрашкевіча, монаспектакль, у якім Ермаловіч выступіў як акцёр, «Чаго жыў?» паводле трох п'ес А. Дударава («Вечар», «Узлёт», «Парог»), «Канвеер» па п'есе аўтара гэтых радкоў. Завяршыла «Тэатральную восень» неўміручая Купалава «Паўлінка».

У Бялынічах Валянціна Ермаловіча стала не хапаць. Здаецца, адчуваў гэта і ён сам, бо літаральна праз тры месяцы падчас чарговага тэлефанавання я пачуў знаёмае:

— Міхась, падрыхтаваў літаратурную кампазіцыю па лірыцы Віктара Хаўратовіча. Цяпер складаю праграму кампазіцыі з патрыятычных твораў Янкі Купалы, Алеся Гаруна, Каруся Каганца, Ніла Гілевіча…

— На які дзень замаўляць сустрэчу, Валянцін Іванавіч?

— У першай палове любога дня…

І Валянцін Іванавіч абавязкова прыязджаў. Найчасцей гэтыя вечарыны ладзіліся ў раённым мастацкім музеі імя В. Бялыніцкага-Бірулі.

Незадоўга да смерці ён пачаў адбіраць, сістэматызаваць матэрыялы са свайго багатага рэжысёрскага, акцёрскага вопыту для кнігі, якую марыў напісаць.

— Там будуць, — гаварыў, — такія раздзелы: праца рэжысёра самадзейнага тэатра з акцёрамі, яго праца з аўтарамі п'ес, рэжысура літаратурна-мастацкіх кампазіцый. Фармірую адпаведныя папкі. Спадзяюся, што не адмовішся рэдагаваць маю кнігу.

Прапанаваў уключыць у гэту кнігу і раздзел пра Ермаловіча-франтавіка. На тым і пагадзіліся. Прыступілі да працы. Але, на вялікі жаль, скончыць яе не паспелі. Апісалі толькі ўдзел Валянціна Іванавіча ў Вялікай Айчыннай вайне.

…Калі кажуць, што Валянцін Ермаловіч — цэлая эпоха ў самадзейным тэатральным жыцці Беларусі, то гэта, з аднаго боку, абсалютна правільна, а з другога, — трошку недакладна. Са смерцю Валянціна Іванавіча адышла і цэлая эпоха духоўнага жыцця краіны. Асабіста для мяне ён быў прыкладам паслядоўнасці і вернасці ідэалам адраджэння Беларусі, прыкладам чалавека, які не скараецца нават у самых безнадзейных сітуацыях, які самаадданa працуе і тады, калі выдатна разумее, што ў дадзеных абставінах шанцу на поспех няма і не можа быць. У моманты важнага жыццёвага выбару Валянцін Ермаловіч заўсёды аддаваў перавагу свабодзе ў супрацьвагу неабходнасці, як патрабавалі, на што арыентавалі розныя дарадчыкі, бо выдатна разумеў, што апошняя абавязкова спараджае зло і прыводзіць да несвабоды.

### · Яраслаў Клімуць ·
*(Магілёў)*

## ЗГАДКІ ПРА АДНО ДЗЕСЯЦІГОДДЗЕ

Я ніколі не задумваўся над такой звычайнай з'явай, што нешта некалі трэба будзе ўспамінаць, занатоўваць і ўвогуле пісаць пра свае сустрэчы з цікавымі людзьмі. Чамусьці саманадзейна думалася пра цэпкую памяць, дзе ўсё даўно і роўна адклалася. Быццам і патрэбы не было нешта запісваць. Але жыццё вучыць, і вось ужо ў старасці высвятляецца, што за тваёй спіной нейкае чыстае поле без людзей, падзей, жыццёвага віру. І толькі зрэдку, у самых неспрыяльных умовах (у аўтобусе, на занятках і г. д.) раптам успыхвае нейкі ўспамін, яркі, як сонца, і ёсць жаданне яго матэрыялізаваць, але няма магчымасці, і ён тут жа знікае, як той міг бліскавіцы. І калі ўзнікае патрэба пра нешта ці некага напісаць, тады ідуць натужныя ўспаміны, якія звычайна не даюць патрэбнага плёну.

Усё ж памяць такая рэч, што прымушае ўзнаўляць былое. Так вось і ў сувязі з Валянцінам Іванавічам Ермаловічам. Нашы шляхі доўгі час, можна сказаць, ішлі паралельна, па геаметрычным законе, не перасякаючыся. У 1975 годзе я па конкурсе быў выбраны старшым выкладчыкам на кафедру беларускай літаратуры Магілёўскага педінстытута, а Валянцін Іванавіч у той час яшчэ працаваў выкладчыкам Магілёўскага культасветвучылішча і адначасова быў рэжысёрам Краснапольскага народнага тэатра. Мы часта выступалі, як пазней высветлілася, у адных і тых жа калектывах, але ў розны час. Тады ўсе работнікі вышэйшай школы проста былі абавязаны чытаць лекцыі насельніцтву праз таварыства «Веды», а пазней — «Кнігалюбы».

Асабіста я пазнаёміўся з Ермаловічам у другой палове васьмідзясятых. Летам 1986 года на Асіповіччыне праводзілася свята паэзіі, прысвечанае Максіму Багдановічу. Сярод іншых туды быў запрошаны і я. Так мы апынуліся ў м. Вяззе. Месца было выбрана невыпадкова. Сюды, да брата жонкі Мякоты, які тут працаваў ляснічым, А. Я. Багдановіч на лета адпраўляў дзяцей з Гародні. Прыгожыя краявіды, няйначай, запалі ў душу хлопчыка і жывілі яго ўяўленні пра малую радзіму, а з ёй і пра ўсю Беларусь. Пра гэта я казаў у сваім выступленні і пра тое, што Максім Багдановіч шмат зрабіў для кансалідацыі нацыі, росту яе духоўнасці, адкрыў свету высокую культуру беларускага народа. Падобна гаварыў і В. І. Ермаловіч, чытаў цудоўна вершы Багдановіча, у тым ліку і яго славутую «Пагоню». У перапынку падышоў да мяне і сказаў:

— Я ўжо не адзін раз слухаю вашы выступленні і чую ў аснове думку пра адраджэнне і незалежнасць. Рады за вас.

Я падзякаваў, але разгаварыцца не паспелі, бо Ермаловіча паклікалі кіраўнікі Магілёўскай абласной арганізацыі: раптам

ім спатрэбіўся. Хутка мы раз’ехаліся, больш грунтоўна пагаварыць не ўдалося.

У 1989 годзе я ўваходзіў у рэспубліканскі аргкамітэт па стварэнні Таварыства беларускай мовы, у красавіку з такой ініцыятывай выступіў у Магілёве. Праз шматлікія пакуты мы ўсё ж выйшлі на Устаноўчую канферэнцыю па стварэнні гарадскога Таварыства беларускай мовы. Яна адбылася ў памяшканні Дома культуры швейнікаў, у народзе празваным «Дунькіным клубам». У ёй удзел прымаў і Валянцін Ермаловіч. Праўда, у гарадскую Раду Таварыства беларускай мовы ён тады не трапіў: прадстаўнікі райкамаў напіхалі туды сваіх стаўленікаў, якія потым, на шчасце, нават не з’яўляліся на пасяджэнні.

А ўжо на наступнай справаздачна-выбарчай канферэнцыі, у 1993 годзе, Валянцін Ермаловіч быў абраны сябрам Рады. На першым яе пасяджэнні, калі размяркоўваліся грамадскія даручэнні, я нагадаў словы Максіма Гарэцкага, што сапраўднае адраджэнне краю і культуры народа павінна ісці праз тэатр. Паколькі ў Магілёве тэатр рускамоўны, то мы павінны стварыць альтэрнатыўны, сапраўды беларускі. Памеркаваў, што тут і поле дзейнасці Валянціна Іванавіча як сябра гарадской Рады.

— Згодзен, — сказаў Ермаловіч, — але адразу заяўляю, што вы будзеце першым акцёрам тэатра.

Для мяне гэта стала вялікай нечаканасцю, бо нават не думаў, што ўжо ў даволі паважаным узросце раптам прыйдзецца выходзіць на сцэну не ў звычайнай для мяне ролі. Ды, трохі раздумаўшыся, згадзіўся, бо нейкі досвед у тэатральнай справе крыху меў са студэнцкіх гадоў, калі быў удзельнікам тэатральнай студыі ў БДУ. Праўда, тады справа да сцэны не дайшла, бо ўжо амаль гатовы для выхаду на сцэну спектакль па п’есе Арбузава «Таня» быў спынены: рэжысёра, выпускніка тэатральнага інстытута, размеркавалі ў нейкі абласны цэнтр. Тэатральная студыя перастала існаваць, але рэпетыцыі на працягу года нейкі след усё ж пакінулі.

— Што ж, прымаю прапанову, — пасля некаторага роздуму адказаў я. — Будзем працаваць.



Я тады нават і не ўяўляў, якія выпрабаванні нас чакаюць наперадзе. Перш за ўсё патрэбна была тэатральная трупа. Я нічога лепшага не прыдумаў, як запрасіць да ўдзелу студэнтаў. Гэта быў пачатак дзевяностых, эйфарыя Адраджэння, у пединстытут пайшла творчая і актыўная моладзь, якая паверыла, што сапраўды нарэшце Беларусь стане беларускай.

В. І. Ермаловіч далучыў да падабранай мною групы сяброў згуртавання «Машэка», з якімі раней ладзіў розныя культурніцкія відовішчы, у тым ліку «Дзяды», «Гуканне вясны» і іншыя.

Першым творам для сцэнічнага дэбюту В. І. Ермаловіч выбраў апавяданне Васіля Быкава «На Чорных лядах», сам напісаў сцэнарый, якому даў падзагаловак «Перадсмяротныя маналогі». Хто чытаў твор, той памятае: гэта апошнія дні невялічкага атрада былога Слуцкага чыну, на якіх палююць чэкісты і войскі маладога бальшавіцкага стратэга Тухачэўскага.

Спектакль нараджаўся даволі цяжка. У акцёраў не было вопыту нават звычайнай самадзейнасці, часам па маладосці да патрабаванняў адносіліся несур’ёзна. Таму на стварэнне першага спектакля пайшло амаль год. Прэм’ера адбылася 28 лістапада 1994 года. Ролю камандзіра атрада В. І. Ермаловіч даручыў мне. Намесніка ўвасабляў студэнт Аляксандр Чугай, Аўстрыяку — Ігар Пушкін, падлетка Валодзю іграла Таццяна Крукоўская, прымалі ўдзел у спектаклі Віктар Габралёў, Валерый Каранкевіч. Валянцін Іванавіч у гэтым спектаклі быў толькі рэжысёрам, знаходзіўся ў зале, сачыў за ўсім, што адбывалася на сцэне. Пасля спектакля ён падзякаваў удзельнікам, выказаў і заўвагі, але памяркоўна, заахвочвальна, гаворачы, што першы выхад удаўся.

У гэтым выпадку, відаць па ўсім, праявіўся талент яго і як педагога, яго працяглая праца ў культасветвучылішчы, дзе ён выкладаў тэатральнае майстэрства.

Варта згадаць і такі факт. У красавіку 1995 года Валянцін Іванавіч сказаў нам, што Яўген Каршукоў, які працаваў тады ў Сакратарыяце Саюза пісьменнікаў, запрасіў наш калектыў на святкаванне Дня Перамогі ў Доме літаратара ў Мінску, на сцэне якога мы павінны былі паказаць спектакль «На Чорных лядах» для пісьменнікаў-ветэранаў. І вось з усім рэквізітам мы

з’явіліся ў сталіцы. Здаецца, гэта было 8 мая. Доўга чакалі ў невялікім «пазіку», Валянцін Іванавіч усё хадзіў на перамовы, вяртаючыся, нам казаў:

— Чакайце.

Калі ўжо дзень хіліўся да падвячорка, урэшце прыйшоў Ермаловіч і сказаў, што спектакля не будзе.

Па дарозе ў Магілёў стараўся падбадзёрыць паніклых акцёраў:

— Відаць, Каршукоў не чытаў апавядання. Падумаў: раз аўтар Васіль Быкаў, значыць — пра Вялікую Айчынную вайну. А Іван Навуменка сказаў, што ў такі дзень нельга ставіць спектакль, бо твор антысавецкі. Артур Вольскі, кіраўнік альтэрнатыўнага Саюза ветэранаў-пісьменнікаў, са шкадаваннем сказаў, што ў іхніх шэрагах толькі дзевяць чалавек, немэтазгодна высільвацца акцёрам.

— Дарэмна, — адказалі мы. — З ахвотай мы сыгралі б і для такой невялікай групы.

Усё ж быў юбілейны год Перамогі. Таму, вядома, пыталіся ў Валянціна Іванавіча, як ваявалася, што запомнілася.

— Прызвалі мяне ў ліпені 1944-га, — казаў ён. — Два тыдні навучання і — на фронт. У першым жа баі быў паранены. Увогуле, дзеці падлічылі, што ваяваў я на фронце толькі адзін тыдзень, астатні час знаходзіўся на шпітальных ложках.

Сапраўды, прыгадваюцца словы Васіля Быкава, што франтавы лёс пяхоты кароткі: або смерць у першым жа баі, або калецтва, у лепшым выпадку шпітальны ложак. Гаварылі пра многае, але сёння мала што помніцца. Згадаю толькі пра адну містыфікацыю, расказаную Валянцінам Іванавічам, каліміналі вёску Ермалавічы.

— Вось адзін раз, калі праязджалі міма гэтай вёскі з артыстамі Краснапольскага народнага тэатра, я пажартаваў, што тут было наша радавое памесце, шляхецкі маёнтак. І што вы думаеце? Паверылі. Пасля я не мог даказаць, што ніякі не шляхціц, — казаў ён.

З Валянцінам Іванавічам з гэтага часу сустракаўся ў асноўным на рэпетыцыях і спектаклях. На маю долю выпала і падбіраць



рэпертуар для тэатра. Па маёй прапанове былі пастаўлены спектаклі да юбілеяў класікаў беларускай літаратуры: «Пінская шляхта» В. І. Дуніна-Марцінкевіча, «Хто смяецца апошнім» Кандрата Крапівы, «Дзяды» А. Міцкевіча. Ды галоўнае — Ермаловіч меў добрае чуццё на таленты, яму належыць права іх адкрыцця. Перш за ўсё маю на ўвазе маладога тады пісьменніка Міхася Карпечанку. Менавіта яго творы «Дачка волі», «Ёй хацелася жыць», «Першы пацалунак», «Канвеер», «На парозе блакітнай вясны» ўпершыню паставіў на сцэне Валянцін Іванавіч.

— У мяне лёгкая рука, — жартаваў неяк Валянцін Іванавіч, калі мы чакалі нашых артыстаў на рэпетыцыю. — Вось яшчэ ў пачатку шасцідзясятых я паставіў спектакль па п’есе А. Петрашкевіча «Адкуль грэх» у культасветвучылішчы. Запрасілі аўтара. Спектакль яму спадабаўся, сказаў, што толькі цяпер паверыў у свае здольнасці драматурга. А потым быў ужо спектакль купалаўцаў.

Валянцін Іванавіч любіў працаваць з моладдзю. Так ужо сталася, што амаль большасць трупы тэатра-студыі «Валянцін» (назва была прынята неяк спантанна) складалі студэнты. Натуральна, яны заканчвалі вучобу, ехалі па размеркаваннях на новыя месцы працы, а ў тэатр прыходзілі навічкі. Таму рэжысёру В. І. Ермаловічу прыходзілася пачынаць многа разоў спачатку, прывіваць ім натуральныя паводзіны на сцэне. Многімі проста захапляўся, бачыў у іх сапраўдны талент, шкадаваў, што яны сыходзілі. Але хочацца спадзявацца, што гады, праведзеныя поруч з Валянцінам Іванавічам дарэмна не прайшлі, атрыманыя сцэнічныя навыкі, зусім верагодна, дапамагаюць ім у педагагічнай працы.

Валянцін Іванавіч быў грамадскі актыўным чалавекам. У 1990-я гады мы неаднаразова прымалі ўдзел у гарадскім шэсці «Чарнобыльскі шлях», што ўжо стала не падабацца начальству, бо ў другой палове дзевяностых адкрыта пачалі згортвацца дэмакратычныя пачынанні, праведзеныя былі псеўдарэферэндумы, супраць якіх публічна выступаў Валянцін Іванавіч. І п’есы для спектакляў ён стараўся падбіраць з яўна выражанай адраджэнскай накіраванасцю. Быў пастаўлены

спектакль па камедыі Ф. Аляхновіча «Пан Міністр», у якім высмейваліся прыстасаванцы да беларускай нацыянальнай ідэі напачатку XX стагоддзя, што, на жаль, было актуальным і пры яго завяршэнні. Але найбольшы рэзананс атрымаў спектакль па сацыяльна-палітычнай камедыі М. Матукоўскага «Калізей», бо Ермаловіч аформіў спектакль так, што ў ім яўна праглядваліся беларускія рэаліі. І наступствы адразу праявіліся: А. Буркіна, выканаўцу галоўнай ролі, папярэдзілі, што калі ён яшчэ хоць раз прыме ўдзел у гэтым спектаклі, то будзе звольнены з працы. Валянціна Іванавіча прымушалі надалей узгадняць рэпертуар з аддзелам культуры, а пазней з ідэалагічным аддзелам, але ён ухітраўся абыходзіць гэтыя рагаткі.

Валянцін Іванавіч гаварыў, што на станаўленне яго нацыянальнай самасвядомасці моцны ўплыў аказаў старэйшы брат Мікола, вядомы крытык, літаратуразнаўца і гісторык. І калі ён быў збіты машынай на пераходзе, то Валянцін Іванавіч гаварыў, што яго забілі, бо даволі часта яму пагражалі. Несумненна, на ўліку быў і сам рэжысёр, але адкрытых нападак з боку органаў на яго не было.

Тэатр рыхтаваўся шэрагам спектакляў шырока адзначыць 80-гадовы юбілей свайго рэжысёра, але раптоўна Валянцін Іванавіч адышоў у іншы свет. Ды спектаклі ў яго гонар былі паказаны.

Усё ж роля асобы ў грамадстве і гісторыі — вялікая рэч. Быў Валянцін Іванавіч Ермаловіч, былі беларускамоўныя народныя тэатры, розгалас пра іх ішоў далёка. А вось яго не стала — знік, па сутнасці, і тэатр-студыя «Валянцін», бо новае кіраўніцтва зрабіла яго рускамоўным і грамадства страціла да яго цікавасць.



**· Лілія Кузьменка ·**
*(Магілёў)*

## МОЙ ДОБРЫ СЯБРА І ДАРАДЧЫК

Я першы раз убачыла Валянціна Іванавіча ў 1957 годзе, калі прыехала паступаць у Магілёўскае культурна-асветнае вучылішча, так званы «Кулёк». Я памятаю, ён прымаў у мяне ўступныя іспыты. Усе яны былі здадзены на «пяцёркі», і я стала студэнткай. Ён выкладаў у гэтай навучальнай установе прадметы «Майстэрства акцёра» і «Сцэнічную мову».

Падчас вучобы я ўдзельнічала ў спектаклі (назвы не памятаю) на ваенна-патрыятычную тэму, звязаную з дзейнасцю партызан. Ермаловіч тады запрасіў мяне на ролю дзяўчыны, якую падчас дзеяння забіваюць, забітую нясуць на руках, кладуць на стол. Усё вельмі трагічна… А я больш за ўсё хвалявалася, каб раптам не ўпасці з гэтага стала.

Незабыўныя ўспаміны пакінуў у маім сэрцы студэнцкі спектакль «Прымакі», дзе Валянцін Іванавіч іграў аднаго з прымакоў. Ён меў талент акцёра і вялікі дар пераўвасаблення.

Сяброўскія стасункі паміж намі пачаліся пазней, праз чатыры гады, калі я прыехала працаваць у Магілёў пасля заканчэння кансерваторыі. Ніхто мяне тут не чакаў, і дапамагаць мне ніхто не збіраўся. Было вельмі складана. Толькі Валянцін Ермаловіч мяне падтрымаў — даваў шмат практычных парад па вядзенні заняткаў, па складанні вучэбных планаў. Усё гэта рабілася вельмі шчыра. Тады мы і пасябравалі.

Валянцін Іванавіч пазнаёміў мяне са сваім братам — знакамітым гісторыкам Міколам Ермаловічам. Ад яго я даведалася, што дэбют Валянціна Іванавіча на сцэне адбыўся ў шасцігадовым узросце. Ён выконваў ролю дзяўчынкі, ды так таленавіта, што да канца пастаноўкі ніхто не мог пазнаць яго. Гэта сведчыць, што ён артыст ад нараджэння.

У сям'і Ермаловічаў было тры сыны — Мікола, Валянцін і Лявон, усе таленавітыя. Бацька быў заможным селянінам, яго прылічылі да кулакоў і расстралялі ў 1937 годзе.

У 1944 годзе пасля вызвалення з-пад фашысцкай акупацыі ва ўзросце 17 год Валянцін пайшоў ваяваць. Распавядаў, што падчас вайны прыйшло паведамленне аб яго смерці, але маці ні адной хвіліны не верыла, была ўпэўнена, што ён не загінуў. А праз тры месяцы атрымалі вестку, што Валянцін жывы. Падчас бою Валянцін Іванавіч быў цяжка паранены, санітары вынеслі яго і даставілі ў шпіталь, дзе дактары вярнулі яго да жыцця.

У Мінскі тэатральна-мастацкі інстытут ён паступіў у 1946 годзе. Яго прынялі без іспытаў, як удзельніка вайны. Падчас вучобы ў інстытуце яму прапанавалі ўступіць у партыю: высока ацанілі яго ваенныя заслугі. Аднак, у выніку праверкі, высветлілася, што ён сын «ворага народа», і ў шэрагі камуністычнай партыі не прынялі. Другі раз прапаноўвалі пасля смерці Сталіна, але ён пастанавіў так: «Тады адмовілі, а цяпер сам не хачу».

У Ермаловіча быў моцна выяўлены беларускі акцэнт, што часта суправаджалася пасмейваннямі з боку слухачоў. Таму ў нейкі момант, нягледзячы на тое, што выкладанне прадметаў у вучылішчы вялося па-расейску, ён пачынае свой прадмет выкладаць па-беларуску. Гэта выклікала здзіўленне і непаразуменне ў кіраўніцтва вучылішча. Пытанне нават разглядалася на агульным сходзе калектыву. Валянціна Іванавіча выклікалі на сцэну, і ён даволі няўпэўнена апраўдваўся: «Я ж беларус…» І ніхто, ніхто не падтрымаў, не заступіўся. Тады выступіла я і моцным пастаўленым голасам сказала: «Мы жывём не ў Кітаі, а ў Беларусі, і няма чаго папракаць чалавека тым, што ён размаўляе па-беларуску…» Ну, і яшчэ нешта казала. Так склалася, што пасля гэтага ганебнага сходу яго болей не чапалі, і ён увесь час карыстаўся роднай беларускай мовай.

Як толькі Валянцін Іванавіч дасягнуў пенсійнага ўзросту, яго звольнілі. Адразу. І ён пачаў займацца тэатральнай дзейнасцю. Меў вялікі поспех як рэжысёр і кіраўнік тэатральных калектываў, атрымаў званне заслужанага дзеяча культуры Беларусі. Валянцін Ермаловіч патрабаваў ад акцёраў поўнай аддачы і глыбокага пранікнення ў вобраз.

Успамінаю спектакль «Жыццё Еўфрасінні Полацкай», у якім я выконвала галоўную ролю. Каб лепш зразумець сваю гераіню, паехала ў Полацк. Па цёмным начным горадзе ішла ў манастыр і старалася адчуць сябе Еўфрасінняй. На месцы была недзе гадзін у пяць раніцы, прыйшлося пачакаць, пакуль адчыняцца вароты. Папрасіла ігуменню, каб пусцілі ў царкву, аднак яна не дазволіла. Сказала, што ідзе рэстаўрацыя і патрэбна згода мастака. З мастаком мне дамовіцца было няцяжка, бо ў мяне брат — мастак, і я гэты асяродак добра ведаю. Мастак аказаўся знаёмым майго брата, і я была дапушчана ўсюды без абмежаванняў. Ніхто не ўваходзіў у царкву і не замінаў мне. Я мела магчымасць пабыць у келлі святой Еўфрасінні, цеснай і з нізкай столлю, зробленай у выглядзе крыжа. Потым спусцілася ўніз — паляжала пад ракай з мошчамі Еўфрасінні, пацалавала ногі і рэчы святой. Аб усім гэтым застаўся незабыўны ўспамін.

Дзякуючы Валянціну Ермаловічу мы знаёміліся з вядомымі людзьмі, сябравалі, жылі цікавым жыццём. Калі я выконвала ролю Юльяны Менке ў спектаклі «Амор ардэнс» па п’есе Людмілы Рублеўскай (пра каханне Івана Луцкевіча), пазнаёмілася з аўтаркай п’есы. Падчас пастаноўкі Людміла з мужам, паэтам Віктарам Шніпам, прыязджалі ў Магілёў на рэпетыцыі.

Быў у мяне монаспектакль «Зязюлька» па п’есе Сяргея Законнікава. Дзякуючы спектаклю я пазнаёмілася з Сяргеем Іванавічам. Вельмі люблю яго паэзію і глыбока паважаю яго самога.

Памятаю ролю Маці Радзімы ў спектаклі «Няхай будзе згода» па п’есе нашага земляка Аркадзя Смоліча.

Увесь час я іграла на сцэне станоўчыя ролі, і ў нейкі момант мне гэта надакучыла — я стала прасіць у Ермаловіча змяніць маё амплуа. І вось у спектаклі Людмілы Рублеўскай «Зоська і Фабіян», пра каханне двух нашых нацыянальных дзеячаў на пачатку мінулага стагоддзя, мне далі ролю бежанкі. Гэта даволі камічная роля. На мне была спадніца, пантофлі на абцасах, стары патрапаны футравы каўнер. Для сваёй гераіні я прыдумала песню на распаўсюджаны жабрачы матыў. Па тэлефоне спявала свой нумар Людміле Рублеўскай, яна засталася задаволена, і песня была ўключана ў спектакль. Валянцін Іванавіч з яе вельмі смяяўся.

Вось яна:

Вечар вечарэе,
Каровы з поля йдуць,
А бедную Марусю
У больніцу вязуць.
Лячыце — не лячыце,
Мне жысць не дарага.
Нашто я палюбіла
Такога падляца.

(*Плача, выцірае нос кулаком.*)

…Нашто я палюбіла
Такога падляца.

(*Дастае з-за пазухі пляшачкі гарэлку і п'е.*)

Вечар вечарэе,
Каровы з поля йдуць,
А бедную Марыську
На могілкі вязуць.

Аднак спектакль «Зоська і Фабіян» не быў закончаны. Адбылося толькі некалькі рэпетыцый, падбіраліся акцёры. 20 снежня Валянцін Іванавіч яшчэ працаваў, шмат рухаўся, лёгка ўскокваў на сцэну і са сцэны, а праз дзень яго не стала.

Блізкіх сяброў, у тым ліку мяне, ён неаднаразова прасіў накрыць яго пры пахаванні бел-чырвона-белым сцягам, але мы не выканалі яго апошняй просьбы. Родныя людзі не захацелі, бо прысутнічала начальства. Мы хацелі закапаць сцяг у магілу, але святар не дазволіў і параіў ушанаваць яго просьбу іншым чынам. Ён сваім святарскім словам адпусціў нам наш грэх.

Страта была настолькі вялікай, што спатрэбіўся час, каб перажыць і звыкнуцца з ёю. Працаваць у народным тэатры без яго многія проста не змаглі. І я таксама не змагла.



**· Алена Куранок ·**
*(Бялынічы)*

## ДЛЯ СТУДЭНТАЎ БЫЎ БАЦЬКАМ

У 1970 годзе я паступіла ў Магілёўскае культасветвучылішча імя Н. К. Крупскай на аддзяленне «Рэжысура тэатральнага калектыву». Класным кіраўніком да нас быў прызначаны Валянцін Ермаловіч. Студэнты нашай групы, а іх было каля трох дзясяткаў чалавек з розных куткоў Беларусі, вельмі любілі і паважалі Валянціна Іванавіча. Ён быў для нас нібы бацька. Да кожнага знаходзіў падыход, падтрымліваў, абнадзейваў. І ніколі не павышаў голасу. Заўсёды стараўся дэтальна разабрацца ў той ці іншай сітуацыі.

Памятаецца, пасля першага курса мы паехалі ў складзе студэнцкага будатрада ў Чавусы. Дзве дзяўчынкі з нашай групы ўкралі калгасны грузавы аўтамабіль. У лесе машына заглухла, і яны кінулі яе. За такія паводзіны юных угоншчыц наважыліся выключыць з вучылішча.

Колькі нерваў і вытрымкі спатрэбілася праявіць Валянціну Іванавічу, каб адстаяць дзяўчат, даць ім магчымасць прадоўжыць вучобу!

Пасля гэтага выпадку мы яшчэ больш сталі паважаць свайго класнага кіраўніка.

Пасля вучобы я прыехала ў Бялынічы, уладкавалася працаваць у РДК, стала выконваць ролі ў спектаклях народнага ТЮГа. І тут неўзабаве зноўку сустрэлася з Валянцінам Іванавічам, які стаў працаваць у нас рэжысёрам. А працаваў ён вельмі прадуктыўна, ніколі не хацеў слухаць аніякіх адгаворак. Прыязджаў ён з Магілёва ў Бялынічы два разы на тыдзень. Ніколі не спазняўся і такімі сваімі паводзінамі, патрабавальнасцю да сябе прывучыў усіх самадзейных артыстаў да дысцыпліны і парадку.

Працаваць пад яго кіраўніцтвам заўсёды было цікава і павучальна, ён давяраў акцёрам, у кожным бачыў асобу і індывідуальнасць.

Выконвалі мы з Валянцінам Іванавічам і мініяцюры, інтэрмедыі. З дзвюма, «На рыбалцы» і «У доктара», выступілі на рэспубліканскім свяце гумару ў Аўцюках, адкуль вярнуліся ў Бялынічы з дыпломамі.

Запомніўся і ўдзел у кампазіцыі «Прычуды Несцеркі». Пастаноўку добра ўспрымаў глядач. З ёй мы выступалі ў Бялынічах, Магілёве, а таксама на Рэспубліканскім свяце беларускай пісьменнасці ў Мсціславе.

Я ўдзячная лёсу, што сустрэла на сваім жыццёвым шляху такога разумнага, дасведчанага, таленавітага, далікатнага, сціплага акцёра, рэжысёра, педагога… Проста цудоўнага чалавека.

**· Віктар Лазовік ·**
*(Краснаполле)*

## ЗАХАПІЎ ТЭАТРАМ

Мне вельмі запомнілася першая сустрэча з Валянцінам Іванавічам. Я тады працаваў у Доме піянераў і па нейкіх справах зайшоў у клуб, на другі паверх. У адным з пакояў у крэсле каля акна сядзеў лысаваты пажылы чалавек. Ён трымаў у руцэ часопіс «Тэатр», побач на стале ляжалі яго акуляры. Я прывітаўся.

— Заходзьце, калі ласка! Каго шукаеце? — запытаўся ён.

Больш за ўсё здзівіла, што чалавек гаварыў па-беларуску.

Я агледзеўся. Пакой аказаўся даволі вялікім. На сцяне ў некалькі радоў віселі тэатральныя афішы, каля другой сцяны стаяў куфар, далей — вешалка з гімнасцёркамі, фрэнчамі…

У кароткай размове Валянцін Ермаловіч высветліў мае біяграфічныя даныя — як завуць, адкуль прыехаў, дзе працую. Пасля чаго мне была зроблена нечаканая прапанова:

— Ты нам падыходзіш, будзеш іграць у тэатры.

Ад нечаканасці я разгубіўся.

— Мне не даводзілася выступаць на сцэне, тым больш у спектаклі. Ды і здольнасцяў у мяне няма, — адказаў.

— Ты адразу не адмаўляйся, прыходзь сёння на рэпетыцыю а пятай гадзіне. Пасядзіш, паглядзіш, а там і вырашым, што рабіць.

Калі я прыйшоў на рэпетыцыю, там ужо былі Саша Горзін, Васіль Галакціёнаў, Юра Мотрычаў, Іван Ткачоў. Сядзець ды глядзець не давялося. Адразу атрымаў тэкст і прыступіў да рэпетыцыі.

Рэпеціравалі спектакль «Радавыя» па аднайменнай п’есе А. Дударава. Я атрымаў сваю першую ролю — іграў салдата Адуванчыка. Затым былі іншыя спектаклі і ролі. Тэатр Ермаловіча мяне захапіў. Яго і прыгадваю часта.

**· Мікола Макарцоў ·**
*(Мінск)*

## РУПЛІВЕЦ ГАЛУБКОЎСКАГА СКЛАДУ

Пішу пра дарагога чалавека, які вучыў мяне беларускаму сцэнічнаму слову, які вызначыў мой лёс у тэатральнай справе, — пра нястомнага прапагандыста беларускай народнай сцэнічнай культуры, рэжысёра, заслужанага дзеяча культуры Рэспублікі Беларусь, ветэрана Вялікай Айчыннай вайны Валянціна Іванавіча Ермаловіча.

Прыгадваю 1968 год. Магілёўскае культурна-асветнае вучылішча імя Н. К. Крупскай, дзе я, малады юнак, з уласцівай тагачаснай вясковай сціпласцю стаяў у аўдыторыі на ўступных экзаменах перад Валянцінам Іванавічам, няўпэўнена чытаў байку, паказваў эцюд, яшчэ добра не разумеючы іх сэнсу. Але дабрыня вачэй і ласкавая ўсмешка Валянціна Іванавіча падбадзёрвалі і давалі мне надзею, што паступлю. Хаця, выйшаўшы з аўдыторыі і ўбачыўшы пад дзвярамі натоўп юнакоў і дзяўчат, якія прагнулі ісці на эшафот і чакалі прысуду, я зноў апынуўся ў палоне няўпэўненасці. Дарэчы, конкурсы ў тыя гады былі немалыя. Але Валянцін Іванавіч паверыў у мяне. Калі выходзіў з аўдыторыі, прыпыніўся, сказаў: «Будзеш вучыцца».

І гэтыя словы далі права на выбар маёй будучай прафесіі.

Вось такой была першая сустрэча з маім першым тэатральным настаўнікам, якая на ўсё жыццё засталася ў памяці.

Скончыў вучылішча, інстытут, затым аспірантуру. Жыццё вывела мяне на самастойную сцяжынку. Здаецца, вылецеў з гнязда і ляці хоць пад аблокі з творчымі думкамі і здзяйсненнямі, адчуваючы падтрымку настаўніка. Бясспрэчна, твае выкладчыкі, твае настаўнікі заўсёды з табой, ты пастаянна адчуваеш іхні штуршок у прафесію, іхнюю патрабавальнасць.

Нябачныя нітачкі звязвалі, яднялі мяне з маім першым настаўнікам — Валянцінам Ермаловічам.

Я быў сведкам, як Валянцін Іванавіч адкрываў Алеся Петрашкевіча як драматурга, паставіўшы з навучэнцамі Магілёўскага культасветвучылішча яго першую п’есу «Адкуль грэх?». У гэтай п’есе і я іграў адну з галоўных роляў — дзеда Савося. Памятаю, як Алесь Лявонцьевіч, прыехаўшы на прэм’еру, пасля спектакля выйшаў на сцэну, акрылены, з радасным тварам, і сказаў: «Я буду драматургам».

Тое ж блаславенне Валянціна Іванавіча атрымаў і магілёўскі драматург Іван Ісачанка. Яго п’есу «Мурын бор» не бралі да пастаноўкі ні прафесійныя, ні народныя тэатры, спасылаючыся на недасканалы ўзровень драматургіі. Валянцін Ермаловіч смела ўзяўся за пастаноўку гэтай п’есы, дапрацаваў яе разам з аўтарам, унёс свае карэктывы, з якімі драматург пагадзіўся. Тэатразнаўца С. Пятровіч у кнізе «Тэатральная самадзейнасць савецкай Беларусі» пісаў: «Арыгінальна выступіў на фестывалі ў Мінску і тэатральны калектыў Магілёўскага завода штучнага валакна, які паказаў спектакль «Мурын бор» па п’есе І. Ісачанкі. Грамадскасць зацікавілася гэтай пастаноўкай. Аматары расказалі аб старажытнай Магілёўшчыне, аб колішніх вялікіх сялянскіх паўстаннях пад кіраўніцтвам вядомага важака Васіля Вашчылы».

Звяртаўся Валянцін Іванавіч да драматургіі Івана Ісачанкі неаднаразова, ставіў спектаклі па яго п’есах «Лясная фея», «Факел». Ва ўсіх гэтых спектаклях прымаў удзел і я.

Не перабольшваючы, Валянціна Іванавіча можна назваць рэжысёрам-першапраходцам, які ўздымаў цаліну, адкрываючы



нацыянальных драматургаў. Ён пранёс патрыятызм да беларускай драматургіі праз усе гады свайго жыцця, тонка адчуваючы яе. Не згаджаўся з пунктам гледжання некаторых крытыкаў, якія сцвярджалі, што для самадзейнага тэатра павінна быць нейкая асобная драматургія. «Не павінна быць драматургіі для самадзейнасці, — аспрэчваў іх думку рэжысёр Ермаловіч. — Павінна быць драматургія высокага ўзроўню, нават калі яна і аднаактовая».

У кожнай п’есе, якую выбіраў для пастаноўкі Валянцін Іванавіч, ён быў сааўтарам драматурга: крэсліў і перарабляў тэкст, дапісваў пралогі і маналогі, уносіў свежую, жывую плынь ў п’есу, ад чаго яна толькі выйгравала. Менавіта такі падыход да драматургіі з’яўляўся значнай часткай яго рэжысёрскага наватарства і непаўторнасці. Не палохаўся ён масавых спектакляў, гістарычных палотнаў, якія патрабавалі вялікіх пастановачна-рэжысёрскіх намаганняў. Наадварот, ён імі захапляўся і ўдала ўплятаў у іх фальклорныя матывы.

Прыгадваю 70-гадовы юбілей найстарэйшага ў Беларусі Краснапольскага народнага тэатра, калектыў якога тады ўзначальваў Валянцін Ермаловіч. Калі па яго запрашэнні мы з тэатразнаўцам Ю. Сохарам прыехалі ў Краснаполле, нашаму здзіўленню не было мяжы. Мы ўбачылі ў рэпертуары тэатра ажно пяць спектакляў! Гэта быў подзвіг у народнай тэатральнай культуры!

Не абміну падзею, якая зрабіла вялікі ўплыў на творчасць Валянціна Іванавіча. Гэта знаёмства і сяброўства з паэтам-франтавіком Аляксеем Пысіным. Калі яны збіраліся разам, перад іхнімі вачамі не-не дый адкручвалася стужка памяці ваеннага ліхалецця. Можа, таму і пакінуў Аляксей Пысін Валянціну Ермаловічу вось такі аўтограф на сваім двухтомніку: «Валянціну Ермаловічу, шчыраму пабраціму па франтах Вялікай Айчыннай».

Па творах Аляксея Пысіна са студэнтамі культасветвучылішча рэжысёр падрыхтаваў літаратурна-драматычную кампазіцыю, з якой выступалі на прадпрыемствах, у калгасах і саўгасах Магілёўшчыны. Рыхтавалі сумесна з паэтам і драматычныя кампазіцыі па творах беларускіх паэтаў і празаікаў, займаліся

прапагандай іх творчасці не толькі на Магілёўшчыне, але і за межамі вобласці.

Аднойчы пры чарговай сустрэчы Аляксей Пысін запытаўся ў Ермаловіча: «А чаму ты сам не выступаеш з мастацкім чытаннем?» І Валянцін Іванавіч пагадзіўся, пачаў папаўняць свой рэпертуар. Па хадайніцтве А. Пысіна Саюз пісьменнікаў Беларусі атэставаў яго як майстра мастацкага слова.

Амаль ва ўсіх спектаклях Валянцін Іванавіч прымаў удзел і як артыст. Па-народнаму маляўнічымі, сакавітымі, жыццёвымі створаныя ім вобразы Пустарэвіча ў купалаўскай «Паўлінцы», Васіля — у дудараўскім «Вечары», Цярэшкі — у макаёнкаўскім «Трыбунале»…

А яшчэ вельмі рупіла яму «адкопваць» забытыя, непастаўленыя, малавядомыя творы і даваць ім сцэнічнае жыццё. Звярнуўся ён і да забытага як драматурга Максіма Гарэцкага і паставіў найактуальнейшы спектакль «Стогны душы».

У застойныя часы на адрас Валянціна Ермаловіча з боку некаторых начальнікаў, ад якіх залежала яго творчасць, ляцелі кпіны, маўляў, «копаешься в каком-то старье». Валянцін Іванавіч прайшоў праз гэтыя калючкі і, бясспрэчна, пакінуў даволі прыкметны след у беларускім народным тэатральным мастацтве. Гэта, можна сказаць без перабольшання, руплівец Галубкоўскага складу.



**· Аляксандр Марзалюк ·**
*(Краснаполле)*

## МЫ ПОМНІМ ЦЯБЕ, ВАЛЯНЦІН ІВАНАВІЧ!

Мне запомніўся Валянцін Ермаловіч як чалавек шырокай натуры і глыбокай душы, гуманны і праўдзівы, адукаваны і ветлівы, дзейсна-актыўны.

Артыст, ён умеў добра, проста, шчыра і даступна гаварыць на чыстай беларускай мове з самымі рознымі людзьмі. Яго аўра дыхала чысцінёй мовы, інтэлігентнасцю, высокай культурай і зачароўвала слухачоў.

Я пазнаёміўся з Валянцінам Іванавічам у 1959 годзе у Магілёўскім культасветвучылішчы, дзе ён выкладаў тэатральную справу. Асабліва цікава і весела праходзілі заняткі па грыме, распрацоўцы і пастаноўцы мізансцэн. Ён лічыў мяне сваім земляком, бо я родам са Стаўбцоўшчыны, а ён быў з Дзяржынскага раёна.

Паўторна лёс звёў нас на Краснапольшчыне ў 1978 годзе, калі я працаваў настаўнікам гісторыі і дырэктарам Ленінскай сярэдняй школы, а Валянцін Ермаловіч кіраваў нашым народным тэатрам. Часта сустракаліся на розных раённых нарадах, на якіх ён заўсёды выступаў толькі па-беларуску.

Выступаў Валянцін Іванавіч і ў нашай школе, як ветэран Вялікай Айчыннай вайны, прывозіў і спектаклі.

Не прыпомню зараз аўтара п’есы, у якой да рэжысёра прыйшла вясковая дзяўчына і прасіла прыняць яе ў артысты тэатра.

— Што галоўнае для артыста? — пытаецца Валянцін Іванавіч.

— Ужыцца ў ролю, — кажа наша загадчыца клуба.

Валянцін Ермаловіч здымае з рукі гадзіннік, кладзе на стол і кажа:

— Калі ты яго ўкрадзеш, каб я не бачыў, прыму ў тэатр.

Дзяўчына ўскіпела:

— Ах ты, такі-сякі, зладзейку з мяне робіць! — і пачала кідаць у яго рэчы, што ляжалі на стале.

Валянцін Іванавіч закрыў твар і вочы рукамі, а тая хоп гадзіннік са стала.

— Малайчына, — падахвочвае рэжысёр Ермаловіч. — Быць табе артысткай!

Вось так ён іграў, так распрацоўваў мізансцэны. А таму і спектаклі яго вызначаліся натуральнай ігрой акцёраў, псіхалагічнай напоўненасцю.

· Мікола Мінчанка ·

*(Клімавічы)*

## ДЗВЕ СУСТРЭЧЫ

На адным з абласных творчых семінараў да мяне падышоў магілёўскі празаік Уладзімір Дуктаў і бадзёра сказаў:

— Знаёмцеся: Валянцін Іванавіч Ермаловіч.

Па нотках у яго голасе я зразумеў, што знаёмства невыпадковае. Некалі раней мы з Уладзімірам Уладзіміравічам разам працавалі ў клімавіцкай раённай газеце «Новае жыццё». Сюды, пасля заканчэння Белдзяржуніверсітэта, ён прыехаў на работу. Мы добра ведалі адзін аднаго.

Уладзімір адышоў ад нас, а Ермаловіч сказаў:

— Прабачце, гэта я напрасіўся на знаёмства.

І спытаў:

— Вы ўсё ж там працуеце?

Я адказаў, што месца работы не змяніў.

Ермаловіч працягваў:

— Я працую кіраўніком народнага тэатра на Краснапольшчыне.

— Выходзіць, што на радзіме вядомага паэта Аляксея Пысіна, — сказаў я. — Калі зайшла размова пра Пысіна, то я ведаю, што вы сябравалі.

— У нас з Аляксеем Васільевічам былі цёплыя, добразычлівыя адносіны. Гэта быў вельмі шчыры і шчодры настаўнік. Я ўважліва сачыў за творчасцю гэтага таленавітага земляка, — дадаў Ермаловіч. Яго шэрыя з прываблівым блакітам вочы выдавалі той сум, які адчуваўся і ў голасе Валянціна Іванавіча.

Я перапісваўся з Аляксеем Васільевічам, і нашы сустрэчы з ім заўсёды напаўнялі сэрца новай энергіяй, а розум — новымі творчымі задумамі.

— Вы не будзеце супярэчыць маёй просьбе, — прадоўжыў гутарку Валянцін Іванавіч. — Я ведаю, што вы даволі працяглы час знаходзіліся ва Украіне. Як, на вашу думку, ці ведаюць там пра творчасць нашых пісьменнікаў?

У Жытомірскім педінстытуце, дзе я вучыўся, студэнты даволі дасканала вывучалі творы Васіля Быкава. Многіх прываблівала яго творчасць. Асабліва там ведаюць яго аповесці «Альпійская балада», «Трэцяя ракета» і некаторыя іншыя. Шануюць там творчасць Івана Шамякіна, Івана Мележа. Знаёмыя з паэзіяй Рыгора Барадуліна. І, вядома, шануюць, як і свайго Тараса Шаўчэнку, Янку Купалу, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча.

— Я рады, што беларускія творцы кранаюць сэрцы не толькі сваіх землякоў, — сказаў Ермаловіч і нечакана спытаў: — Калі не сакрэт, а чаму вы вярнуліся ў Беларусь?

Я крыху сумеўся і адказаў:

— Ведаеце, як гэта бывае: пацягнула ў родныя мясціны.

— Выходзіць, дзе нарадзіўся, там і прыгадзіўся, — удакладніў Валянцін Іванавіч.

Мы гутарылі, як даўно і добра знаёмыя. І пра многае паспелі пагаварыць. І пра Магілёў, які робіцца ўсё прыгажэйшым, і пра Клімаўшчыну, і пра Краснапольшчыну, і пра многае іншае.

На наступным творчым семінары мы яшчэ больш зблізіліся. Валянцін Ермаловіч гаварыў пра тое, што ў кожным раёне можна стварыць самадзейны тэатр. Ён бы аб’ядноўваў і гуртаваў людзей, якіх прываблівае сцэна. На Беларусі ёсць таленавітыя драматургі, п’есы якіх можна паставіць і ў раённых цэнтрах. Драматургія — гэта не абстрактнае паняцце, а мастацтва, якое заклікана выхоўваць чалавека.

Як і ў кожнай справе, у мастацтве дзейнічаюць людзі апантаныя, упэўненыя ў тым, што яны нясуць святло ў нашы душы.

Мы не дамаўляліся аб новых сустрэчах. А калі быць больш дакладным, то не паспелі гэта зрабіць, бо пачаўся той драматычны разбуральны працэс, які закончыўся развалам Савецкага Саюза.

Пазней у абласным друку з цікавасцю прачытаў успаміны Валянціна Ермаловіча аб перажытым. Ён пісаў пра жудасныя выпрабаванні, якія выпалі на яго долю ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Гэта была суровая праўда пра той час, калі Валянцін Іванавіч змагаўся за нашу будучыню, за росквіт роднай Беларусі.

---

### · Алена Некрашэвіч ·

*(Магілёў)*

## ЧАЛАВЕК АД БОГА

Спрабую вызначыць, хто для мяне Валянцін Іванавіч Ермаловіч. Ён не быў маім сваяком, хаця некаторыя з-за нашых цёплых зносін лічылі яго маім хросным бацькам. Я ніколі не іграла ў яго таленавітых тэатральных пастаноўках, хаця нашы лёсы, як ні гучна гэта сказана, звязала менавіта сцэна. Нас цяжка назваць сябрамі ў агульнапрынятым сэнсе гэтага слова хоць бы па той прычыне, што розніца ва ўзросце была даволі салідная. І проста добра знаёмымі таксама, бо Валянцін Іванавіч адназначна быў для мяне нейкім значна большым. Ён, бадай, быў і застаецца неад’емнай часткай майго свядомага жыцця: нягледзячы на тое, што за ўвесь час мы сустрэліся не больш за пару дзясяткаў разоў, падчас з інтэрвалам у некалькі гадоў, я пастаянна адчувала нябачную сувязь з гэтым незвычайным чалавекам. Ён, нібыта ўспышка, з’яўляўся на тым ці іншым этапе майго жыцця, а потым зноў знікаў на няпэўны час…

Пазнаёміліся мы яшчэ ў сярэдзіне 1980-х гадоў на маёй малой радзіме, у г. п. Краснаполле, дзе Ермаловіч працаваў рэжысёрам народнага тэатра. Мы неаднаразова разам удзельнічалі ў канцэртах мастацкай самадзейнасці: я спявала, ён іграў у спектаклях. Гэта быў рэжысёр, акцёр і чалавек ад Бога: светлы, добры, адкрыты, чуллівы. Дарэчы, мне заўсёды здавалася, што ён не іграў, а жыў на сцэне — настолькі арганічным, яскравым, шчырым і нефальшывым Валянцін Іванавіч выглядаў у ролі кожнага свайго героя. І так хацелася калі-небудзь апынуцца на сцэне разам з ім! Праз колькі год гэта мара амаль збылася, але…

У наступны раз мы сустрэліся толькі на пачатку 1990-х ужо ў Бялынічах, куды мяне закінуў лёс. В. І. Ермаловіч па-ранейшаму працаваў рэжысёрам народнага тэатра, толькі ўжо бялыніцкага, а я — спявала для душы ў мясцовым фальклорным ансамблі «Бялыніцкія музыкі». Апрача таго, Валянцін Іванавіч нярэдка наведваўся ў мясцовую раёнку, на працу ў якую мяне, дарэчы, сагітаваў мой зямляк Міхась Карпечанка, які аказаўся добрым сябрам «дзеда» (так у вузкім коле мы называлі Валянціна Ермаловіча). Здаецца, з таго часу мы сталі яшчэ бліжэй. Як людзі, якіх звязвала нейкае агульнае мінулае. Сустракаючыся, прыгадвалі Краснапольшчыну, нашых агульных знаёмых. Валянцін Іванавіч штораз жыва цікавіўся маімі справамі, поспехамі і пераменамі ў жыцці. І вось аднойчы здарылася тое, аб чым я калісьці так марыла — вялікі рэжысёр прапанаваў мне ролю Паўлінкі ў сваім будучым аднайменным спектаклі. Па яго меркаванні, з мяне магла б атрымацца добрая і, галоўнае, галасістая Паўлінка. Я была на сёмым небе ад шчасця і, канечне ж, з радасцю пагадзілася, на той момант яшчэ не ведаючы, што нашу пад сэрцам дзіця…

Магчыма, з-за таго, што сустракаліся мы з Валянцінам Іванавічам Ермаловічам не вельмі часта, мне і зараз не верыцца, што яго больш няма разам з намі. Часам здаецца, што неўзабаве мы дзе-небудзь сустрэнемся, а ён, як заўсёды, узрадуецца, шчыра ўсміхнецца, падыдзе, інтэлігентна пацалуе мне руку і скажа: «Прывітанне, Аленка. Ну, як справы?..»

## · Юрась Несцярэнка ·
*(Бялынічы)*

## СВОЙ СЛЕД

Так сталася, што аднойчы зімой, напачатку 2000-х гадоў, я перачытваў кнігу «Старажытная Беларусь. Полацкі і Новагародскі перыяд». Напісаў яе Мікола Ермаловіч. Вельмі ўражвалі многія моманты той кнігі, асабліва я зацікавіўся апісаннем культу ваўка ў нашых продкаў. Нават экспромтам нарадзілася ненавязлівая мелодыя з некалькімі радкамі тэксту ў своеасаблівым этнааўтэнтычным стылі.

А ў хуткім часе давялося сустрэцца і бліжэй пазнаёміцца з Валянцінам Ермаловічам, родным братам аўтара той, так упадабанай мною, кнігі. Можна доўга разважаць на тэму «выпадкова-невыпадкова», але, відаць, сыходзіліся нейкія ўмовы, і сустрэча адбылася менавіта тады, калі ёй было наканавана.

Валянцін Іванавіч прыязджаў у Бялынічы па сваіх тэатральных справах — ён стала супрацоўнічаў з Бялыніцкім народным тэатрам і з пісьменнікам Міхасём Карпечанкам. Спадар Міхась па прапанове і пад чулым патранажам Валянціна Ермаловіча напісаў 8 п’ес. Акцёры нашага народнага тэатра пад кіраўніцтвам спадара Ермаловіча паставілі самую першую з тых п’есаў — «Канвеер».

Калі Валянцін Іванавіч даведаўся, што я музыкант, ды маю аўтарскія творы, то адразу ж прапанаваў напісаць музыку для адной з яго пастановак. Спачатку я крыху здзівіўся такой хуткай рэакцыі і настойлівай прапанове. Мне здавалася, што павінен прайсці нейкі перыяд, за які рэжысёр-пастаноўшчык уважліва разгледзіць розныя варыянты музычнага матэрыялу, адбярэ тое, што трэба, ды зацвердзіць канчатковы варыянт. Аднак Валянцін Іванавіч не хацеў губляць час на такія рэчы. Для яго было дастаткова ведаць, што творчы ўзровень ёсць, людзі, якім ён давяраў, рэкамендуюць, гэта значыць — хутчэй за працу! Такі быў стыль яго супрацоўніцтва. Не варта губляць час на розныя ўмоўнасці, а трэба як мага хутчэй браць на сябе ўсю адказнасць, адразу ж уключацца ў працу і рабіць усё на максімуме сваіх магчымасцяў. Так, як ён рабіў сам.

Гэта я зразумеў значна пазней. Для Валянціна Іванавіча самым галоўным з’яўлялася верагоднасць задзейнічаць як мага больш «тутэйшага» творчага патэнцыялу. Вельмі вялікае значэнне ён надаваў творчасці мясцовых аўтараў.

На жаль, я не паспеў паказаць Валянціну Іванавічу ні мелодыю, якая з’явілася пад уражаннем ад чытання кнігі ягонага брата, ні іншыя музычныя фрагменты, якія пэўна ўжо разлічваў прапанаваць для ягоных тэатральных пастановак.

Узгадваючы сустрэчы з Валянцінам Ермаловічам, разумею, што трэба было не марудзіць, не губляць час. Але на той момант здавалася, што ўсё наперадзе, што паспеем яшчэ шмат чаго — настолькі пазітыўнай энергетыкай зараджаў гэты выбітны чалавек.

Магу сказаць адно — у аснове кампазіцыі «Па сьлядах ваўка» з альбома «Сьвята Вялікіх Дажджоў» (выйшаў напрыканцы 2006 года) — якраз і ёсць тая самая музычная тэма, аб якой узгадвалася напачатку гэтых невялічкіх успамінаў. Ёй у працяг была запісана кампазіцыя «Свой сьлед». Па сутнасці, яны з’яўляюцца загалоўнай і фінальнай тэмамі своеасаблівай музычнай пастаноўкі, якая цяпер бачыцца, як мюзікл.

Паколькі не было ўжо да каго звяртацца па параду па тэатралізацыі гэтага музычнага матэрыялу, давялося самому далей распрацоўваць ідэю. Што з гэтага атрымаецца — пакажа час. Аднак з упэўненасцю магу сказаць, што, не зважаючы на тое, ці будзе працяг працы ў гэтым накірунку, хутка ці павольна пойдзе гэтая праца, — пачатак зроблены. І праца гэта будзе прысвечана светлай памяці Валянціна Іванавіча Ермаловіча.

## · Мікола Ножнікаў ·
*(Магілёў)*

### АКЦЁР, РЭЖЫСЁР, ПЕДАГОГ...

Гэтага нашага земляка ведала і паважала некалькі пакаленняў аматараў тэатральнага мастацтва Магілёва, вобласці ды і ўсёй Беларусі. Паважаюць і памятаюць і сёння. У чым можна было пераканацца на вечарыне ў гонар Валянціна Іванавіча Ермаловіча, якая прайшла ў Палацы культуры вобласці.

Валянцін Іванавіч Ермаловіч усяго тры месяцы не дажыў да свайго 80-годдзя. Большую частку жыцця ён, ураджэнец Міншчыны, былы франтавік, правёў у Магілёве, пачынаючы з «ролі» артыста абласнога драматычнага тэатра ў далёкім ужо 1954 годзе.

Але толькі гэтай ролі яму, натхнёнаму, энергічнаму і шчыра апантанаму беларусу, не хапала. За амаль палову стагоддзя творчай дзейнасці ён выканаў дзясяткі тэатральных роляў, паставіў як рэжысёр дзясяткі спектакляў у аматарскіх тэатральных калектывах і культасветвучылішчы, дзе выкладаў 29 гадоў, падрыхтаваў і выхаваў шмат таленавітых акцёраў і рэжысёраў.

Асабліва вылучала Валянціна Іванавіча яго любоў і прыхільнасць да роднай беларускай мовы, роднага прыгожага слова, роднай беларускай драматургіі. У часы «развітога сацыялізму», калі літаральна ўсе сферы жыцця былі гранічна русіфікаваны, а простыя людзі размаўлялі на «трасянцы», ён, сапраўдны сын сваёй зямлі, на сваёй зямлі размаўляў толькі па-беларуску. Ставіў беларускія п’есы, і таксама толькі на беларускай мове. За што іншы раз яго называлі дзіваком.

Нагадаем, што такім жа дзіваком, толькі ў іншай сферы, быў яго брат — выдатны гісторык Мікола Іванавіч Ермаловіч, які, нягледзячы на слабы зрок, адолеў такія даследаванні па гісторыі старажытнай Беларусі, якія зрабілі б гонар і цэлым акадэмічным інстытутам. Да таго ж быў неблагім літаратуразнаўцам, паэтам, пісаў таленавітыя вершы.



Менавіта яго верш «Жыве Беларусь» стаў асновай новай песні. Музыку напісаў вядомы наш паэт і кампазітар Мікола Яцкоў і сам праспяваў прэм’ерны твор на вечары памяці Валянціна Ермаловіча.

Больш за дзве гадзіны гучалі ў той вечар вершы, гумарэскі, музыка, шчырыя ўспаміны пра выдатнага акцёра, чытальніка, тэатральнага дзеяча, педагога, чалавека.

Успамінамі падзяліліся адзін з заснавальнікаў магілёўскай арганізацыі таварыства «Мартыралог» (В. Ермаловіч быў яе першым старшынёй) Міхась Булавацкі, былая выкладчыца культасветвучылішча Лілія Кузьменка, выпускнік 1957 года акцёр і рэжысёр Браніслаў Чаркоўскі, драматург і журналіст Міхась Карпечанка з Бялынічаў, былы супрацоўнік абласнога бюро прапаганды беларускай літаратуры Віктар Арцем’еў.

Шчырымі словамі ўспаміналі настаўніка самадзейныя акцёры Валянціна Далькова (зараз выступае ў яўрэйскім мясцовым тэатры), кандыдат гістарычных навук Ігар Пушкін, Тамара Цыганкова, былы дырэктар Магілёўскага ГДК Лідзія Сахон (таго ГДК, дзе шмат год дзейнічаў тэатр В. Ермаловіча «Валянцін»), выкладчыца беларускай мовы і літаратуры гімназіі № 1 Ганна Бандарэнка. Іграў ансамбль класічнай гітары асветніцка-культурнага цэнтра «Эверэст», а класічную народную «Рэчаньку» праспявала салістка гарадской капэлы Аксана Юрчанка.

З асаблівай увагай слухалі прысутныя аповед унука В. Ермаловіча Дзмітрыя, паэта, рэжысёра, менеджара канцэртаў і фестываляў, які спецыяльна прыехаў для гэтага з Мінска.

З экрана пад час паказаў урыўкаў святкавання 80-годдзя В. Ермаловіча (праводзілася пасля яго смерці) прароцтвам прагучалі словы акадэміка Радзіма Гарэцкага: «Гэта (юбілей. — *М. Н.*) свята ўсёй Беларусі… Імя Валянціна Ермаловіча стане ў шэраг імён выдатнейшых сыноў Магілёўшчыны, Беларусі. Ён варты помніка, варты, каб яго імем былі названы вуліцы».

Нямала трэба зрабіць для захавання добрай памяці пра выдатнага земляка, і ў першую чаргу правесці яшчэ шэраг прысвечаных яму вечарын для моладзі ў навучальных установах горада. А вечарыну, пра якую ішла размова ў гэтых нататках,

падрыхтавалі гарадская арганізацыя Таварыства беларускай мовы на чале з яе кіраўніком Алегам Дзьячковым, які і вёў яе, і рэжысёр Ала Кускова.

### · Тамара Падымака ·
*(Бялынічы)*

## НАВУЧЫЎ ПРАФЕСІІ

Мае ўспаміны пра Валянціна Іванавіча Ермаловіча пачынаюцца з 1970 года, калі я стала навучэнкай тэатральнага аддзялення Магілёўскага культасветвучылішча імя Н. К. Крупскай.

Валянцін Іванавіч быў маім індывідуальным педагогам па сцэнічнай мове. Тады мяне вельмі здзівіла і ўзрушыла, што мой педагог — адзіны ў вучылішчы выкладчык, які заўсёды размаўляў па-беларуску. Пры гэтым нас, студэнтаў, размаўляць на роднай мове не прымушаў, а далікатна ўводзіў у свет нацыянальнай драматургіі, літаратуры, паэзіі.

— Бачыце, — казаў настаўнік, — якое хараство напісана на нашай мове!

Валянцін Іванавіч быў заўсёды элегантным, сціплым, ніколі не прыніжаў навучэнцаў і звяртаўся да нас заўсёды на «вы», што было для мяне і іншых непрывычна, але прыемна.

Я вучылася ў яго не толькі сцэнічнаму майстэрству, але і паводзінам, адносінам да людзей, культуры сумоўя, захопленасці прафесіяй.

Па заканчэнні вучылішча лёс зноўку звёў мяне з маім настаўнікам. Валянцін Іванавіч быў запрошаны ў Бялыніцкі раённы Дом культуры для пастаноўкі разавага спектакля ў народным тэатры юнага гледача, у якім я на той момант працавала загадчыцай пастановачнай часткі. Мы разам працавалі над пастаноўкай спектакля па п’есе К. Губарэвіча «Алазанская даліна».

А потым з 1993 па 1998 год Валянцін Ермаловіч працаваў рэжысёрам Бялыніцкага народнага ТЮГа. За гэту пяцігодку



ён паставіў сем спектакляў — «Модны шляхцюк» К. Каганца, «Дагарэла свечачка» А. Петрашкевіча, «Вечар» А. Дударава, «Трыбунал» А. Макаёнка, «Прымакі» і «Паўлінка» Я. Купалы, «Канвеер» М. Карпечанкі.

«Самы чалавечны чалавек», «рэжысёр ад Бога» — гэтыя эпітэты як нельга дакладна характарызуюць Валянціна Іванавіча. Працаваць з ім было цікава, павучальна. Апроч працы ў тэатры ён актыўна займаўся канцэртнай дзейнасцю, удзельнічаў у масавых святах, любіў выступаць на вясковай сцэне.

### · Надзея Палоннік ·
*(Бялынічы)*

## САПРАЎДНЫ БЕЛАРУС

Паважаю людзей інтэлігентных, таленавітых, добрых і абавязковых. Такім быў сапраўдны беларус Валянцін Іванавіч Ермаловіч.

Пачынаючы з 1990-х гадоў і да 2004 года ў Бялыніцкім раённым мастацкім музеі імя В. К. Бялыніцкага-Бірулі не адбылося, бадай, аніводнага мерапрыемства, у якім не браў бы ўдзелу нястомны і непаўторны Валянцін Іванавіч. Больш за тое, у сценах музея часта ладзіліся сустрэчы, вечарыны вучняў райцэнтра з Валянцінам Ермаловічам: ён чытаў ім «Новую зямлю» Якуба Коласа, творы Янкі Купалы, Максіма Багдановіча, Алеся Гаруна, Каруся Каганца, Цёткі, Францішака Багушэвіча, Ніла Гілевіча, Рыгора Барадуліна, Аляксея Пысіна, Аркадзя Куляшова, Генадзя Бураўкіна… Здаецца, няма ў нацыянальнай літаратуры такога пісьменніка, пра творчасць якога Валянцін Іванавіч не сказаў бы сваё аўтарытэтнае слова, творы якога не прачытаў бы. Выступаў ён і з тэматычнымі літаратурнымі кампазіцыямі.

Сам прыклад таго, як Валянцін Ермаловіч натуральна і прыгожа выкарыстоўваў матчына слова, ягоная артыстычнасць і далікатнасць, думаецца, пакідалі ў сэрцах юных слухачоў глы-

бокі след. Школьнікі ахвотна прыходзілі ў наш музей паслухаць Ермаловіча. Уражаныя, многія з іх уголас здзіўляліся, што сівы дзядуля па памяці паўгадзіны, гадзіну і больш чытаў «Новую зямлю», ведае столькі вершаў! Нікога не пакідала раўнадушным і непаўторнае выкананне Валянцінам Іванавічам беларускага гумару — аўтарскага і народнага! Да байкі ці то гумарэскі ён яшчэ і каментарый свой дадасць. Ды такі, што на вачах дзяцей ад смеху слёзы заблішчаць.

Адносна абавязковасці. Напрыканцы студзеня 2003 года запланавалі сустрэчу з Валянцінам Іванавічам. Дзень і час узгаднілі загадзя, запрасілі школьнікаў. І трэба ж было такому здарыцца, што пад раніцу таго самага дня ўсчалася вялікая завіруха. Канечне ж, патэлефанавалі Валянціну Іванавічу, каб не выбіраўся з Магілёва.

— А што тут такога? — пачуўся ў трубцы яго роўны спакойны голас. — Падумаеш, завіруха нейкая! Прыйшла, пабудзе і сціхне! Не будзем пераносіць сустрэчу. Я раней выеду з Магілёва.

Угаварыць Валянціна Іванавіча пасядзець дома так і не ўдалося. Нягледзячы на тое, што з-за непагадзі былі адмененыя некаторыя рэйсы прыгараднага аўтобуса, яму ўдалося-такі дабрацца ў Бялынічы. Хоць намерзся і нацярпеўся ў дарозе добра.

Такіх людзей, якім быў Валянцін Ермаловіч, наогул не багата.

Адсутнасць жа яго ў культурным жыцці Бялыніччыны адчувальная.

Не веру ў тое, што незаменных людзей няма.



**· Таццяна і Ігар Пушкіны ·**

*(Магілёў)*

## ЁН АДЫШОЎ, І МЫ ПАКІНУЛІ ТЭАТР...

Кажучы пра Валянціна Іванавіча Ермаловіча, расповед вядзём пра сябе і сваё жыццё. Таму, што Ён — лепшая частка нашага жыцця. Мы пазнаёміліся ў яго тэатральнай трупе, пабраліся шлюбам, і ён быў сватам на вяселлі, а наш старэйшы сын сыграў сваю першую ролю ў яго пастаноўцы, маючы ўсяго два гады. Валянцін Іванавіч часта бываў у нас дома на вуліцы Маўчанскага ў Магілёве, мы былі аднадумцамі наконт мінулага і будучыні Беларусі, тэатральнага жыцця. Нам было з ім вельмі добра, камфортна. Ён адышоў ад нас, і мы пакінулі тэатр. З таго часу ніводнай ролі на сцэне без яго!

Валянцін Іванавіч Ермаловіч…

Даволі вялікая драўляная хата недзе пад Мірам. Унутры — кафельная печ, па сценах — у рамках фотаздымкі. Разглядаю іх і бачу адзін, на якім групавы партрэт выпускнікоў Магілёўскага культурна-асветнага вучылішча. Сярод выкладчыкаў вабіць выява аднаго — у беларускай вышыванцы, пад ёй подпіс: «В. І. Ермаловіч».

Гэта было ў хаце бабці Ігара Марзалюка, будучага доктара гістарычных навук, прафесара, дэпутата Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь, а тады яшчэ студэнта-выпускніка. Яго бацька скончыў Магілёўскае культурна-асветнае вучылішча, затым інстытут і настаўнічаў на Краснапольшчыне.

Менавіта гэты выпадак заўжды ўзгадваецца нам, калі мы спрабуем аднавіць нашу першую сустрэчу з Валянцінам Іванавічам. Аднак адбылася яна, хутчэй за ўсё, на сходах Магілёўскай арганізацыі Беларускага Народнага Фронту. Тады, у 1990 годзе, на іх збіралася шмат асобаў дэмакратычных поглядаў, але толькі адзінкі мовілі па-беларуску. Сярод іх вылучаўся сваёй моваю і беларускім патрыятызмам, прынцыповасцю ў вырашэнні нацыянальнага пытання В. І. Ермаловіч, прымаючы актыўны

ўдзел у грамадска-палітычным жыцці. Здаецца, ён быў сябрам Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады.

А можа, мы пазнаёміліся падчас агульнагарадскога свята «Гуканне вясны»? Ці не ўпершыню гарадскі аддзел культуры наладзіў беларускае гуканне, а не рускую «масленіцу». Рэжысёрам свята была Зінаіда Білык, ёй катастрафічна не хапала хлопцаў. Тады арганізатары выйшлі на сяброў культурна-асветніцкай суполкі беларусаў г. Магілёва «Машэка», і мы ўтраіх (Ігар Пушкін, Ігар Марзалюк і Алесь Сердзюкоў) пагадзіліся прыняць удзел у правядзенні свята ў Пячэрскім лесапарку. Адбылося яно 8 красавіка 1990 года. Добра помню, бо быў моцна ўражаны, як мой дырэктар атрымаў ліст з гарвыканкама, каб мяне адпускалі з працы на рэпетыцыі з захаваннем заробку, а галоўнае тым, што папрасілі пашпартныя дадзеныя і паведамілі — за ўдзел у святе нам заплацяць грошы. Я пабачыў каштарыс выдаткаў на правядзенне свята, а там было надрукавана: «Белоруссы: 4 х 15 рублей». Мая першая роля — Беларус, і каштаваў ён у савецкай Беларусі 15 рублёў! Чацвёртым быў Вячаслаў з мастацкай самадзейнасці. Пазней я даведаўся, што ён — малодшы сын Валянціна Ермаловіча. Мы суправаджалі Ярылу, чыталі нейкі вершаваны тэкст, трымалі, «на баране седзячы», нейкую мажную кабету «вясну», таньчылі з дзяўчатамі, якіх было па некалькі дзясяткаў на кожнага з нас. На свяце чытаў вершы і Валянцін Іванавіч Ермаловіч.

Наступны раз мы пабачыліся 8 чэрвеня 1991 года. Суполка «Машэка» наладзіла ў Магілёўскім абласным мастацкім музеі вечарыну, прысвечаную 330-годдзю атрымання Магілёвам герба (1661). Тады мы марылі, што гэты герб будзе гербам сучаснага Магілёва, што і адбылося ў 2005 годзе. На вечарыну запрасілі славутага гісторыка Міколу Ермаловіча, брата Валянціна Іванавіча. Апошні не прамінуў прыйсці на вечарыну і паслухаць трыумфальны выступ брата перад магілёўскай моладдзю і грамадскасцю. Пасля вечарыны, у чаканні начнога цягніка на Мінск, гісторык, фальклорны гурток дзяўчат з Мінска, арганізатары і частка цікаўных рушылі ў гарвыканкам, які тады знаходзіўся ў Доме Саветаў. Памочнік старшыні гарвыканкама Віталь Васількоў адчыніў кабінет кіраўніка выканаўчай улады горада, выцягнуў са старшынёўскай шафы бутэльку чырвонага віна, крышталёвыя шклянкі, і пацякла няспешлівая размова аб мінулым і будучыні Беларусі. Усе прысутныя бачылі яе незалежнай і самастойнай краінай.

Але ж гэта ўсё былі эпізадычныя сустрэчы з Валянцінам Іванавічам. Па-сапраўднаму ўсё пачалося, паводле хронікі суполкі «Машэка», 9 снежня 1992 года. Увечары на пасяджэнне суполкі «завітаў Валянцін Ермаловіч з прапановай паставіць спектакль да Дня Волі» і наогул ішла размова аб стварэнні на базе суполкі «Машэка» і Таварыства беларускай мовы беларускамоўнага тэатра. Ідэю падтрымалі, і з 16 снежня пачаліся рэпетыцыі.

У 2012 годзе я працаваў з архіўнымі дакументамі Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь і пазнаёміўся з цікавай дзелавой паперай. Тагачасны міністр культуры Рэспублікі Беларусь Я. Вайтовіч у сваёй справаздачы Савету Міністраў ад 4 студзеня 1993 года аб выкананні Дзяржаўнай праграмы развіцця беларускай мовы і іншых нацыянальных моў у Рэспубліцы Беларусь адзначыў наступнае: «Адбываецца адраджэнне мовы — праз беларускі прафесійны і аматарскі тэатры… перадаўшы свайму выхаванцу Краснапольскі народны тэатр, ствараe аматарскі беларускі тэатр на базе суполкі “Машэка” ў Магілёве вядомы ў рэспубліцы рэжысёр В. Ермаловіч» (Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь. — Фонд 974. Воп. 4. Спр. 7. Арк. 1). Праз некалькі год гэты калектыў атрымаў званне народнага тэатра пры гарадскім Цэнтры культуры і вольнага часу.

Прэм’ера спектакля адбылася 25 сакавіка 1993 года ў гарадскім Доме культуры (пазней гарадскі Цэнтр культуры і вольнага часу) і была прысвечана 75-й гадавіне абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі. Суполкаўцы паказалі 3-і акт п’есы Францішка Аляхновіча «Няскончаная драма». Шчыра прызнаюся — некаторыя ролі зусім не памятаю, а іншыя па сёння хвалююць сэрца і душу! Не засталася ў памяці і тая роля.

У буклеце «Тэатр Валянціна Ермаловіча запрашае на прэм’еру “Жартаўлівы Пісарэвіч” паводле твора Максіма Гарэцкага» памылкова напісана, што тэатр згуртаваўся ў 1994 годзе і

аснову яго склалі студэнты Магілёўскага педагагічнага інстытута разам з дэканам Яраславам Клімуцем, а «пазней далучыліся прадстаўнікі згуртавання «Машэка» І. Пушкін і Т. Крукоўская». Памылкова пазначаны год, гэта адбылося раней, а Таццяна Крукоўская ніколі не ўваходзіла ў склад «Машэкі».

Вельмі важнай падзеяй у станаўленні тэатра Валянціна Ермаловіча пры ГДК (ГЦК) было святкаванне Дзядоў у 1993 годзе. Адбылася яна 30 кастрычніка ў кавярні на другім паверсе ГДК. Арганізацыяй яго займаўся тагачасны старшыня суполкі «Машэка» (з 03.06.1993) Сяржук Кулягін, сёння добра вядомы бард, журналіст і арганізатар фэсту «Вялікая бард-рыбалка» і Таварыства беларускай мовы на чале з Яраславам Клімуцем. Трэба сказаць, што на той час істотна змяніўся склад суполкі, прыйшлі новыя сябры, усё большую ролю сталі адыгрываць студэнты філалагічнага факультэта педінстытута. Свята атрымалася вельмі запамінальным і пранікнёным. У гэтым была вялізная заслуга вядучага — Валянціна Ермаловіча.

Вось так і гуртавалася аснова новага тэатра. Менавіта тады я вырашыў пайсці ў тэатральны калектыў Валянціна Іванавіча, які ён набіраў у Доме культуры чыгуначнікаў. Тым больш, што значная частка студэнтаў па рэкамендацыі Я. Клімуця пацягнулася туды ж. Маё канчатковае развітанне з «Машэкам» адбылося пасля святкавання Дня Волі 25 сакавіка 1994 года. Было гэта ў лялечным тэатры, які тады ўзначальвала Н. П. Аўдзеева, у будучым двойчы дэпутат парламента Рэспублікі Беларусь. Тады яна яшчэ дазваляла правесці імпрэзу «нацыяналістам». Я быў вядучым, выступалі — гісторык Анатоль Сідарэвіч, дэпутат Лявон Дзейка, старшыня згуртавання беларускіх вайскоўцаў, а пазней вядомы палітык Мікола Статкевіч, спявалі Кастусь Герашчанка, Васіль Аўраменка, Сяржук Кулягін і Ігар Мухін-Рабянок, але найбольшай падзеяй вечарыны стаў спектакль А. Петрашкевіча «Дагарэла свечачка» ў пастаноўцы Бялыніцкага народнага тэатра пад кіраўніцтвам рэжысёра Вялянціна Ермаловіча.

Восенню 1993 года Валянціна Іванавіча запрасілі аднавіць дзейнасць народнага тэатра Дома культуры чыгуначнікаў, рыхтаваліся, здаецца, да 70-гадовага юбілею тэатра. Неабходна



было стварыць практычна цалкам новы тэатральны калектыў і падрыхтаваць прэм’еру. Пачаліся рэпетыцыі вялікага спектакля пад назвай «Мы играем Чехова».

Мне не вельмі хацелася ісці, бо тэатр рускамоўны, але запрасіў сам Ермаловіч! Я на той момант ужо не мог яму адмовіць, бо настолькі зблізіўся з ім па поглядах і трапіў пад яго аўру — быў зачараваны яго апантанасцю, прынцыповасцю, нязломнасцю характару, але адначасова дабрынёй і велікадушшам.

Там і адбыўся самы вялікі цуд у маім жыцці. Я люблю з’яўляцца перад людзьмі з шумам, экспрэсіяй, усмешкай, адразу паказваючы ўсім, які я непаўторны. Так было і ў той восеньскі вечар, калі я зайшоў, не — уварваўся, у пакой на другім паверсе Дома культуры чыгуначнікаў, дзе праводзіліся рэпетыцыі народнага тэатра. Адразу стаў нешта казаць, вітацца і адначасова распранацца. І не адразу заўважыў, што з правага боку ад увахода каля люстэрка сціпла сядзела прывабная дзяўчына ў берэціку. Яна пабыла нядоўга і сышла, нешта пачуўшы ад Валянціна Іванавіча. А той павярнуўся да мяне і кажа:

— Прыходзіла запісвацца ў тэатр прыгожая і цікавая дзяўчына, займалася ў тэатральным гуртку.

Я прамаўчаў, але для сябе адзначыў — нейкі знаёмы твар. Адкуль? Адказ на гэтае пытанне я атрымаў на наступнай рэпетыцыі.

Я ўвайшоў у пакой. Каля часопіснага століка ў крэсле сядзела дзяўчына ў кароткай спадніцы. Безумоўна, мне як мужчыну адразу ў вочы кінуліся яе прыгожыя і стройныя ножкі. Потым я глянуў у твар і ўбачыў тую, што калісьці даўно, больш за дзесяць год назад, мне прыснілася. Ермаловіч кажа:

— Знаёмся, наша актрыса. Танюша…

Я сустрэў сваё каханне. Я ўвіхаўся за ёй больш за год. Некалькі хлопцаў з нашай трупы, значна маладзейшыя за мяне, цікавіліся Танюшай, дарылі ёй кветкі, праводзілі…

Аказваў ёй пяшчотныя знакі ўвагі і Валянцін Іванавіч. Будучы прыкладным сем’янінам, тым не менш ён любіў жанчын, умеў адрозніваць вонкавую і знешнюю прыгажосць ад брыдоты і пустаты, быў галантным кавалерам.

Мне Танюша нават не дазваляла праводзіць яе да інтэрната, дзе жыла. Была яна (у дзявоцтве Таццяна Крукоўская) родам з Бабруйска, займалася ў школьным тэатральным гуртку пад кіраўніцтвам актрысы Бабруйскага тэатра драмы і камедыі, нават планавала паступаць у тэатральны інстытут і мела рэкамендацыі, але пайшла ў медыцыну і на момант паступлення ў тэатральную трупу Ермаловіча працавала ў дзіцячай паліклініцы. А я ў той час быў пры пасадзе — дырэктар!

Аднойчы яна мне паабяцала, што прыйдзе да мяне ў госці, калі зацвітуць дзьмухаўцы на ўзгорку мікрараёна «Юбілейны». Я тады жыў у кватэры на другім паверсе Архірэйскага палаца Г. Каніскага па вуліцы Ленінскай і так чакаў! Па сёння памятаю, як пасля прэм'еры яна падышла да мяне, пагладзіла па грудзях і нешта ласкава сказала… Па-нямецку!

Спектакль «Мы играем Чехова» быў пастаўлены Валянцінам Іванавічам у пачатку 1994 года падчас святкавання юбілею народнага тэатра Дома культуры чыгуначнікаў па некалькіх творах А. П. Чэхава. У аснове былі апавяданні: «Юбілей» (Таццяна выканала ролю Таццяны Аляксееўны — жонкі дырэктара банка А. Шыпучына, я — Кузьмы Хірына, бухгалтара банка), «Жарцік» (Таццяна іграла Надзеньку), «Лебядзіная песня» (я — Суфлёра) і іншыя. Шыпучына ў «Юбілеі» і Васіля Светлавідава, коміка ў «Лебядзінай песні» іграў сам Ермаловіч. Запомнілася гульня самадзейнай актрысы Валянціны Даньковай. У спектаклі была задзейнічана і студэнтка Магілёўскага педінстытута Ірына Язвінская, якая праз нейкі час, атрымаўшы рэкамендацыю ад В. І. Ермаловіча, паступіла вучыцца ў вышэйшае тэатральнае вучылішча імя М. Шчэпкіна ў Маскву і трапіла ў клас славутага Юрыя Саломіна. Праз колькі год стала вядучай актрысай Маскоўскага драматычнага тэатра імя Астроўскага і прыязджала ў складзе апошняга на гастролі ў Магілёў, выкладала акцёрскае майстэрства ў Вышэйшым тэатральным вучылішчы пры Дзяржаўным акадэмічным Малым тэатры. А шлях у прафесійны тэатр ёй адкрыў рэжысёр Валянцін Ермаловіч!

Спектакль «Мы играем Чехова» меў велізарны поспех. 27 мая 1994 года мы паказалі яго ў гарадскім Доме культуры. Затым



адбыліся першыя гастролі, па савецкай завядзёнцы — у вайсковую часць. Пазней спектакль паўтарылі ў абноўленым складзе ў народным тэатры гарадскога Цэнтра культуры і вольнага часу.

Восенню 1994 года практычна ўся наша тэатральная трупа следам за Валянцінам Іванавічам вярнулася ў ГДК, дзе быў створаны аматарскі тэатр-студыя Ермаловіча. Першым спектаклем стала пастаноўка апавядання Васіля Быкава «На Чорных лядах». Таццяна выканала ролю Валодзькі, а я — Аўстрыякі. Прэм'ера прайшла ў ГДК пры перапоўненай зале, была прысвечана ўгодкам Слуцкага збройнага чыну і добра ўспрынята гледачамі і спецыялістамі.

Я вельмі тэмпераментны, гучны, маю ўласны погляд на ўсё. Таму, магчыма, часта крыўдзіў Валянціна Іванавіча. Каюся. Спрачаўся з ім, не пагаджаўся, упарціўся, часам нават не слухаўся яго парадаў. Валянцін Іванавіч таксама мог павысіць на мяне голас, крыўдзіўся, але ніколі, падкрэслю — ніколі, не абразіў, не гнаў з трупы, не казаў ліхога слова. Пераконваў, тлумачыў і напрыканцы заўжды падкрэсліваў, што ніхто лепей за мяне гэтую ролю не сыграе! Што гэта маё. І мне, ды і ўсім нам, верылася ў гэта, дадавала моцы і цікаўнасці. Ніколі не было цяжка ісці на рэпетыцыю. Калі быў маленькі сынок і мы не маглі пайсці на рэпетыцыю, Валянцін Іванавіч прыязджаў да нас сам. Гэтая апантанасць зачароўвала ўсіх.

Я не перабольшваю свае акцёрскія здольнасці. Ведаю, чаго варты. Дзякуючы Валянціну Іванавічу я атрымаў упэўненасць падчас выступаў перад вялікай аўдыторыяй. Мае паводзіны перад мікрафонам падчас прамых радыёэфіраў (я вёў некалькі год забаўляльна-пазнавальную перадачу на «Новае радыё Магілёў»), перад камерай пры стварэнні гістарычных тэлеперадач — усё гэта школа Ермаловіча. Асабліва мне гэта спатрэбілася пры ўдзеле ў масавых агульнагарадскіх народных святах: Каляды, Новы год, Купалле і іншыя. Самым цяжкім быў Новы год. Аднойчы мы з Уладзімірам Бурканавым былі вядучымі ў навагоднюю ноч на плошчы Леніна з 1.00 да 3.00. П'яны натоўп скача, рагоча, кожны «казырае» перад іншымі, лезе на сцэну, нешта хочуць спець, сказаць, міліцыянты, ахоўнікі сцэны кудысьці

зніклі, а ты «ведай ды працуй, забаўляй народ»! Пасля такога нічога не страшна, не кажучы пра студэнцкую аўдыторыю…

Запомнілася наша з Танюшай Купалле на Святым возеры недзе 1997 ці 1998 года. Мы былі вядучымі свята, нашы словы запісалі на фанаграму. Потым яшчэ два ці тры гады вядучыя былі іншыя, але гаварылі нашымі галасамі!

Ва ўсіх без выключэння агульнагарадскіх і значнай колькасці абласных святаў прымаў удзел Валянцін Ермаловіч. Без яго свята было не свята, асабліва карыстаўся попытам яго беларускі гумар. Мне пашчасціла пару разоў выступаць разам з ім у гумарыстычных народных інтэрмедыях («Доктар і селянін»). Так і стаіць у вушах гучны і працяглы рогат натоўпу, які сабраўся вакол сцэны каля Палаца культуры «Хімвалакно» (цяпер Палац культуры вобласці), на якой выступаў з гумарэскамі Валянцін Іванавіч! А яго выступы ў навучальных установах, дзе ён чытаў беларускія вершы. У апошнія гады жыцця ён выступаў перад школьнікамі і чытаў паэму Якуба Коласа «Новая зямля», якую ведаў на памяць цалкам!

Валянцін Іванавіч быў рэжысёрам, акцёрам, бутафорам, касцюмерам, рэквізітарам, грымёрам (выбітна грыміраваў уласнаручна ўсіх акцёраў, а якія ён рабіў парыкі!), дэкаратарам, майстрам сцэны і г. д.

25 лістапада 2001 года я быў узнагароджаны Дыпломам упраўлення культуры Мінскага аблвыканкама за выкананне ролі Дабрыні ў спектаклі па п’есе Міхася Карпечанкі «Дачка волі» на фестывалі аматарскага тэатральнага мастацтва ў г. Беразіно. Лічу, у гэтым заслуга не толькі Ермаловіча-рэжысёра, але і Ермаловіча-бутафора. Менавіта ён уласнымі рукамі, уявіце сабе, з абгортак пачак індыйскай гарбаты зрабіў мне раннесярэднявечныя даспехі, якія выглядалі са сцэны як сапраўдныя! Тацціяна выканала ў спектаклі ролю служанкі-віжкі. За той спектакль на фестывалі наш народны тэатр Магілёўскага гарадскога Цэнтра культуры атрымаў, акрамя высокай адзнакі журы і добрага прыёму гледачоў, кававарку. Яе вырашылі перадаць нашай тэатральнай сям’і. Кававарка па сёння ў нас.



Бачылі мы Валянціна Іванавіча і ў роспачы. У той момант у яго чамусьці былі вінаватыя вочы. У такім стане ён пачуваў сябе «без віны вінаватым». Адбылося гэта вясною 1995 года. Мы паехалі са спектаклем «На Чорных лядах» па апавяданні Васіля Быкава ў Мінск. Выступаць павінны былі ў Доме літаратара. Прыехалі, пераапрануліся і раптам даведваемся, што гледачы, а гэта былі ў асноўным ветэраны-вайскоўцы, не хочуць бачыць спектакль па гэтым творы Быкава. Нам паведамілі, што нашага выступлення не будзе. Валянцін Іванавіч разгубіўся, адчуваў сябе няёмка, але стрываў. Не памятаю дакладна, што ён нам казаў. Але ў выніку мы адчулі гонар — наш спектакль забаранілі! Вінаватасць і роспач зніклі. Мы адчулі сваю, няхай невялічкую, далучанасць да лёсу герояў твору Васіля Быкава «На Чорных лядах». Менавіта тады мы па-сапраўднаму зразумелі ролю і значнасць тэатра, і гэта таксама — дзякуючы Ермаловічу.

Падобнае я адчуў яшчэ аднойчы. Гэта было ў Оршы. Я прыехаў да бацькоў і прывёз сябрам-аднадумцам відэакасету з запісам нашага спектакля «Калізей» па п’есе М. Матукоўскага. Дарэчы, запісвалі спектакль два відэаапаратары, адна касета была канфіскавана (зробленая апаратарам ГДК), як казалі, адпаведнымі органамі. Ужо на другі дзень і кудысьці знікла. Другі запіс зрабіў Валадар Цурпанаў, ён захоўваўся ў В. І. Ермаловіча (для нас з Танюшай былі зроблены ўрыўкі з нашым выкананнем), і яго я павёз у Оршу. Гэта быў запіс першай пастаноўкі з А. Буркіным у галоўнай ролі — Праўдадыра. Ён рызыкнуў толькі аднойчы сыграць яе і пасля прэм’еры катэгарычна адмовіўся выходзіць на сцэну ў спектаклях В. І. Ермаловіча. Так натуральна і падобна сыграў Праўдадыра, што ўсе пабачылі ў ім дзейнага прэзідэнта. Ва ўсіх наступных пастаноўках «Калізея», а мы не адмовіліся ад спектакля, галоўную ролю выконваў сам Валянцін Іванавіч, заўжды пры перапоўненых залах. На гэтым спектаклі наогул заўжды быў аншлаг. Так было і ў Оршы. На відэапрагляд сабралася багата народу. Спектакль падабаўся, усе адзначалі актуальнасць п’есы, добрую гульню акцёраў і мужнасць рэжысёра.

Мы ўсё ж такі выступілі на сцэне мінскага Дома літаратара. Гэта адбылося 28 сакавіка 1997 года падчас вечарыны, прысвеча-

най 100-м угодкам драматурга Васіля Шашалевіча (1897–1941). Наш, як пазначана ў афіцыйнай праграме-запрашэнні, магілёўскі тэатр-студыя «Машэка» Валянціна Ермаловіча паказаў урывак са спектакля «Сімфонія гневу». Матэрыял аб вечарыне і спектаклі быў змешчаны ў часопісе драматургіі і сцэнічнага мастацтва «Тэатральная творчасць» (1997. № 3. С. 44). У рэпартажы названы выканаўцы галоўных роляў: Сальк — Валянцін Ермаловіч, Яўгення, жонка Салька — Таццяна Пушкіна, дырэктар кансерваторыі — Ігар Пушкін, Альтнэр — Яраслаў Клімуць. Акрамя таго, амаль на паўстаронкі змешчаны фотаздымак сцэны са спектакля.

Летам таго года атрымаў ліст з ЗША ад Юркі Васілеўскага (беларускага гісторыка), у якім ён піша: «Нарэшце пабачыў фота тваёй жонкі — на старонках тэатральнага часопіса» (Юрка з'ехаў у Амерыку значна раней нашага шлюбу). Пасля вечарыны і спектакля, якія прайшлі з поспехам (цытата з часопіса), мы ўчатырох, чакаючы апошняй электрычкі на Асіповічы (Валянцін Іванавіч вырашыў сэканоміць дзяржаўныя выдаткі на гатэль і дабірацца ў Магілёў з Мінска на «перакладных», праз Асіповічы, і правесці там некалькі гадзін ноччу да першага дызеля на Магілёў) і яшчэ некалькі асобаў былі гасцінна прыняты Ірынай і Алесем Марачкінымі, вядомымі дзеячамі беларускага адраджэння і мастацтва. Там жа славуты мастак прэзентаваў нам з аўтографам адбітак сваёй карціны «Нашы любімыя лялькі ў п'есе "Камедыянты"».

Аднойчы мы паказвалі спектакль у вучылішчы культуры (так на той момант стала звацца Магілёўскае культурна-асветнае вучылішча), і адна з выкладчыц мне сказала, што Ермаловіч нічым не выдаваў сваю беларускасць, калі працаваў у вучылішчы. Але ж добра вядома, што менавіта яго паклікаў славуты магілёўскі паэт Аляксей Пысін, каб пайсці да абласнога кіраўніцтва і дырэкцыі драматычнага тэатра і перашкодзіць пераўтварэнню Магілёўскага абласнога драматычнага тэатра ў рускі драматычны тэатр. І ў іх атрымалася! Валянцін Іванавіч любіў «свой тэатр», так ён называў наш абласны тэатр, бо ён працаваў у ім акцёрам — прыехаў у складзе трупы з Пінска (1954), на базе якой і быў заснаваны Магілёўскі драматычны. Але, на маю думку, не любілі яго там, і менавіта за яго беларускасць. Валянцін Іванавіч меў добрыя стасункі з шэрагам акцёраў прафесійнага тэатра ў Магілёве, бываў на прэм'ерах, але казаў, што ў іх нічога няма беларускага! Таму пры жыцці Ермаловіча неяк абыходзілі, не заўважалі ў тэатры.

Валянцін Іванавіч Ермаловіч — адукаваны і высокапрафесійны спецыяліст. Праўда, з сям'і рэпрэсаванага, у савецкі час гэта істотна замінала кар'еры. Аднак у гады вайны сям'я падтрымлівала сувязь з партызанамі, брат Лявон — сувязны, сам Валянцін Іванавіч пайшоў на фронт, быў цяжка паранены, узнагароджаны ордэнам Айчыннай вайны (другі атрымаў у сярэдзіне 1980-х гадоў).

Беларускасць Валянціна Іванавіча Ермаловіча была варожай і небяспечнай для савецкай улады! Імя В. Ермаловіча не ўзгадвалася сярод заслужаных работнікаў культуры Беларусі ў кнізе «Памяць: гіст.-дакум. хроніка Магілёва» (Мінск, 1998), ды і сёння няма нават у спісе (пераліку) заслужаных работнікаў культуры Беларусі сайта «MogilevWiki» (свободная энциклопедия Могилева). Ці не выпадкова?

Грамадзянская мужнасць Валянціна Іванавіча праяўлялася не толькі ў справе змагання за беларускую мову. Ён першым браўся ставіць сацыяльна актуальныя творы: «На Чорных лядах» В. Быкава, «Калізей» М. Матукоўскага (абласны тэатр у Бабруйску пачаў рэпетыцыі па п'есе, але не рызыкнуў давесці справу да паказу), «Канвеер», «Дачка волі» М. Карпечанкі. Яго пастаноўкі класікі — «Хто смяецца апошнім», «Пінская шляхта» і іншыя — былі зроблены ў самыя лёсавызначальныя моманты нашай дзяржавы і беларускага народа і таму заўжды мелі поспех у гледача. Не цураўся ён удзелу і ў грамадска-патрыятычных акцыях. Напрыканцы 1990-х ён аднойчы з непрыхаваным абурэннем і прыкрасцю распавядаў на рэпетыцыі, як некалькі дзён да таго яму, ветэрану Вялікай Айчыннай вайны (праўда, Валянцін Іванавіч заўжды падкрэсліваў, што ён салдат Другой сусветнай вайны, так і напісана, згодна з яго тастаментам, на надмагільным помніку), пры ўзнагародах, круцілі рукі міліцыянты і спрабавалі арыштаваць за ўдзел у мітынгу, які праводзіўся на пляцы перад

Палацам юнацкай творчасці па праспекце Міру і быў прысвечаны Дню вайсковай славы (8 верасня).

Запомнілася эмацыянальнае і змястоўнае выступленне Валянціна Іванавіча на адкрыцці выставы «Выданні беларускага замежжа», арганізаванай Музеем гісторыі Магілёва ў памяшканні Магілёўскай абласной бібліятэкі. Упершыню ў Магілёве з 29 снежня 1997 па сярэдзіну лютага наступнага года выстаўляліся арыгіналы выданняў беларусаў з Англіі, Германіі, ЗША, Канады, Італіі, Іспаніі, Латвіі, Францыі, Польшчы. Была прадстаўлена мастацкая, рэлігійная (рыма-каталіцкая, пратэстанцкая, грэка-каталіцкая, Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы), гістарычная, навуковая, мастацтвазнаўчая і публіцыстычная літаратура на беларускай мове — кнігі, перыёдыка, паштоўкі, буклеты і г. д.

Валянцін Іванавіч не любіў сядзець на месцы. Мы паказвалі спектаклі ў розных гарадах, райцэнтрах, вёсках. Зразумела, найбольш адчуваеш уздым пры паўнюткіх залах, а гэта магчыма толькі ў гарадах. Чаму? Патлумачу. Паехалі мы са спектаклем у Вішоў, даволі вялікая вёска па шляху з Магілёва ў Мінск, не даязджаючы Бялынічаў. Прыехалі, палюбаваліся на вялікую афішу аб нашым выступленні, пераапрануліся. Выходзім на сцэну ў першым акце, а ў зале — тры ці пяць гледачоў! Каб не разгубіцца, суцешвалі сябе тым, што мы жывём у краіне з еўрапейскімі тэатральнымі традыцыямі, а там прынята прыходзіць толькі да пачатку другога акта. Нават узгадалі адпаведны эпізод з «Граф Монтэ-Крыста» А. Дзюма. Паціху народ, пераважна, жанчыны сталага ўзросту, падцягваўся на спектакль. Аднак поўнай залы не набралася. Прычыну патлумачылі нам мясцовая жыхары: мы зарана пачалі спектакль! Трэба было пасля таго, як усе падояць кароў! Вось у чым асаблівасць вёскі… Затое запомнілася цудоўная вячэра, арганізаваная для артыстаў старшынёй вішоўскага СВК «Калгас “Радзіма”» Аляксандрам Лапацентавым.

Валянцін Іванавіч верыў у Бога. Заўсёды перад пачаткам рэпетыцый, прэм’ерай, наогул перад выступленнем ён чытаў малітву «Ойча наш». Менавіта таму ў яго практычна ўсё атрымлівалася, пастаноўкі мелі поспех і прыносілі задавальненне гледачам і акцёрам. Ім і яго дзейнасцю апекаваўся сам Бог. Валянцін Іванавіч хваліў акцёраў-аматараў, але абавязкова да наступнай рэпетыцыі рыхтаваў… не заўвагі, а прапановы, каб лепш данесці да гледача асноўную ідэю аўтара і канцэптуальны погляд рэжысёра. Аб яго ўважлівасці і павазе да людзей сведчаць надпісы на праграмках.

Падрыхтоўка новага спектакля ў Валянціна Іванавіча — своеасаблівы рытуал. Ён педантычна рыхтаваўся, усё прадумвалася ім загадзя (выканаўцы, дэкарацыі і г. д.). На рэпетыцыі ўрачыста аб’яўлялася аб пачатку працы над чарговай пастаноўкай. Называўся склад удзельнікаў, і адразу кожнаму раздаваліся тэксты роляў. Прычым не проста раздрукоўка або ксеракс, але абавязкова з уласнаручным надпісам: «Артысту (артыстцы) … ад рэжысёра В. І. Ермаловіча». Гэта моцна ўплывала на самаўсведамленне свайго «я» ў тэатральнай трупе кожнага акцёра-аматара. Потым ішлі рэпетыцыі, якія мелі характар не механічнага завучвання тэксту (мы былі аматары, усе недзе працавалі, вучыліся, таму заўжды не хапала часу дома вывучыць тэкст) і працы над вобразам па задуме рэжысёра, а творчай імправізацыі. Валянцін Іванавіч разумеў, што мы не прафесіяналы і трэба так правесці рэпетыцыю, каб нам самім было цікава і мы адначасова працавалі і адпачывалі. Завяршаўся рытуал адразу пасля прэм’еры ўрачыстым уручэннем кожнаму выканаўцу ролі праграмкі з асабістым подпісам, які нікога не пакідаў раўнадушным і натхняў на новыя сустрэчы на сцэне: «Арт. Таццяне Крукоўскай! Віншую з прэм’ерай, з творчым поспехам, буду рады сустрэчы ў новым спектаклі. Рэж. В. Ермаловіч. 26.11.1994» (мы выконвалі ролі Валодзькі і Аўстрыякі, «На Чорных лядах» В. Быкава), «Арт. Т. Пушкінай. Віншую з прэм’ерай, з чароўнай Путанай! Жадаю новых творчых поспехаў. 9.09.1999, В. Ермаловіч» і «Арт. І. Пушкіну. Віншую з прэм’ерай, з таленавітым выкананнем міністра. Жадаю новых творчых поспехаў. В. Ермаловіч. 9.09.1999» (Путана і Ваенны міністр, «Калізей» М. Матукоўскага), «Арт. Т. Пушкінай. Віншую з прэм’ерай!!! Ваша пані Пшэперкоўская сыграна адметна, на высокім прафесійным узроўні, тонка, арыгінальна, праўдзіва, яскрава. Рыхтуйцеся да новых роляў. Рэж. В. Ермаловіч. 25.05.2000» (Пані, «Жартаўлівы

Пісарэвіч» М. Гарэцкага), «Ігару Пушкіну са спадзяваннем на далейшае нашае супрацоўніцтва. Памагай Вам Бог. 3.03.2001, г. Магілёў. В. Ермаловіч» (Дабрыня і Служанка-віжка, «Дачка волі» М. Карпечанкі).

Праграмкі спектакляў «Хай прыйдзе згода» А. Смоліча (Прасіння і Максімовіч, 2002), «Пінская шляхта» В. Дуніна-Марцінкевіча (Пісулькін, 1998), «На парозе блакітнай вясны» М. Карпечанкі (Люба, Каятан, Вітуша, 1997), «П. С. Х» Л. Родзевіча (Гаспадыня і Гаспадар, 1996) з падобнымі надпісамі захоўваюцца ў нашай сям'і. Сярод рэліквій нашай сям'і — фотаздымкі з тэатральных пастановак, праграмкі і тэксты роляў з аўтографамі і праўкамі В. І. Ермаловіча.

Ён дапамагаў раскрыцца кожнаму, і не толькі на сцэне. Напрыклад, сталі праводзіцца Тыдні тэатра. А хто першым гэта прапанаваў? Мы ўпэўнены цяпер, што гэту думку выношваў Валянцін Ермаловіч, а тады мне, а можа, і не аднаму, здавалася, што гэта я прапанаваў яму праводзіць Тыдні нашага тэатра, каб паказаць нашы лепшыя спектаклі і даць магчымасць гледачам пабачыць усіх акцёраў-аматараў нашага народнага тэатра Магілёўскага цэнтра культуры і вольнага часу. Валянцін Іванавіч умеў так зрабіць, што кожны лічыў сябе неабходным і патрэбным у тэатральнай трупе. Вось друкарская афіша «Народны тэатр Магілёўскага гарадскога цэнтра культуры і вольнага часу запрашае на Тэатральную восень». З 23 па 28 кастрычніка 2000 года, кожны дзень — пяць спектакляў («Камедыя» У. Рудава, «Парог» А. Дударава, «Прымакі» Я. Купалы, «Жартаўлівы Пісарэвіч» М. Гарэцкага, «Калізей» М. Матукоўскага) і вечар беларускага гумару, галоўны рэжысёр — заслужаны дзеяч культуры Валянцін Ермаловіч. Задзейнічана амаль 30 акцёраў: усе прозвішчы пазначаны на афішы. Які прафесійны тэатральны рэжысёр можа пахваліцца падобнай праграмай?

Нам асабліва запомніліся наступныя ролі ў пастаноўках В. І. Ермаловіча. Таццяне — Валодзька («На Чорных лядах»), Зіна Зёлкіна («Хто смяецца апошнім» (я выканаў ролю Тулягі) К. Крапівы), Маруся («Таленты з глыбінь» (я — Белкін)), Пані («Жартаўлівы Пісарэвіч»), Марта («Пан міністар» Ф. Аляхновіча). Мне — Аўстрыяка («На Чорных лядах»), Ваенны міністр («Калізей»), Дабрыня («Дачка волі»), Максім («Прымакі»), Пісулькін («Пінская шляхта»). Але найбольш — «П. С. Х.» Леапольда Родзевіча і «На парозе блакітнай вясны» Міхася Карпечанкі.

Мая мама і па сёння кажа: «Самае лепшае, што было на вашым вяселлі 11 лютага 1995 года, акрамя маладых, гэта — сват!» Ім, як мы ўжо згадвалі, быў Валянцін Іванавіч. Мы з Танюшай нарадзіліся і жылі ў горадзе, у якім павінна быць беларускае вяселле. Яго тут ведалі толькі па кніжках. Дзякуючы Ермаловічу ў нас было сапраўднае вяселле, згодна з традыцыямі і абрадамі беларускага народа. Прычым гэта было так натуральна, як быццам адвеку толькі гэтым Валянцін Іванавіч і займаўся. Позна ўвечары мы пайшлі праводзіць яго да тралейбуснага прыпынку. Ён усхвалявана запытаўся ў нас, ці добра ўсё атрымалася. А потым нахіліўся і кажа: «Я не мог не пайсці да вас на вяселле, я ж пазнаёміў вас, вы ж мае гадаванцы і таму родныя, я так рады вашаму каханню і сям'і».

Самай удалай пастаноўкай для нас была «П. С. Х.» Л. Родзевіча. Аднойчы на рэпетыцыю прыйшоў Валянцін Іванавіч і кажа: «Ігар і Танюша, я знайшоў п'есу для вас, для вашай сям'і. Завецца яна "П. С. Х." — пільнуй сваю хату!» Запомніўся яе паказ пры паўнюткай зале на малой сцэне Магілёўскага абласнога драматычнага тэатра (тады размяшчаўся насупраць свайго гістарычнага будынка — у філармоніі) падчас тэатральнай асамблеі 1996 года.

У спектаклі «На парозе блакітнай вясны» я сыграў Каятана — бацьку мастака Вітольда Каятанавіча Бялыніцкага-Бірулі (яго самога іграў Валянцін Іванавіч), Танюша — Любу, яго дачку, а наш двухгадовы сын Ігарок — Вітушу, вялікага мастака ў дзяцінстве. Такім чынам наш сын пабываў бацькам сваёй маці! Безумоўна, сынок наш не мог вывучыць свой тэкст. За яго гаварыў я, быццам паўтараў яго ціха сказаныя словы да мяне і сам на іх адказваў. Прэм'ера адбылася ў Бялынічах вясною 1997 года, мы нават атрымалі ганарары за выступленне. Пайшлі ў мясцовы ўнівермаг, і наш сынок на свой першы ганарар

(40 000 тых беларускіх рублёў) набыў мячык, які выбраў сам. На жаль, смерць Валянціна Іванавіча не дазволіла і другому нашаму сыну, Яўгенію (яму споўнілася два гады ў 2004 годзе), выйсці на сцэну ў спектаклі гэтага выбітнага рэжысёра.

Валянцін Іванавіч добра ведаў гісторыю Беларусі, уважліва сачыў за навінамі ў гэтай галіне навукі, набываў выданні (кнігі, манаграфіі, часопісы). З ім можна было не толькі размаўляць аб гісторыі нашай Бацькаўшчыны, а нават і дыскутаваць, бо ён ведаў, аб чым ідзе размова. Гэта яму моцна дапамагала пры падборы рэпертуару для тэатра, стварэння вобразаў у спектаклі, перадачы тагачаснай эпохі. Ён блізка да сэрца прымаў складаны шлях гістарычнай канцэпцыі брата Міколы (вядомы гісторык і паэт, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі, заснавальнік новай канцэпцыі гісторыі Беларусі), аднадумцам якога быў і беспярэчна ўспрымаў яго пастулаты.

Ён быў вельмі гаспадарлівым і клапатлівым. На рэпетыцыі заўжды можна было пачуць яго клопат аб родных — жонцы, сынах. Старэйшым ён ганарыўся, дапамог яму пабудаваць добрае жытло ў Мінску. Моцна хваляваўся за малодшага, за яго сямейнае шчасце. Для мяне тады выглядала дзіўным: муж і бацька ўставаў раней за ўсіх, гатаваў сняданак для дарослага сына, каб той пайшоў на працу паеўшы. Валянцін Іванавіч быў абазнаны ў справе харчавання, не толькі каб згатаваць нейкую страву, але і ўважліва ставіўся да яе кампанентаў. Прытчай сталі паездкі Ермаловіча з Магілёва ў Бялынічы па смятану, бо там яна лепшая!

А як Валянцін Іванавіч з гонарам казаў, што самастойна адрамантаваў і перацягнуў новай тканінай канапу! Валянцін Іванавіч мог выпіць, але п’яным мы яго ніколі не бачылі. Самая цікавая гісторыя, звязаная з ім і алкаголем, — гэта як мы дабіраліся пасля спектакля ў Доме літаратара з Мінска ў Магілёў, як сёння кажуць, «цягнікамі эканом-класа» і начавалі ў Асіповічах на вакзале. Валянцін Іванавіч з Яраславам Клімуцем пайшлі ноччу ў гады суцэльнага дэфіцыту шукаць бутэльку гарэлкі ў незнаёмым горадзе і… знайшлі!



А чаго вартая яго адказнасць! Неяк мы вярталіся пасля паказу спектакля з Мінска ў Магілёў праз Асіповічы. Нехта з суправаджаючых тэатральны калектыў не паехаў. Але была выпісана камандзіроўка, і, каб аплацілі праезд, неабходна было прадаставіць квіткі. Трэба было запытацца ў іншых пасажыраў, каму яны не былі патрэбныя пасля паездкі, і папрасіць, каб яны аддалі іх нам. Усе адчувалі сябе няёмка. І зноў Валянцін Іванавіч! Ён знайшоў такіх пасажыраў і папрасіў квіткі спачатку ў электрычцы Мінск–Асіповічы, а потым у дызелі Асіповічы–Магілёў.

У сярэдзіне 1990-х у Магілёве да Міжнароднага дня тэатра сталі ладзіцца асамблеі. На працягу некалькі дзён на адной сцэне паказвалі пастаноўкі прафесійныя і аматарскія тэатральныя калектывы. Вось праграмка адной з іх за 1996 год. І зноў бліскуча паказаў сябе Валянцін Іванавіч і яго тэатр. У першы дзень (27 сакавіка), адразу пасля адкрыцця, на камернай сцэне монаспектакль В. Ермаловіча «Чаго жыў?» А. Дударава. На наступны дзень на асноўнай сцэне драмтэатра вечаровы спектакль «Пан міністр» Ф. Аляхновіча ў пастаноўцы нашага аматарскага тэатра В. Ермаловіча, на трэці, апошні дзень, спектакль «П. С. Х.» Л. Родзевіча ў дзённым сеансе. На асамблеі выступалі тэатральныя калектывы з Магілёва, Асіповіч, Бабруйска, Мсціслава, Бялынічаў, Горак і іншых месцаў, але толькі адзін калектыў, наш, пад кіраўніцтвам В. І. Ермаловіча, паказаў тры спектаклі!

Ермаловіч паспрыяў рэалізавацца шмат каму ў тэатральнай творчасці — не толькі як акцёрам (адчуць праз тэатр здзяйсненне мары, знайсці сябе як асобу ў пасляпрацоўны час, пазбегнуць шэрасці штодзённасці, неўладкаванасці побыту і інш.), але і рэжысёрам. Пад кіраўніцтвам Валянціна Іванавіча ставілі свае спектаклі ў якасці рэжысёраў акцёры нашага тэатра М. Бацэвіч, А. Загароўскі.

Валянцін Іванавіч быў творчы чалавек з моцным рэжысёрскім характарам, нягледзячы на яго вонкавую мяккасць. Ён не проста браўся за пастаноўку спектакля, а спачатку суадносіў асноўную ідэю п’есы з сучаснасцю. Ад яго «даставалася» аўтарам, нават класікам. Ён працаваў над тэкстам, мог і прамінуць некаторыя

маналогі, якія, на яго думку, замінаюць гледачам зразумець актуальнасць вобраза і ўздзеянне яго на рэчаіснасць.

Валянцін Іванавіч падбіраў п'есы і пад акцёраў тэатра. Таму нам лёгка было ўвайсці ў вобраз, мы атрымлівалі задавальненне ад гульні на сцэне, у нас атрымлівалася і нам здавалася, што мы нічым не горшыя за прафесійных акцёраў. Валянцін Іванавіч бачыў у нас правобразы дзеючых асобаў п'ес. У гэтым сакрэт Ермаловіча як рэжысёра і педагога.

Да апошніх дзён сваіх Валянцін Іванавіч рыхтаваў новыя пастаноўкі. Адна з іх — «Раскіданае гняздо» Янкі Купалы, у якой ён мне прапанаваў ролю Лявона. Засталася не рэалізаванай наша мара паставіць на сцэне «Караля Ліра» У. Шэкспіра на беларускай мове. Да гэтай задумы мы прыступілі яшчэ вясною 1995 года, падрыхтаваўшы ўрывак да ўрачыстага святкавання 70-гадовага юбілею Валянціна Іванавіча ў гарадскім Доме культуры. Я іграў Шута, а Танюша выконвала ролю Кардэліі. Час ішоў, але прэм'еры па неўміручым творы Шэкспіра так і не было. Мы рупліва захоўваем тэксты роляў, на якіх рукою Валянціна Іванавіча напісана: Таццяне роля Кардэліі, а мне — графа Кента.

У Валянціна Іванавіча балела сэрца, ён неаднойчы скардзіўся на здароўе. Перайшоў на раздзельнае харчаванне. Часта на рэпетыцыі можна было пабачыць, як ён масіраваў грудзі ў вобласці сэрца. Паказваў мне, як трэба націскаць на кончыкі пальцаў, каб суцішыць боль у сэрцы. Здаецца, летам 2003 года мы сям'ёй наведвалі яго ў шпіталі ветэранаў і інвалідаў вайны ў Пячэрску. Трэба сказаць, выглядаў ён бадзёра, гаварыў нам, каб рыхтаваліся да новых пастановак, мы ў каторы раз узгадалі, што абавязкова паставім «Караля Ліра».

Засталося ў памяці наша з ім апошняе выступленне ў пачатку 2004 года ў Магілёўскай абласной бібліятэцы. Я тады моцна захварэў (летам таго года мне зрабілі аперацыю на сэрцы), але не змог адмовіць Валянціну Іванавічу. Здаецца, гэта быў яго творчы вечар або сустрэча з моладдзю, і я, схуднелы, выступаў у якасці вядучага вечарыны.

Усё было б добра, каб не яго празмерная адказнасць і працавітасць. Мы з Танюшай з жахам глядзелі на вялізную колькасць бялізны, якую ён памыў перад сваёй смерцю.



У дзень яго пахавання мы прыехалі да так званага Дома акцёраў, дзе Валянцін Іванавіч пражыў 50 год, і пабачылі вялікую колькасць людзей. Падняліся на апошні паверх і развіталіся з блізкім нам чалавекам. Чамусьці мы былі ўпэўнены, што беларускамоўнага тэатра ў Магілёве больш не будзе, і мы адначасова развіталіся з нашым рэжысёрам і яго тэатрам «Валянцін».

У мяне яшчэ быў рэабілітацыйны перыяд пасля аперацыі, таму на могілкі мы не паехалі. Кожны год мы адведваем магілу Валянціна Іванавіча, часцей на Дзяды. Аднойчы сын прыйшоў і гаворыць: «Нам кажуць, каб мы класам 9 мая стаялі ўздоўж Першамайскай і віталі ветэранаў». Мы вырашылі, што лепей у гэты дзень наведаем Валянціна Іванавіча — ветэрана Другой сусветнай вайны, які быў паранены і яго маці атрымала «пахаванку».

Але ён выжыў, каб мы з Танюшай сустрэліся на сцэне ў тэатры, пакахалі адно аднаго, стварылі сям'ю, сыгралі шмат роляў пад яго спагадлівым і чуллівым паглядам.

**· Людміла Рублеўская ·**
*(Мінск)*

## НА ПРЭМ'ЕРУ ЗАПРАСІЎ ВАЛЯНЦІН ЕРМАЛОВІЧ

Прозвішча Ермаловіч з 1990-х для мяне стала сімвалам беларускага Адраджэння. Вядома, найперш я ведала легендарнага Міколу Ермаловіча — гісторыка, які адкрыў для нас Вялікае Княства Літоўскае і рыцарскую Беларусь нароўні з Уладзімірам Караткевічам. Але і ягоны брат Валянцін Ермаловіч успрымаўся для мяне таксама рыцарам Адраджэння. Тым больш гэта быў чалавек старэйшага пакалення, ветэран Вялікай Айчыннай вайны, і пры гэтым — адраджэнец, свядомы беларус.

Падкрэсліваю гэта, таму што ў дзевяностыя вельмі часта адчуваўся гэты разрыў паміж пакаленнямі — маладых, якія засвойвалі мову і адкрывалі забытыя старонкі несавецкай гісторыі,

і старэйшых, савецкіх беларусаў, якія ў свой час адмовіліся ад мовы і папракалі моладзь у экстрэмізме. Таму такія, як Валянцін Ермаловіч, былі вельмі патрэбнымі нам духоўнымі аўтарытэтамі — бо мы ўсведамлялі, праз якія цяжкасці і небяспекі ім трэба было пранесці сваю беларускасць, і было на каго раўняцца.

Наша асабістае знаёмства пачалося з тэлефанавання — Валянцін Іванавіч хацеў паставіць маю драматычную паэму «Амор Ардэнс, каханне палаючае». Лёс паэмы не надта шчаслівы. Пісалася яна па замове для тэатра аднаго акцёра «Зніч», на аснове яшчэ не надрукаваных успамінаў Юльяны Мэнке, віленскай дзяўчыны нямецкага паходжання, пра яе адносіны з Іванам Луцкевічам, адным са стваральнікаў «Нашай нівы» і беларускага руху ўвогуле. Напісалася вельмі эмацыйная рэч, яна спадабалася дырэктарцы тэатра, актрысе Галіне Дзягілевай. Але рэжысёрка Віргінія Тарнаўскайтэ, якая мусіла ставіць спектакль, была абураная: яна, літоўка па нацыянальнасці, не магла пагадзіцца з тым, што ў п’есе Вільня называецца спрадвечна беларускай, што герой скардзіцца, як цяжка адстойваць беларускія інтарэсы ў літоўскім урадзе і г. д. Рэжысёрка сказала мне, што беларусаў у Вільні называлі «гуды», што п’еса занадта пафасная, і тэкст збракавалі. Праз нейкі час паэму ўхваліў рэдактар часопіса «Полымя» Сяргей Законнікаў, і яна была надрукаваная ў «Полымі». Вось там яе і прачытаў Валянцін Ермаловіч.

Я не вельмі спадзявалася, што штосьці атрымаецца, — мой «раман з тэатрам» па жыцці не вельмі ўдалы. Але вось Валянцін Іванавіч запрашае на прэм’еру ў Магілёў! Мы паехалі разам з мужам, паэтам Віктарам Шніпам. Было вельмі хвалююча! Помню шурпаты, быццам пераеханы танкамі, асфальт галоўнай плошчы, магілёўскі клон мінскага дома ўрада, стары будынак, у якім месціўся народны тэатр, усхваляваныя твары гледачоў… Актрыса змагла крануць залу. А ў фінале, калі нібыта на магілу Івана Луцкевіча ляглі белыя і чырвоныя стужкі, гледачы не стрымалі слёз…

Я была вельмі ўдзячная Валянціну Іванавічу… Таму, безумоўна, толькі парадавалася, калі ён захацеў ставіць спектакль па дакументальнай п’есе, маёй і гісторыка Віталя Скалабана, «Людвіка і Фабіян». Тэма зноў была «нязручная»: каханне Зоські Верас і Фабіяна Шантыра, аднаго з першых ахвяраў паслярэвалюцыйных рэпрэсій з беларускіх дзеячаў. Валянцін Іванавіч збіраўся сам іграць у гэтым спектаклі — ён адмыслова папрасіў уставіць у п’есу фрагмент тэксту Максіма Гарэцкага пра Другі Усебеларускі з’езд, які разагналі бальшавікі. Валянцін Ермаловіч сыграў бы Дзядка-батлейшчыка, які распавядае пра гэтую падзею, што нанесла вялікі ўдар па беларускім руху. Мы абмяркоўвалі праўкі ў нас дома, куды прыехалі пасля прэзентацыі ў бібліятэцы Янкі Купалы маёй кнігі прозы «Сэрца мармуровага анёла». Быў з намі і Віталь Скалабан. Валянцін Іванавіч «гарэў» ідэяй новай пастаноўкі, строіў планы… Але ягоная смерць усё скасавала. Неўзабаве памёр і Віталь Скалабан, а п’еса так і не пастаўленая — хаця многія «загараліся», браліся…

Беларуская культура заўсёды выжывала дзякуючы энтузіястам, якія не баяліся ісці насуперак часу, пераадольваць нечыя абыякавасць і баязлівасць. Валянцін Іванавіч быў менавіта такім энтузіястам. Дадам, мне было прыемна, што на суполку маладых творцаў «Літаратурнае прадмесце», якой я кірую, прыходзіў ягоны ўнук, Зміцер Ермаловіч-Дашчынскі, які і сёння сцвярджаецца як паэт.

**· Віктар Сухараў ·**
*(Бялынічы)*

## ТАЛЕНАВІТЫ РЭЖЫСЁР

Працуючы журналістам бялыніцкай раённай газеты «Зара над Друццю», неаднаразова сустракаўся з Валянцінам Ермаловічам, прысутнічаў на прэм’ерах яго спектакляў, пісаў на іх рэцэнзіі-водгукі.

Аднойчы вяртаўся на рэйсавым аўтобусе з Магілёва ў Бялынічы. Сярод пасажыраў заўважыў Валянціна Іванавіча, які, прыхінуўшыся да акна, каб лепей было відаць, чытаў нейкую

кніжку. Я падышоў да яго, прывітаўся. Валянцін Іванавіч, страсянуўшы ў руках кнігу, сказаў:

— Перачытваю п’есу Алеся Петрашкевіча «Дагарэла свечачка». Хачу паставіць яе з бялыніцкімі артыстамі.

Рыхтуючы спектакль, ён імкнуўся паглыбіць і ўзмацніць трагедыйнае гучанне твора, «прымерыць» яго да бялыніцкіх самадзейных артыстаў. У некаторых месцах ён пераставіў дыялогі, народныя песні. Напрыклад, вясельны матыў «Бывайце здаровы, мае абразы…», якім пачынаецца п’еса, рэжысёр перанёс у фінал спектакля, калі галоўная гераіня Марфа дастала з-за бажніцы свечку, запальвае яе, ставіць на палічку, папярэдне паклаўшы туды газету. Чуецца голас гаспадыні: «Дагарыць свечачка да палачкі, а там і хатачка зоймецца…»

Валянцін Іванавіч клапатліва падбіраў артыстаў на ролі гераіняў спектакля. Спыніўся на адной са старэйшых артыстак бялыніцкага ТЮГа Ніне Фяськовай, якая змагла з першых жа эпізодаў, з першых рэплік захапіць гледача. Свае маналогі яна вяла ў стрыманай манеры, псіхалагічна напоўнена, ствараючы вобраз жанчыны цяжкага лёсу, але жанчыны, якая не згубіла дабрыні, спагадлівасці, уласнай годнасці.

Арыгінальнасцю ў стварэнні і раскрыцці вобраза Любкі вызначылася і Ларыса Лоўдар. Гераіня прыязджае ў Славені ў дзень эвакуацыі насельніцтва з-за чарнобыльскай бяды і заходзіць да цёткі Марфы. Больш за дваццаць гадоў яна не была ў роднай вёсцы. З’ехала ў горад, стала маці-адзіночкай, распусніцай… Любка ў выкананні Ларысы Лоўдар па-свойму вытанчаная і абаяльная. А дуэтныя сцэны яе з Марфай шчыра і зацікаўлена ўспрымаліся гледачамі.

Трыумфальна прагучаў гэты спектакль і на сцэне Дома літаратара ў Мінску.

Ва ўсіх спектаклях, якія паставіў Валянцін Ермаловіч, ён зарэкамендаваў сябе ўдумлівым і творчым рэжысёрам.

І па сённяшні цёпла ўспамінаюць яго многія бялынічане, якім Валянцін Іванавіч падарыў цудоўныя спектаклі па п’есах беларускіх драматургаў.



## · Сямён Сямёнаў ·
*(Краснаполле)*

## АЧЫШЧЭННЕ ДУШЫ

У пярэдадзень 70-годдзя Краснапольскага народнага тэатра Валянцін Іванавіч Ермаловіч, раздумваючы над гэтым вялікім шляхам, зазначыў: «Іншы раз, каб вызначыць будучае, не лішне паглядзець на пройдзенае, на спадчыну нашых папярэднікаў, іх вопыт, іх пошукі і знаходкі, наогул глыбока зазірнуць у сутнасць з’яў і падзей, іх высновы». І ён у думках перабіраў мінулае, добрым словам успамінаючы заснавальнікаў цяперашняга народнага — настаўнікаў, братоў Андрэя і Васіля Шашалевічаў, Аляксандра Грубе і іншых, якія ставілі «спектаклі першыя свае», як пісаў некалі Пятрусь Броўка, у будынку пажарнага дэпо. А якія спектаклі ставілі! Класіку!

Тагачасны тэатральны гурток карыстаўся вялікім аўтарытэтам у гледачоў. Вакол яго групаваліся таленавітыя творчыя сілы, і калі адыходзілі адны, на іх месца станавіліся іншыя і працягвалі весці гледачоў у чароўны свет мастацтва, адкрываючы ім вочы на розныя складаныя жыццёвыя з’явы.

Затым была вайна. І не было тэатра. А з аднаўленнем разбуранай гаспадаркі аднавіў сваю работу і драматычны калектыў Краснапольскага раённага Дома культуры.

З гэтым творчым калектывам я ўпершыню пазнаёміўся ў 1963 годзе. І тэатр захапіў мяне. Тагачасны рэжысёр Л. В. Лабаноўскі, самадзейныя артысты Ф. Лісічкіна і І. Гараўскі і мяне запрашалі «іграць на сцэне», але я наадрэз адмовіўся, бо лічыў, ды і цяпер лічу, што справа гэтая вельмі складаная і што іграць на сцэне павінны людзі нейкія не такія, з нейкай другой душою. Але ж тэатрам тады я «захварэў». Не прапускаў ніводнай прэм’еры. А іх было тады шмат: «Не верце цішыні» Івана Шамякіна, «Папараць-кветка» Івана Козела, «Лявоніха на арбіце» Андрэя Макаёнка, «Чырвоныя кветкі Беларусі» Васіля Гарбацэвіча, «Хто смяецца апошнім» Кандрата Крапівы і шмат іншых.

Тэатр доўга радаваў. Затым пачаў засмучаць. Справа ў тым, што камусьці прыйшло ў галаву, што з добрага рэжысёра можна зрабіць баявога партыйнага работніка. І ўгаварылі Леаніда Васільевіча Лабаноўскага пакінуць тэатр і перайсці на працу ў апарат райкама партыі. І тэатр заліхаманіла. Вось тут і пачаліся мае засмучэнні. У «Сельской газете» я выступіў з крытычным артыкулам «Хто адкрые заслону?». Крыху падзейнічала. Ды не надоўга, бо рэжысёры змяняліся, як у цыгана коні. Тады, памятаецца, паэт Аляксей Пысін выступіў у «Магілёўскай праўдзе» з рэзкім крытычным артыкулам «Год без прэм'еры». Як маглі і чым маглі імкнуліся дапамагчы тэатру вярнуць былую славу. А яна не вярталася, бо не было каму вярнуць. Тут патрэбен быў энтузіяст — такі, як тыя першыя стваральнікі.

Памятаецца, сустрэліся неяк Аляксей Пысін, Валянцін Ермаловіч і я ў Магілёве. Сядзелі на лавачцы ў скверы каля абласнога драматычнага тэатра, гутарылі пра Краснапольскі народны тэатр, якому літаральна пагражала забыццё. Не думаў я тады, што праз нейкі час Валянцін Іванавіч узначаліць гэты творчы калектыў, бо пра гэта ніякай размовы не было. А здарылася менавіта так. Працуючы выкладчыкам Магілёўскага культасветвучылішча, ён адначасова стаў кіраваць і народным тэатрам у Краснаполлі.

Не магу не сказаць хоць колькі слоў пра наша творчае супрацоўніцтва з Валянцінам Іванавічам. У свой час я напісаў невялічкую п'есу пра камсамольскага падпольшчыка Ваню Галярку. Падзяліўся гэтым неяк з Аляксеем Пысіным, а той і кажа: «Давай я пакажу спецыялісту». І толькі праз колькі гадоў Валянцін Іванавіч сказаў, што па гэтай маёй п'есе вучыў студэнтаў культасветвучылішча, як увасабляць на сцэне п'есу, напісаную на дакументальнай аснове. Затым папрасіў мяне пашырыць яе да поўнаметражнай, дапрацаваць.

Шчыра ўдзячны Валянціну Іванавічу за дапамогу і падтрымку, бо менавіта толькі дзякуючы яму мая п'еса «Зоркі гаснуць на світанні» была ўвасоблена на сцэне.

Мне падабаецца ў характары Валянціна Іванавіча зайздроснае, пастаяннае імкненне да новага. Ён заўсёды ў пошуку. На сцэну «выцягвае» не тое, што ўжо абкатанае іншымі творчымі калектывамі, а нешта новае, каб менавіта са сцэны Краснапольскага народнага тэатра яно гучала ўпершыню. А адкрываць новае ой як нялёгка!

За бытнасць Валянціна Ермаловіча рэжысёрам Краснапольскі народны тэатр узняўся на новыя вяршыні славы. Заслужанай славы. Удзел у абласных, рэспубліканскіх, Усесаюзным аглядах-конкурсах, паказ спектакляў па Беларускім тэлебачанні, нарэшце, удзел у Міжнародным конкурсе народных тэатраў. І ўсюды — дыпломы, прызавыя месцы. Тэатр удастоены Граматы Вярхоўнага Савета БССР, ён — лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі і Магілёўшчыны.

Такое прыгадалася ў сувязі з прысваеннем Валянціну Іванавічу Ермаловічу ганаровага звання заслужанага работніка культуры Беларусі.

І яшчэ. Сваім жыццёвым прыкладам, сваім майстэрствам, паўсядзённай работай у тэатры Валянцін Іванавіч далучае ўсё больш людзей да тэатральнага мастацтва, робячы іх дабрэйшымі, чысцейшымі душою. Менавіта падчас разваг над гэтым нарадзіліся такія вершаваныя радкі, якія прысвячаю В. І. Ермаловічу:

Светлай белізною прыцярушаны,
Аж іскрацца снежныя палі.
О, каб у людзей заўсёды душы
Гэткімі чысцюткімі былі!

Менавіта гэтаму і падпарадкавана творчая дзейнасць Валянціна Іванавіча Ермаловіча, якому ад шчырага сэрца — удачы ва ўсім!

*1988*

## · Іван Ткачоў ·

*(Краснаполле)*

### БЫЎ ПАТРЭБНЫ ЛЮДЗЯМ

Для мяне Валянцін Ермаловіч назаўсёды застаўся ў памяці светлым, добрым чалавекам, таленавітым тэатральным настаўнікам. Яго характар увабраў у сябе самыя лепшыя якасці чалавечай культуры, якія можа падарыць толькі магутны Божа.

Гэта ж якую трэба мець волю і сілу, каб цягам пятнаццаці гадоў прыязджаць працаваць у Краснаполле з Магілёва?!

А ўсё пачалося з размовы са сваім сябрам і нашым земляком Аляксеем Пысіным. Той папрасіў Валянціна Іванавіча аднавіць дзейнасць Краснапольскага тэатра. Валянцін Ермаловіч паабяцаў, што на працягу двух-трох месяцаў зробіць спектакль.

«Я і ўявіць сабе не мог, — пазней занатаваў Валянцін Іванавіч у сваіх успамінах, — што гэтыя тры месяцы прадоўжацца шмат гадоў. Нават цяпер не магу паверыць, як усё гэта вытрымаў, а час так хутка праляцеў. Мне іншы раз здаецца, што Краснаполле — гэта мая Радзіма. Ніколі не думаў, што ў гэтым мястэчку так многа людзей, якія па сваёй волі хочуць займацца ў самадзейным тэатры. Было шмат людзей, якія прыходзілі і прасілі запісаць іх тэатр. Я не ведаў, як усіх заняць у спектаклях, каб нікога не пакрыўдзіць. Кожны раз здзіўляла поўнае запаўненне залы. У мяне іншы раз пыталіся, калі я пакіну Краснаполле, бо ўсё-такі ўзрост і няблізкі свет. На гэта я заўсёды казаў, што да мяне прыходзяць людзі, і я ім патрэбны».

Аднойчы Валянцін Іванавіч быў у мяне дома і заначаваў. У час гутаркі за сталом ён падняў чарговую чарку і сказаў: «Калі на тым свеце Пысін спытае ў мяне, ці выканаў яго загад, то мне не будзе сорамна перад ім».



## · Сяргей Чыгрын ·

*(Слонім)*

### АДЧУВАННЕ СЭРЦАМ

Здавалася, што ён будзе жыць заўсёды. Апантаны, шчыры, цікавы, бадзёры і культурны. Валянцін Іванавіч Ермаловіч — мой дарагі настаўнік, сябра, дарадца. Ён памёр раптоўна, вымавіўшы толькі адно слова: «Сэрца». Гэта адбылося 22 снежня 2004 года. Хаця праз тры месяцы ён рыхтаваўся адзначыць сваё 80-годдзе. Не паспеў…

Пазнаёміўся я з Валянцінам Іванавічам Ермаловічам летам 1974 года, калі паступаў на тэатральнае аддзяленне Магілёўскага культасветвучылішча. Я, вясковы хлопчык са Слонімшчыны, які з дзяцінства марыў стаць акцёрам і рэжысёрам, неяк прачытаў у газеце аб'яўку, што ў далёкім Магілёве ёсць такое вучылішча, куды пасля 8-га і 10-га класаў прымаюць хлопчыкаў і дзяўчынак. Сабраў чамаданчык і паехаў у невядомы вялікі горад на Дняпры. Тады мне яшчэ не было і 16 гадоў. Знайшоў я гэтае вучылішча, здаў дакументы і… дачакаўся ўступных экзаменаў. Але перад імі абітурыентам неабходна было расказаць верш, кавалачак прозы і паказаць сцэнічны эцюд. Верш і прозу я ведаў, а вось што гэта за эцюд — першы раз чуў. За некалькі хвілін да паказу эцюда я атрымаў кансультацыю ў дзяўчат, якія паступалі разам са мною. Яны былі больш вопытныя ў тэатральнай справе, бо ў сваіх гарадах наведвалі драмгурткі і народныя тэатры, таму добра ведалі, што такое эцюд і як яго трэба паказваць. На хаду прыдумаў свой уласны эцюд і пайшоў перад прыёмнай камісіяй на маленькай спецыяльнай сцэне яго паказваць. Сюжэт эцюда быў вельмі просты і нават смешны: я пайшоў у грыбы, там убачыў лісіную нару, пачаў чакаць, калі ліса адтуль вылезе, каб яе злавіць за хвост. Замест нары — паклаў на сцэне крэсла. Гэта дазвалялася. У прыёмнай камісіі сядзелі чалавек восем. Сярод іх быў і Валянцін Іванавіч Ермаловіч. Усе ўважліва глядзелі, што я буду паказваць. І вось у самы адказны момант эцюда, калі нібыта ліса «выскачыла» з нары і я кінуўся яе «лавіць», крэсла

ад майго падзення паляцела проста на прыёмную камісію. Але я не разгубіўся, а паказаў эцюд да канца. Пасля падзякаваў усім за ўвагу, выйшаў на калідор. Адразу падумаў, што ўсё — мяне не дапусцяць да асноўных экзаменаў, таму што я не здаў эцюд. Але выйшла ўсё наадварот. Памятаю, выступаў Валянцін Іванавіч, які перад абітурыентамі сказаў, што лепш за ўсіх эцюд паказаў Чыгрын.

Так я стаў навучэнцам Магілёўскага культасветвучылішча. Але рэжысуру ў нас выкладаў не Валянцін Ермаловіч, а Леанід Багам'я, якога ў 60-гадовым узросце некалькі гадоў таму скасіў інфаркт. Гэтыя рэжысёры сябравалі. Больш вопытны Валянцін Іванавіч бываў у нас на занятках і рэпетыцыях, дапамагаў маладому рэжысёру і выкладчыку Леаніду Багам'і. Вельмі часта Валянцін Ермаловіч гутарыў са мной, цікавіўся маім жыццём, называў мяне сваім земляком, заходнікам. Мне ад гэтага было цяплей і лягчэй. А яшчэ Валянцін Іванавіч заўсёды размаўляў на беларускай мове. І ўсе навучэнцы, якія з ім гутарылі, стараліся размаўляць таксама па-беларуску.

Даведаўшыся, што я пішу вершы, Валянцін Іванавіч аднойчы мне сказаў: «Я гутарыў са сваім сябрам паэтам Аляксеем Пысіным пра цябе. Заўтра ў памяшканні рэдакцыі "Магілёўскай праўды" будзе пасяджэнне абласнога літаратурнага аб'яднання. Выберы найлепшыя вершы і сходзі туды…»

Я вельмі хваляваўся, бо ўпершыню выносіў на суд свае яшчэ кволыя першыя творы. У рэдакцыі сустрэлі мяне шчыра і дабрадушна. За сталом моўчкі сядзеў Аляксей Васільевіч Пысін. Маўчаў ён і тады, калі ўсе па чарзе чыталі свае вершы (пераважна рускамоўныя). Пасля паэты паміж сабою пачалі спрачацца і нават сварыцца. Напрыканцы літаб'яднання загадчык ідэалагічнага аддзела газеты таварыш Ізотаў даў слова Аляксею Пысіну. Аляксей Васільевіч ціха сказаў: «З усіх вершаў, якія тут прагучалі, мне найбольш спадабаліся вершы Сярожы Чыгрына. Іх я і буду прапаноўваць на нашу літаратурную старонку».

Праз некалькі дзён я атрымаў ад Аляксея Пысіна ліст, дзе ён прасіў тэрмінова прыслаць два вершы, выбраныя з усіх мной



прачытаных для літстаронкі. Я даслаў адзін верш пра хлеб. Ён і быў надрукаваны ў магілёўскай абласной газеце.

За тры гады вучобы ў Магілёве з Валянцінам Ермаловічам і Аляксеем Пысіным мне давялося не раз прымаць удзел у літаратурна-музычных вечарынах і сустрэчах з чытачамі. У Магілёўскім абласным аддзяленні Саюза пісьменнікаў Беларусі Валянцін Ермаловіч быў адказны за нумары мастацкай самадзейнасці, а Аляксей Пысін — за літаратурную частку. Дзе мы толькі на Магілёўшчыне не былі! Дзе мы толькі не выступалі! Гэта быў рамантычна-светлы і найцікавейшы час майго юнацтва. З ініцыятывы Аляксея Пысіна мы разам з Валянцінам Ермаловічам выдавалі ў вучылішчы рукапісны літаратурны часопіс «Лучынка». Знайсці б цяпер хоць адзін нумар…

Валянцін Ермаловіч вельмі любіў беларускую паэзію. Ён вучыў мяне дэкламаваць вершы са сцэны. Асабліва ў той час мой настаўнік захапляўся паэзіяй Янкі Непачаловіча. Неяк паехалі выступаць на Краснапольшчыну. У сельскім Доме культуры сабралася поўная зала людзей. На першым радзе сядзелі кіраўніцтва мясцовага калгаса, Аляксей Пысін, Валянцін Ермаловіч. А я на сцэне чытаю Янку Непачаловіча:

Хоць нельга і розум, і сэрца
Пакласці на шалі,
Ды ўсё ж чалавек пазнаецца
Па крупнай дэталі…

Зала прыціхла. Аляксей Пысін, апусціўшы галаву, нешта думаў, а пасля сказаў: «Добра, Сярожа, добра!..» У гэты вечар мы яшчэ паказалі жарт Л. Родзевіча «Збянтэжаны Саўка», дзе я іграў Саўку, мае аднакурснікі Генадзь Гавароўскі — жабрака, а Валянціна Паўлоўская — Магрэту. Зала ад смеху проста грымела. Нас выклікалі некалькі разоў на біс. А пасля канцэрта Валянцін Іванавіч мяне абняў і сказаў: «Маладзец!»

У 1977 годзе я скончыў Магілёўскае культасветвучылішча і пайшоў у войска. Пасля войска паступіў у Белдзяржуніверсітэт. З Валянцінам Ермаловічам сувязі на пэўны час згубіліся. Аля пасля мы зноў з ім выпадкова сустрэліся ў Мінску ў Доме літа-

ратара. З яго слоў і са слоў краснапольскага краязнаўца Леаніда Васільевіча Лабаноўскага я даведаўся, што ў канцы 70-х гадоў мінулага стагоддзя Краснапольскаму народнаму тэатру пагражала закрыццё. І Валянцін Іванавіч, жывучы ў Магілёве, вырашыў узначаліць гэты калектыў. Працуючы выкладчыкам рэжысуры Магілёўскага культасветвучылішча, ён адначасова ўзваліў на свае плечы і гэтую нялёгкую ношу: рабочыя дні ў вучылішчы, выхадныя — у Краснаполлі. Гутарыў з аматарамі сцэны, пераконваў, вяртаў надзею. Вывучаў здольнасці ўжо вядомых краснапольцам выканаўцаў, адкрываў новыя імёны. А там — адна прэм'ера, другая, трэцяя… І — поспех! Заслужаны поспех! І тады, як гэта ў нас часта бывае, знайшліся зайздроснікі, ледзь не хапугам аб'явілі Ермаловіча: маўляў, дзве зарплаты заграбае. Паляцелі пасквілі ў Міністэрства культуры БССР. І адабралі тады ў Валянціна Іванавіча рэжысёрскі аклад. Ды не адабралі волю, нават не пахіснулі яе. Ён па-ранейшаму прыязджаў у выхадныя дні ў Краснаполле і з яшчэ большым запалам працаваў і працаваў. Рабіў гэта не дзеля славы, не. Яму не давалі спакою трапныя словы Максіма Гарэцкага, што заселі ў памяці: «Пакажыце беларусу са сцэны, хто ён, чым ён мог быць, гукніце яго са сцэны да новага жыцця…» І ён гукаў. Гукаў праз вобразы герояў сваіх спектакляў паводле п'ес беларускіх драматургаў. А восенню 1987 года мне ў Слонім з Магілёва ад Валянціна Ермаловіча прыйшоў пакет. Адкрываю — а там афіша да спектакля «Снатворны Мак», праграмка спектакля, фотаздымкі сцэн з гэтай пастаноўкі і пісьмо. У ім мой старэйшы сябра пісаў, што «Краснапольскі народны тэатр упершыню ажыццявіў пастаноўку спектакля па п'есе твайго земляка Кандрата Лейкі "Снатворны Мак"». Я быў страшэнна ўзрадаваны і здзіўлены пастаянным імкненнем Валянціна Іванавіча да новага. Ён заўсёды быў у пошуку. На сцэну «выцягваў» не тое, што ўжо было абкатанае іншымі творчымі калектывамі, а нешта новае, забытае, арыгінальнае. Так сталася і з п'есай Кандрата Лейкі «Снатворны Мак». Сапраўды, яе ніхто ніколі не ставіў. Яна была выдадзена асобнаю кніжачкай у Вільні ў 1912 годзе і прысвечана вясковым дзецям Слонімскага павета. А сцэнічнае жыццё атрымала ў Краснаполлі праз 75 гадоў пасля яе выдання. І ігралі ролі ў гэтым спектаклі дзеці з маладзёжнай студыі народнага тэатра. Да сённяшніх дзён больш ніхто так і не ажыццявіў пастаноўкі «Снатворнага Маку».

Краснапольскі народны тэатр Валянцін Ермаловіч узначальваў 14 гадоў. За гэты час калектыў тэатра прымаў удзел у абласных, рэспубліканскіх, усесаюзных і міжнародных аглядах-конкурсах, выступаў па тэлебачанні, на розных фэстах і сустрэчах. І адусюль прывозіў дыпломы і прызавыя месцы. Ён быў узнагароджаны Граматаю Вярхоўнага Савета БССР, станавіўся лаўрэатам прэміі камсамола Беларусі і Магілёўшчыны. А рэжысёр тэатра Валянцін Ермаловіч атрымаў званне заслужанага работніка культуры Беларусі.

Пасля Краснаполля Валянцін Іванавіч працаваў рэжысёрам Бялыніцкага народнага тэатра юнага гледача, а потым — рэжысёрам народнага тэатра «Валянцін» Магілёўскага гарадскога цэнтра культуры і адпачынку. Ён планаваў, пасля свайго 80-годдзя, падрыхтаваць і выдаць кнігу «Запіскі рэжысёра народнага тэатра». Прасіў майго аднакурсніка, журналіста і пісьменніка Міхася Карпечанку з Бялынічаў быць рэдактарам гэтай кнігі. Дарэчы, у 2002 годзе Міхась даслаў мне ў Слонім сваю кніжку п'ес «Дачка волі». Уступнае слова да гэтай кніжкі напісаў Валянцін Ермаловіч. Даведаўшыся, што Міхась дасылае мне сваю кніжку, пасля ўступнага слова Валянцін Іванавіч дапісаў ручкай пару слоў: «Дарагі Сяргей. Вельмі рады за тваю актыўнасць на ніве беларускага адраджэння. Жадаю поспехаў і надалей! В. Ермаловіч. 8 мая 2002 г.».

Валянцін Іванавіч заўсёды любіў казаць: «Мы дзейсна павінны ўсведамляць словы Якуба Коласа: "Трэба шырыць ідэю тэатра, несці яго ў самыя нізіны. Беларус, як мне здаецца, мае вялікую здольнасць да тэатра"».

Валянцін Ермаловіч адчуваў сэрцам гэтую кранальную здольнасць, гэтае духоўнае яднанне сцэны і залы. І ганарыўся, што ён — беларус. А я буду заўсёды ганарыцца, што ён быў маім настаўнікам і старэйшым сябрам.

· **Віктар Шніп** ·
*(Мінск)*

## КАБ СВЕТЛА БЫЛО...

Валянціна Ермаловіча як асобы, як творцы для мяне не было недзе да 2000 года. Дакладней, ён быў, але ён быў проста як брат Міколы Ермаловіча, і я чуў пра яго тое-сёе па драбязе ад сваіх сяброў. Жыве ў Магілёве. У яго там свой тэатр, і ён ставіць неардынарныя спектаклі. Я верыў у тое, што мне кажуць, але не імкнуўся з'ездзіць у Магілёў, каб самому спазнаць асалоду ад таго, што робіць Ермаловіч і яго артысты. Такі душэўны спакой у мяне быў да таго часу, пакуль Валянцін Іванавіч не звярнуўся да Людмілы Рублеўскай за дазволам паставіць па яе драматычнай паэме «Амор Ардэнс, або Каханне палаючае» спектакль.

Гэты твор пра каханне Івана Луцкевіча і Юліяны Мэнке. Людміла не адмовілася. І я стаў назіральнікам за тым, як ідзе справа па ажыццяўленні задумы Валянціна Іванавіча. Магілёў не блізка, таму ўсе пытанні вырашаліся па тэлефоне. Мне больш не верылася ў тое, чым верылася, што спектакль будзе пастаўлены, бо Ермаловіч быў не першым, хто браўся за творы Людмілы і нешта рабіў, а потым уся праца сыходзіла на нуль, бо знаходзіліся людзі, якім нешта не падабалася — то тэма п'есы, то аўтар, то… Словам, справа да завяршэння не даходзіла. Ну і тут з Ермаловічам не верылася, што нешта атрымаецца. Час ішоў, і раптам званок з Магілёва. Нас запрасілі на прэм'еру спектакля. І мы паехалі. Нас сустрэў сам Валянцін Іванавіч як даўно знаёмых. Праз нейкую хвіліну мы забыліся пра дарожную стомленасць. П'ючы гарбату, пазнаёміліся з артыстамі тэатра, якія былі ўсе разам, як сям'я, якая жыве творчасцю і разумее творчасць іншых. Потым, пакуль быў вольны час да спектакля, нам паказалі будынак, у якім месціўся тэатр. Гледзячы на Валянціна Іванавіча і размаўляючы з ім, я ўзгадаў свайго земляка паэта Пятра Бітэля. Яны былі вельмі падобныя адзін да аднаго сваёй інтэлігентнасцю, любоўю да Беларусі, адданасцю беларускай справе. Адным словам, інтэлігенты старой закваскі.



На спектакль сабралася шмат людзей. Прыемна было адчуваць, што гэтая прэм'ера — свята, і не толькі для аўтара п'есы Людмілы Рублеўскай, для Валянціна Ермаловіча, для артыстаў, але і для ўсіх, хто прыйшоў у тэатр. Мінула з той прэм'еры шмат гадоў, а па сённяшні дзень памятаецца святло, якое ішло са сцэны і якое, трапляючы ў душы, казала, што Беларусь жыве, жыла і будзе жыць. Пасля спектакля да нашага ад'езду яшчэ было ладна часу, і нам Валянцін Іванавіч правёў невялікую экскурсію па Магілёве. Мы з Людмілай вярталіся дамоў у Мінск, як ад сваякоў, з якімі было добра.

Напрыканцы 2003 года Валянцін Ермаловіч з Віталем Скалабанам і Уладзімірам Сіўчыкавым быў у нас дома. З Валянцінам Іванавічам гаварылі пра новы спектакль па п'есе Рублеўскай і Скалабана «Людвіка і Фабіян». На развітанне Валянцін Ермаловіч напісаў у нашым альбоме-сустрэч: «Першы раз у жыцці наведаў паэтычную кватэру ў квадраце. Паэтычны дух вітае і натхняе на творчасць. Ужо адзін раз я прычасціўся гэтым духам, думаю, што творчая дружба прадоўжыцца. 7 снежня 2003 года». На жаль, 22 снежня наступнага года Валянціна Іванавіча не стала…

## ТЭАТР ВАЛЯНЦІНА ЕРМАЛОВІЧА

На сцэне патухлая свечка
як адзіная стрэлка
твайго тэатральнага гадзінніка
які спыніўся
паказваючы зімовае неба
з якога сыплецца снег
як парваная папера
на якой не з'явяцца словы
новага спектакля пра каханне
Людвікі і Фабіяна
і чуюцца крокі на сцэне
дзе нябачныя акцёры

жывуць у сваіх ролях
як у сваім свеце
які быў створаны табой
з Любові з Веры з Надзеі
і светла было
у тэатры як у сусвеце
пра які не ўсе ведалі
як мы не ведаем
ці існуе разумнае жыццё
на іншых планетах
і ты зноў запальваеш свечку
не толькі на сцэне.

**· Мікола Яцкоў ·**

*(вёска Брылі Магілёўскага раёна)*

## ЗАСТАЎСЯ ВА ЎДЗЯЧНАЙ ПАМЯЦІ

Мы жывём сярод вірлівых плыняў сустрэч і знаёмстваў, углядаючыся ў новыя характары, адчуваючы чужыя звычкі. З кімсьці нам лёгка і зразумела, хтосьці катэгарычна не ўспрымаецца нашай свядомасцю, а шмат хто наогул пралятае ледзь прыкметнай знічкай, прападаючы ў цёмных сутарэннях нашага бяспамяцтва. Але бываюць сустрэчы, якія запамінаюцца на ўсё жыццё, і ад гэтых успамінаў ужо нікуды не дзецца.

Валянцін Іванавіч Ермаловіч сонечна з'явіўся ў маім жыцці ў далёкім ужо 1974 годзе — калі я пераступіў парог сваёй першай прафесійнай вучэльні — Магілёўскага культурна-асветнага вучылішча імя Н. К. Крупскай. Я не вучыўся ў гэтага выкладчыка, але заўсёды адчуваў нейкую сілу прыцягнення, якая ішла ад ягоных усмешлівых вачэй і ад сакратаўскай бліскучасці яго лысіны. Валянцін Іванавіч амаль ніколі не з'яўляўся ў калідоры вучылішча адзін — вакол яго заўсёды віравалі вучні, і звонкі



тэмбр ягонага голасу перыядычна ўзлятаў над іх галовамі, адбіваючыся рэхам ад белых паўкружжаў старажытнай столі.

А на вучнёўскай сцэне ставіліся спектаклі, і кавалачкі ермаловіцкага сэрца заставаліся ў кожным з іх. Бо Настаўнік разумеў, што толькі аддаючы можна паказаць і распавесці — пра жыццё, пра стасункі лёсу і пра нас — такіх розных. І гэта было самай лепшай школай для вучняў, бо нельга вучыцца творчасці без творчай узнёсласці.

І ў маладых выраслі крылы; і ўжо з вышыні палёту, адарваўшыся ад зямлі, яны па-іншаму глядзелі не толькі на тэатральныя ўмоўнасці, але і на ўсё астатняе. І, дарэчы, шмат хто з вучняў Ермаловіча хоць і не звязалі сваё жыццё непасрэдна з тэатрам, але такімі і засталіся — нераўнадушнымі, дапытлівымі, маючымі здольнасці да легкакрылага, але вельмі глыбокага асэнсавання жыццёвых рэчаіснасцяў…

А ў мяне потым былі яшчэ сустрэчы з ермаловіцкай непаўторнасцю. Памятаю, аднойчы ён са сваімі выпускнікамі прывёз у Брылі спектакль пра сялянскае жыццё. Зайшоў у глядзельную залу, зірнуў на абсталяванне сцэны і адразу пачаў выбудоўваць будучае ўспрыяцце спектакля: «Так, даражэнькія, а дзе заднік сцэны? Там павінна быць заслона! Што? Ёсць? Давайце сюды!… Хлопцы, дзяўчаткі, дружна бярэмся і робім!»

І праз некалькі хвілін з-пад студэнцкіх рук узнеслася ў верхатуру памаранчавая заслона — і адразу і на сцэне, і ў зале зрабілася цёпла і па-хатняму ўтульна. А Валянцін Іванавіч, утварыўшы гэту метамарфозу, задаволена ўсміхаўся…

Былі калі-некалі сустрэчы і на нейкіх сумесных мерапрыемствах — у асноўным літаратурных. Валянцін Іванавіч па памяці чытаў бясконцую колькасць вершаў, баек — і я заўсёды здзіўляўся гэтай фенаменальнасці. Калі што і выпадала з ягонай памяці, то ён на дзве-тры секунды спыняўся, прыкладаў да галавы палец — і, відаць, менавіта з таго пальца патрэбнае слова і выскоквала жвава. І зноў лілася вершаваная прыгажосць у непаўторным выкананні.

На гэтых жа літаратурных вечарынах і мне даводзілася выконваць свае песні. І каб было не так страшна, я заўсёды адшук-

ваў позіркам Валянціна Іванавіча, бо ад яго сыходзілі супакой і вялікая ўважлівасць. У такт музыцы ён заўсёды ківаў галавой, і я разумеў, што яму цікава ўспрымаць маю музычную інтэрпрэтацыю даўно вядомых яму вершаў — і Купалы, і Багдановіча, і Пысіна. І гэта заўсёды мне надавала сілы, акрыляла і не давала згаснуць агеньчыку творчасці.

Валянцін Іванавіч заўсёды імкнуўся да таго, каб наша жыццё было наогул творчым працэсам — з радаснымі набыткамі і новым адкрыццём сонечнай неабсяжнасці нашага існавання. Такім ён і заставаўся да апошняга свайго часу. Такім ён і застанецца ў нашай удзячнай памяці.

## ВАЛЯНЦІН ЕРМАЛОВІЧ: «МУСІЦЬ, ДУША МАЯ ТАКАЯ»...

**У кнігу ўспамінаў пра Валянціна Ермаловіча мы вырашылі ўключыць і гэту гутарку Міхася Карпечанкі, якую ён запісаў у 1995 годзе, напярэдадні 70-годдзя Валянціна Іванавіча.**

Валянцін Ермаловіч. Гэтае імя на слыху жыхароў Магілёўшчыны ўжо больш за трыццаць гадоў. Па сабе ведаю, куды ні завітаў бы, абавязкова спаткаю чалавека, які знаёмы з Валянцінам Іванавічам, бачыў яго на сцэне. Па ўсёй Беларусі яго вучні, па ўсёй Беларусі — прыхільнікі ягонага таленту, па ўсёй Беларусі — супольнікі яго адраджэнскіх памкненняў.

*— Кажуць, каб лепей спазнаць чалавека, трэба пабываць на яго радзіме. Згадайце, калі ласка, колькі яркіх успамінаў свайго дзяцінства.*

— Мне ўсё часцей і часцей згадваецца бацькаў хутар. Наш дом, абсаджаны кругом кіпарысамі, вішнямі, слівамі, ясенямі. Увесну, калі сад абліваўся квіценню, гэта быў маляўнічы, яркі куток.

Добра памятаю той дзень, калі пайшоў у школу. Работы дома — процьма, старэйшыя вучацца. Бацькам патрэбна дапамога, хоць бы за домам глядзець. Тата быў супраць таго, каб я ў школу пайшоў у сем гадоў. «Усё роўна ў школу пайду!» — крычу і за дзверы. Яму нічога не заставалася зрабіць, як толькі са злосці шпурнуць мне ўслед абутак. Думаю, што ў глыбіні сваёй душы бацька жадаў, каб навуку атрымаў і я, малодшы яго сын. Аднак у тую восень так склалася.

Мае бацькі, Іван Іванавіч і Стэфаніда Юркаўна, былі самыя звычайныя сяляне. Працавітыя, яны трымаліся сваёй гаспадаркі, рабілі ўсё магчымае, каб жыць не горш за суседзяў. І вось тая працавітасць скараціла бацьку жыццё. Арыштавалі яго ў 1937 годзе, а ў наступным — расстралялі ў Курапатах. Хоць маме, калі яна прынесла яму перадачу ў Мінск, афіцыйна паведамілі, што Іван Іванавіч Ермаловіч прызнаны «ворагам народа» і асуджаны на дзесяць гадоў без права на перапіску. Мы цяпер усе ведаем, які страшэнны сэнс хаваўся за гэтай фармуліроўкай сталіністаў.

Маці пражыла дзевяноста чатыры з паловай гады. Калі забралі бацьку, ёй споўнілася толькі сорак тры. Добра памятаю, як у 1939 годзе хутаранцаў прымусова зганялі ў вёску Малыя Навасёлкі, якая пачыналася за нашым агародам. Як на добры розум, і патрэбы ў тых пярэбарах не было. Аднак жа загад мусіў быць выкананы. Прыходжу гэта я са школы, гляджу, а на даху нашае хаты арудуюць шасцёра чалавек. Разабралі яго і змыліся. Не будзеш жа жыць у хаце без даху. Папрасіла маці шваграў, пераехалі…

У той час браты і сястра здабывалі сабе прафесіі. Мікола вучыўся ў педінстытуце, Лявон — у электратэхнікуме, Марыя — у ФЗН. На вёсцы застаўся толькі я. Да вайны паспеў скончыць дзевяць класаў. І марыў паступіць у тэатральную школу.

*— Наколькі ведаю, вайна ў вашым жыцці, Валянцін Іванавіч, пакінула значны след.*

— Я сваю вайну нашу з сабой. У прамым і пераносным сэнсах. Дзевяць асколкаў фашысцкага снарада і па сёння сядзяць у маім целе. На змену надвор'я хоць воўкам вый, нішто ўжо не дапамагае.

Але, пра вайну. Мікола праз моцную блізарукасць на фронт не быў узяты. Настаўнічаў у Мардовіі. Лявон падаўся ў партызаны. Быў падрыўніком. Ордэн Чырвонай Зоркі атрымаў яшчэ

ў 1943 годзе. Я з маці і сястрой жыў у роднай вёсцы, быў партызанскім сувязным.

Да слова сказаць, у нашых Навасёлках было пяць партызанскіх сем'яў. У немцаў мы былі заложнікамі. Партызаны паставілі на шашы, што вяла ў Койданава, міну. Немцы загадалі рэгулярна валакушамі прачэсваць дарогу. Стараста знайшоў выйсце: у нас, маўляў, ёсць партызанскія сем'і, вось і няхай абясшкоджваюць дарогу. Што было рабіць? Прывязвалі да каня валакушу, я браўся за повад — і ў шлях. Ішоў па дарозе, як па лязе вострага нажа. Але пранесла.

Пасля вызвалення патрапіў на фронт. Быў чатыры разы паранены. Пасля першага ранення (10 верасня 1944 года) дамоў прыйшла «пахаванка», у якой паведамлялася, што радавы Ермаловіч Валянцін Іванавіч загінуў смерцю храбрых і пахаваны ў брацкай магіле за 200 метраў ад хутара Чары Ломжанскага раёна Беластоцкай вобласці. Ад гэтага ранення, да слова сказаць, засталося шэсць асколкаў. Як атрымалася з пахавальнай? Пакуль паранены дабіраўся да сваіх з нейтральнай паласы, мая часць змяніла дыслакацыю. Мяне ж палічылі забітым. Мікола, які на той час вярнуўся з Мардовіі, з Лявонам, атрымаўшы «пахаванку», збіраліся шукаць маю магілу. Але тут я адклікнуўся лістом са шпіталя. Спачатку не паверылі, што жывы. Думалі, напісаў пісьмо да бою.

Пасля гэтага яшчэ двойчы быў паранены ў Прусіі і 17 красавіка 1945 года пад Берлінам. Вайна, як бачыш, Міхась, добранька мяне падзіравіла.

*— А ці памятаеце той момант, калі вы дачуліся аб перамозе над фашыстамі?*

— Памятаю. У шпіталі ляжаў і хадзіў ужо ў выздараўліваючых. Тады па Германіі блукалі азвярэлыя групоўкі недабітых фашыстаў: разбівалі шпіталі, знішчалі невялікія падраздзяленні чырвонаармейцаў. Мы пра гэта ведалі. Сітуацыя была псіхалагічна напружанай. На ўвесь наш шпіталь толькі пяць вінтовак! Адна была нават без мушкі. І раптам чуем страляніну. Рыхтуемся да абароны. А тут нехта ў шпіталь прыбег — перамога!



Назаўтра адбыўся мітынг. Нам выдалі па сто грамаў гарэлкі. А як жа! Дажылі да перамогі, выжылі ў такой страшэннай калатнечы!

Я, праўда, тады так абвострана ўсё гэта не ўспрымаў. Не загінуў, ну і добра. Значыць, буду жыць. Са мной у шпіталі ляжаў адзін гомельскі дзядзька, гадоў яму было пад сорак. Дык ён увесь час паўтараў: «Рукі цэлыя, ногі цэлыя! Здаровы! Жонка і дзеці — жывыя. Абдыму іх!»

Потым, калі сам стаў сямейным, нарадзіліся дзеці, толькі і зразумеў пачуцці, душэўны стан таго гамельчука. А тады перамогу ўспрыняў проста: была вайна, і яна нарэшце скончылася.

*— І вы пачалі здзяйсняць сваю мару стаць акцёрам?*

— Не. Вярнуўшыся з фронту, пайшоў у дзясяты клас. Школу трэба было скончыць, а пасля яе наважыўся паступаць на юрфак. Хацеў быць пракурорам, змагацца з рознай сволатой. Ужо й дакументы падрыхтаваў. І трэба ж было завітаць у вясковую бібліятэку. І трэба ж было пацягнуцца да газеты «ЛіМ». А там якраз аб'ява: «Тэатральна-мастацкі інстытут аб'яўляе прыём абітурыентаў». Прызнацца, я і не ведаў, што ў Мінску такі ёсць. Да вайны я хацеў вучыцца ў тэатральнай школе. А тут — інстытут! Сябрам, з якімі збіраўся паступаць на юрфак, кажу: «Хлопцы, пайду ў акцёры». І пайшоў.

Вучыўся я ў выдатных майстроў беларускай сцэны — Саннікава, Міровіча, Арлова. Гэта былі не проста шчырыя, адданыя сваёй працы людзі, а патрыёты Беларусі.

*— Чаму менавіта сялянскі юнак з Койданаўшчыны захацеў стаць акцёрам?*

— Мусіць, душа мая такая. Памятаю, калі вучыўся ў трэцім класе, настаўнік наш Якаў Лук'янавіч Балашэвіч даручыў мне на канцэрце з нейкае нагоды прачытаць «Першыя заробкі» Коласа. Не магу сказаць, якім атрымалася тое чытанне, але ўсе хвалілі маё выступленне. Мяне зачаравала сцэна. Наогул, у часы майго дзяцінства людзі вельмі захапляліся мастацкай самадзейнасцю, спектаклі ставіліся ледзь не ў кожнай вёсцы. Бацькаў брат Іосіф, мой старэйшы брат Мікола, іншыя хлопцы і дзяўчаты збіраліся па вечарах у нашай хаце, развучвалі п'есы. Рэпеціравалі, ставілі

спектаклі. Здаецца, мая першая сур'ёзная роля — Марыська ў «Пінскай шляхце» Дуніна-Марцінкевіча. Ставіла спектакль наша, так бы мовіць, сямейная трупа. Мікола іграў Кручкова, Лявон — Пратасавіцкага. Ролю Марыські павінна была выконваць сястра Марыя. Але, калі ёй сказалі, што трэба будзе цалавацца, не пагадзілася прымаць удзел у спектаклі. Як ні ўгаворвалі яе. Я ўсё гэта чуў і прапанаваў: даручыце мне сыграць Марыську. Зрабіў сабе шыкоўны парык. І ўжо, калі паказалі «Пінскую шляхту» ў вясковым клубе, пасля спектакля адзін дзядзька ўсё ламаў сабе галаву: «Усіх акцёраў пазнаў, чые яны, а вось дзяўчынку, хоць трэсні, не распазнаў». Гэта таксама падахвоціла да тэатральнае справы.

Сямікласнікам я напісаў невялічкую п'есу. Яе нават паставілі на школьнай сцэне. Назва ўжо забылася, але помню, што пра шпіёнаў. Тады ж была шпіёнаманія. Вяскоўцаў рэгулярна прымушалі прачэсваць лес. Не помню, праўда, каб хоць аднаго якога шпега злавілі…

Уразіў мяне вельмі спектакль купалаўцаў па п'есе Крапівы «Партызаны». Паглядзеў яго дзякуючы брату Міколу, які спецыяльна на яго звазіў мяне ў Мінск. Мусіць, усе гэтыя акалічнасці, якія зберагла памяць сэрца, і паўплывалі на той мой выбар.

— *Ваша прафесійная дзейнасць пачыналася са сцэны?*

— Чатыры гады пасля заканчэння інстытута адпрацаваў у Пінскім абласным драмтэатры. Выконваў ролі характарныя, камедыйнага плану. Але ў тым тэатры давялося сыграць і Пётру з «Апошніх» Горкага. Роля драматычная, трагедыйная. Па ліквідацыі Пінскай вобласці трупа перабралася ў Магілёў. Яшчэ два гады быў акцёрам. А ў 1956 годзе запрасілі на працу ў Магілёўскае культасветвучылішча, дзе да 1985 года выкладаў рэжысуру і адначасова, каб лепш пазнаць для сябе самадзейнасць, стварыў тэатральны калектыў на шоўкавай фабрыцы, які хутка стаў народным. Узначальваў трупу Краснапольскага тэатра — Аляксей Пысін папрасіў, працаваў рэжысёрам тэатра юнага гледача ў Бялынічах, зараз — у тэатры «Валянцін» Магілёўскага гарадскога Цэнтра культуры і вольнага часу.



Свой першы спектакль як рэжысёр паставіў у культасветвучылішчы. Спектакль па п'есе Я. Коласа «Забастоўшчыкі». А ўсіх зрабіў больш за сотню. Больш за ўсё любіў ператвараць у спектаклі п'есы малавядомых драматургаў. Іван Ісачанка напісаў п'есу «Мурын бор» — пра вядомае Крычаўскае паўстанне. Здаў яе ў прафесійны тэатр, чакаў, але п'есу не ставілі. Я зацікавіўся творам, разам з аўтарам зрабілі яшчэ адзін варыянт. Пайшла. Потым паставіў спектаклі яшчэ па дзвюх Ісачанкавых п'есах.

З «Гаўрошамі Брэсцкай крэпасці» Алеся Махнача адбывалася тое ж самае. Першая пастаноўка гэтага спектакля належыць мне.

Алесю Петрашкевічу прафесійны тэатр адбіў быў ахвоту нават пісаць. Патрапіў я на яго п'есу «Адкуль грэх, адтуль і збаўленне». Аўтар для мяне незнаёмы, п'еса спадабалася. Праз Алеся Махнача запрасіў Петрашкевіча на прэм'ерны паказ спектакля, які паставіў з навучэнцамі культасветвучылішча. Прыехаў і адразу да мяне з пытаннем: «Дзе ўзялі п'есу?» — «У Доме творчасці» — адказваю. «А які варыянт? Я ж п'есу гэту перапісваў шмат разоў. Купалаўцам усё не падыходзіла. Аскоміну набіла яна мне».

Пасля спектакля, а прайшоў ён удала, Алеся Петрашкевіча паклікалі на сцэну. І адтуль ён пакляўся, што стане драматургам.

Колькі гадоў таму з акцёрамі Бялыніцкага ТЮГа паставілі чарговую п'есу Петрашкевіча — «Дагарэла свечачка». Першымі паставілі.

З акцёрамі тэатра «Валянцін» паставілі спектакль па апавяданні Васіля Быкава «На Чорных лядах». Пераўвасабляем у спектакль п'есу Францішка Аляхновіча «Пан міністр».

— *Вы ўвесь час працуеце дзеля нацыянальнага адраджэння. Гэта што — патрэба душы?*

— Так, гэта патрэба маёй душы. Я меў шчасцейка нарадзіцца на зямлі крывічоў. У ваколіцах мае роднае вёскі шмат курганоў, людзі апавядаюць мноства цікавых легендаў. У Навасёлках жыў Казімір Кастравіцкі — актыўны ўдзельнік нацыянальна-вызвольнага паўстання Кастуся Каліноўскага. Яго сын, знакаміты Карусь Каганец, хоць і нарадзіўся ў Сібіры, ды не выракся мат-

чынага слова, стаў беларускім пісьменнікам і, дарэчы, адным з заснавальнікаў Беларускай сацыялістычнай Грамады.

Малым я бачыў хату Каруся Каганца. Пахаваны ён на нашых могілках. Мае дзядзькі, бацькаў і матулін браты, закончылі Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю, заўсёды размаўлялі толькі па-беларуску, дый самі бацькі заўсёды карысталіся беларускім словам.

Вялікі ўплыў на мяне зрабіў Канстанцін Міхайлавіч Саннікаў. Старэйшы брат Мікола з малых гадоў маіх заразіў беларушчынай і ўвесь час падахвочваў да гэтае нялёгкай і высакароднай справы. Не магу не прыгадаць і Аляксея Пысіна. Яго бескарыслівае служэнне Беларусі, роднай літаратуры, матчынаму слову было для мяне яркім прыкладам, паслужыла імпульсам для асабістай адданасці адраджэнскай рабоце. Таму ўваходжанне ў «Мартыралог Беларусі», ТБМ імя Ф. Скарыны, БСДГ, падтрымка ідэй БНФ «Адраджэнне» для мяне сталіся заканамернымі, усвядомленымі крокамі.

— *Вучняў сваіх вы таксама заразілі беларушчынай?*

— Сапраўдны работнік нацыянальнай культуры абавязаны быць патрыётам Радзімы. Без гэтага нельга. Іначай страчваецца сэнс усяе тае работы. А беларуская мова дазваляе чалавеку ў поўнай меры раскрыць талент. Я згадваю аднаго свайго вучня, Міколу Макарцова. Памятаю яго на ўступных экзаменах. Вясковы хлопец, скаваны нейкі. Чытае вершы па-расійску. Не ведаю, як быць. Пытаюся: «А па-беларуску вы можаце што-небудзь прачытаць?» — «Магу», — адказвае. І яго быццам святой вадою акрапілі. Во што значыць родная мова! Мікола пазней стаў збіральнікам фальклору, стварыў ансамбль «Жалейка», скончыў аспірантуру…

***1995***



# ЗМЕСТ

*Літаратурна-мастацкае выданне*

АЧЫШЧЭННЕ ДУШЫ

*Успаміны пра Валянціна Ермаловіча*

Адказны за выпуск *Г. Вінярскі*
Рэдактар *С. Чыгрын*
Вёрстка *Л. Ваўчок*
Карэктар *А. Спрытнич*

Падпісана да друку 2.12.2014. Фармат 84×108 $^{1}/_{32}$.
Папера афсетная. Рызаграфія. Ум. друк. арк. 5,46.
Ул.-выд. арк. 4,56. Наклад 300 ас. Зак. .

ПУП «Кнігазбор».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюдніка друкаваных выданняў № 1/377 ад 27.06.2014.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка ў ААТ «Аргбуд».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюдніка друкаваных выданняў № 2/167 ад 1.10.2014.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.